

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

10 кастрычніка 1997 г. № 41/3917 Кошт 3 000 руб.




*... На рэштках замка, што стаяў вякамі,*
*Каменне размываецца дажджамі*
*І ў травах патанае пад вятрамі.*

*Да рэштак замка — праз наш дзень дарога,*
*У рэштках замка — галасы былога*
*І сумны прывід воя маладога...*

*Фота Навагрудскага замка зрабіў Кастусь ДРОБАЎ*

## ШКОЛА ДЗЁН

***Да прэзідэнцкіх выбараў у Расіі яшчэ амаль тры гады, а размова пра іх ужо распачата. І не толькі размова, але і канкрэтныя дзеянні. Рыгор Яўлінскі афіцыйна абвясціў, што ён будзе ўдзельнічаць у новых выбарах. Збіраюцца зрабіць гэта Аляксандр Лебедзь, Уладзімір Жырыноўскі і, як ні дзіўна, зноў... Барыс Ельцын. Ягоная каманда імкнецца зараз даказаць, што паводле цяперашняй расійскай Канстытуцыі Б. Ельцын знаходзіцца на пасадзе не другі, а першы тэрмін. А значыць, мае права балатавацца яшчэ раз... Ад усіх гэтых дачасных гульняў ствараецца ўражанне, што выбары прэзідэнта ў Расіі павінны адбыцца калі не сёлетняй восенню, дык наступнай вясною абавязкова (прынамсі, Дзяржздума і апазіцыя не супраць гэтага). І тады зусім у іншым святле бачыцца нядаўні канфлікт між прэзідэнтамі братніх краін, што ўтварылі адзіны Саюз. Ці не палічылі запланаваны візіт А. Лукашэнкі ў Ліпецкую і Яраслаўскую вобласці ў кіраўніцтве Расіі за пачатак перадвыбарчай кампаніі яшчэ аднаго канкурэнта? І пералёт — не дазволілі... Здаецца, у Маскве, нарэшце, пачулі перасцярогі і прагнозы, якія выказвала беларуская апазіцыя ледзь не з першых дзён прыходу да ўлады А. Лукашэнкі. Да таго ж, Б. Ельцын змагар вопытны і добра ведае, што ў палітычнай гульні заўсёды прайграе той, хто недаацэньвае саперніка.***

### ВЫЗВАЛЕННЕ ТЫДНЯ

Павел Шарамет на волі. Мера стрымання яго зменена на падпіску аб нявыездзе. Стала магчыма гэта, паводле слоў самога П. Шарамета, дзякуючы цвёрдай пазіцыі прэзідэнта Расіі Б. Ельцына, які дзеля вызвалення з турмы расійскага журналіста пайшоў нават на канфлікт з кіраўнікам суседняй дзяржавы... Следства па справе П. Шарамета завершана, адвакаты Г. Паганяйла і М. Вочак прыступілі да вывучэння яго. Пра тое, калі адбудзецца суд над П. Шараметам і іншымі "парушальнікамі мяжы" супрацоўнікамі ГРТ (і ці адбудзецца ён увогуле), пакуль не гаворыцца.

### ТЭРАКТ ТЫДНЯ

6 кастрычніка раніцай у Магілёве на лесвічнай пляцоўцы ля сваёй кватэры забіты дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацсходу Беларусі, старшыня Камітэта дзяржкантролю Магілёўскай вобласці Яўген Мікалуцкі. Ні ў каго не выклікае сумненняў факт, што гэта быў тэрарыстычны акт, што Я. Мікалуцкі быў забіты наёмнымі забойцамі... Выступаючы на пахаванні паплечніка, прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка сказаў, што злачынцы-забойцы "падбіраліся да мяне, але не атрымалася. Вырашылі пачаць з тых, хто са мною побач, хто змагаўся з нечысцю. Я разумею, што гэта выклік. І хачу аб'явіць нечысці, што выклік я прымаю... Нас можна забіць, але нельга запалохаць, і зямля будзе гарэць у вас пад нагамі..." Рашучасць і крутасць мераў, што прымаюцца ўладамі пасля гэтага тэракта, дазволілі некаторым журналістам правесці паралелі паміж тым, што адбываецца ў Беларусі цяпер, і тым, што адбывалася ў СССР пасля забойства С. Кірава. Вядома, любое параўнанне грашыць недакладнасцю, але не будзем спяшацца з высновамі.

### ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Візіт генеральнага сакратара НАТА Хаўера Саланы, які намячаўся на 22—23 кастрычніка, адкладзены на няпэўны тэрмін. Прычынай пераносу прыезду Х. Саланы на Беларусь стала рашэнне Савета Еўропы аб увядзенні санкцый адносна нашай краіны. Такім чынам, на "няпэўны тэрмін" адкладваецца і падпісанне пагаднення паміж Беларуссю і НАТА, у заключэнні якога быў асабліва зацікаўлены некалі якраз паўночна-атлантычны блок. Беларуская ўлады не ішлі на кантакты з НАТА да апошняга. І вось калі яны сказалі "так", НАТА гаворыць — "пачакайце..."

### ПАРАЗУМЕННЕ ТЫДНЯ

У мінулыя выхадныя ў Мінску адбыўся XXXIV (заўважце!) з'езд КПБ. На яго прыехала 520 дэлегатаў (з 7 тысяч членаў), а таксама госці-калегі з краін блізкага і далёкага замежжа. Удзельнікаў з'езда прывітаў прэзідэнт Беларусі, а яны, у сваю чаргу, падтрымалі курс А. Лукашэнкі на аднаўленне СССР... Цяжка не пагадзіцца з першым сакратаром ЦК КПБ В. Чыкіным, што ягоная партыя паступова становіцца "першай лэдзі" ў нашай краіне (і не толькі ў камуністычным руху). Вяртанне да былых ідэалаў і ідалаў на Беларусі пашыраецца. І, што важна, не без дапамогі ўладных структур.

### КАНФУЗ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні адбыўся і яшчэ адзін, як казалі раней, форум — Першы з'езд настаўнікаў Беларусі. І яго вітаў прэзідэнт Беларусі. Але вось што падалося дзіўным: ні ў дакладзе, ні ў выступленнях дэлегатаў ніхто хоць бы адным словам не прыгадаў такі "дзейсны сродак выхавання", як літаратура. Больш таго, на з'езд настаўнікаў не быў запрошаны ніводзін пісьменнік (прысутнічаў толькі Генадзь Бураўкін, але — як старшыня ТБМ). На з'ездзе былі святары, генералы, прадстаўнікі ўладных структур... Не было толькі тых, каго павінны былі запрасіць (і запрашалі раней на падобныя мерапрыемствы) у першую чаргу, — літаратараў, нават тых, што самі выгадавалі не адну сотню настаўнікаў і не адзін год жыцця аддалі непасрэднай выхаваўчай рабоце: Ніла Гілевіча, Івана Навуменкі, Алега Лойкі... Забылі? Надта ж часта апошнім часам пачалі "забываць", каб палічыць гэта недарэчнай выпадковасцю

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Напачатку некалькі пастулатаў. Першы: Беларусь — краіна маленькая, прынамсі, значна меншая за Расію і ЗША. Другі: прэзідэнт Беларусі абяцаў змагацца і змагаецца за скарачэнне адміністрацыйна-кіраўнічага апарату... А цяпер лічбы: колькасць міністэрстваў у ЗША складае — 11, у Расіі — 21, а ў Беларусі — 27, колькасць дзяржкамітэтаў у ЗША — 6, у Расіі — 17, а ў Беларусі — 35. Справа, вядома, не ў колькасці міністэрстваў і дзяржкамітэтаў, а ў колькасці супрацоўнікаў у іх, але, пагадзіцеся, і без таго лічбы ўражваюць. А назвала іх "Народная воля" 7 кастрычніка г.г.

### НАМЕР ТЫДНЯ

Мінскі гарвыканкам даў дазвол на правядзенне ў нядзелю, 12 кастрычніка, шэсця і мітынгу дзеля выказання пратэсту "супраць збяднення людзей Беларусі". Шэсце пачнецца ў 11 гадзін ад станцыі метро "Трактарны завод". Арганізатарамі шэсця і мітынгу сталі прадстаўнікі незалежных прафсаюзаў і апазіцыйных партый, а стаць удзельнікамі іх, у адрозненне ад афіцыйных "мерапрыемстваў", могуць усе жадаючыя.

---

З'ЕЗДЫ

# Вучыцца і вучыць

Напярэдадні Дня настаўніка, у сталічнай канцэртнай зале, што па вуліцы Кастрычніцкай прайшоў I-ы з'езд настаўнікаў Беларусі. На ім прысутнічала 625 дэлегатаў з усіх куткоў нашай краіны. На з'ездзе былі абмеркаваны шляхі рэфармавання школы, прааналізаваны шматлікія праблемы, якія сёння стаяць перад настаўнікамі і ўсім нашым грамадствам.

Перад дэлегатамі з'езда выступіў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, які, у прыватнасці, паведаміў, што ім падпісаны ўказ аб мерах па сацыяльнай падтрымцы настаўнікаў. Згодна з указам на працягу бліжэйшых трох гадоў павінна павялічвацца заработная плата школьных работнікаў не менш, чым на 40 працэнтаў. З вуснаў прэзідэнта прагучала і тое, што "цяперашняе становішча з вывучэннем замежных моў у нашых школах далей проста недапушчальнае. Кожны выпускнік нашай школы ў наступным стагоддзі павінен ведаць замежную мову". Гэта добра, але няўжо становішча з вывучэннем роднай беларускай мовы ў нашай краіне па сённяшні дзень лепшае, чым з замежнай...

На з'ездзе настаўнікаў былі аб'яўлены пераможцы Рэспубліканскага конкурсу педагагічнага майстэрства "Крышталёвы журавель-97". Галоўны прыз — ключы ад аўтамабіля ўручыў сам прэзідэнт — атрымала настаўніца гісторыі Ашмянскай СШ N 2 Валянціна Гінчук. Памятнымі падарункамі ад шматлікіх спонсараў конкурсу былі ўзнагароджаны географ з Магілёва Рыма Клінцова, выкладчык выяўленчага мастацтва магіляўчанка Вольга Кульценка, гісторык з Пінска Вячаслаў Лазінскі, псіхолаг з Баранавіч Алег Савось і гродзенскі выкладчык працоўнага навучання Аляксандр Чэк.

Першыя вынікі школьных пераўтварэнняў настаўнікі змогуць абмеркаваць ужо праз год — педагагічныя з'езды вырашана праводзіць кожныя тры гады, а паміж імі — штогадовыя нарады сталічных і правінцыйных школьных работнікаў.




*На здымку: пераможцы конкурсу "Крышталёвы журавель-97"*

*Фота Г. СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

---

ВІНШУЕМ!

# "Дзе-Я?" без пытальніка

Адкрыццё сезона ў мінскім тэатры драмы "Дзе-Я?" супала з 50-годдзем яго заснавальніка і мастацкага кіраўніка Мікалая Трухана, а таксама з 10-годдзем самога калектыву. Да падвойнага юбілею, натуральна, падрыхтаваліся, запрасілі гасцей. З вялікімі букетамі і падарункамі прыйшлі першы намеснік міністра культуры У. Рылатка, іншыя афіцыйныя асобы, а таксама сябры, родзічы, землякі.

Напачатку артысты паказалі кантамінацыю па п'есах Шэкспіра "Распад" — спектакль досыць змрочны, але адметны сваёй паліфанічнасцю і — як заўжды ў Трухана — канцэптуальны. "Найжалобнейшая камедыя" — так абазначаны жанр відовішча. І хоць героі раз-пораз прамаўляюць па-англійску, але толькі з вялікай нацяжкай іх можна лічыць шэкспіраўскімі.

Пасля працэдуры віншаванняў дзеянне памяняла рытм і танальнасць: распачалося тое, што названа хатнім словам "капуснік". Тут былі смешныя рэпрызы і сумныя прызнанні, сарказм удзельніка-юбіляра і экспромты з глядацкіх шэрагаў, і ўсё гэта густа перасыпана цытатамі з наяўнага рэпертуару. Блукалі прывіды, круціліся лялькі на коле, мяняліся персанажы, касцюмы, маскі, і ўжо цяжка было адрозніць, дзе тут цвёрдая рэжысёрская рука, а дзе нястрыманая акцёрская фантазія.

Але і гэта не стала фіналам бенефіса: пасля натомленых самавыяўленнем артыстаў выйшлі ўсе, хто 10 год служаць Яго Вялікасці Тэатру — афарміцелі, швачкі, тэхнічная група, бухгалтаркі, гаспадарнікі... Здавалася, перад намі адна дружная сям'я, на долю якой выпалі як цяжкасці станаўлення трупы, так і поспех на прадстаўнічым тэатральным свяце ў Эдынбургу.

У прывітальным слове хтосьці заўважыў, што перад намі тэатр, які, у адрозненне ад многіх студый канца 80-х, стаў на ногі і сцвердзіўся ў апошнія, нялёгкія для культуры гады. "У назве "Дзе-Я?" час прыбраць пытальнік", — не без дасціпнасці сказаў кіраўнік адміністрацыі Заводскага раёна сталіцы В. Юхновіч. Мо і праўда — час?

Гэтыя словы перагукаюцца з вершам на запрашальным квітку (яго аўтар, загадчык літаратурнай часткі У. Ківатыцкі, сціпла не падпісаўся):

***Ёсць час спакус і адкрыцця.***
***Мастак павінен праз усе мукі***
***Ўздымаць над хібамі жыцця***
***У неба ўкленчаныя рукі.***

**Г. К.**



*На здымку: Мікалай Трухан і Тамара Міронава ў спектаклі "Жаніцьба".*

---

АДГАЛОСКІ

# Праблема застаецца

Як мы ўжо паведамлялі, 10 верасня кіраўніцтва Белдзяржуніверсітэта абвясціла свäім студэнтам-кантрактнікам новыя кошты навучання. Маладым людзям было прапанавана заплаціць да першага кастрычніка сумы, якія значна перавышаюць лічбы, азначаныя ў дамовах. Зроблена гэта было з відавочным парушэннем Грамадзянскага кодэкса нашай краіны, у якім запісана: "Аднабаковая адмова ад выканання абавязку і аднабаковае змяненне ўмоў дамовы не дапушчальна, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных законам". Відаць, ведаючы аб гэтым, дэканы факультэтаў не сталі прымушаць студэнтаў тэрмінова (літаральна за два тыдні) уносіць у бюджэт ВНУ дадатковыя мільёны. Але распараджэнне рэктара ніхто не адмяняў. Тым часам, ва універсітэце адбываюцца дастаткова дзіўныя рэчы. Пад пагрозай адлічэння студэнты падпісваюць новыя кантракты, не скасаваўшы ранейшыя. Прычым, напрыклад, на журфаку кантрактнікаў выклікаюць у дэканат групамі ў розныя дні. Чаму не сабраць усіх разам у актавай зале? Шмат хто лічыць, што справа тут у юрыдычнай небездакорнасці дзеянняў рэктарата. Ускосна сведчаць аб гэтым перамовы са Свабодным прафсаюзам студэнтаў. Раней такая магчымасць была толькі ў афіцыйных прафсаюзаў. Магчыма, некага палохае, што знойдзецца чалавек, які зробіць павышэнне аплаты прадметам разгляду ў судзе. Як бы там ні было, аб абмене распараджэння А. Казуліна размова ўжо не ідзе. Студэнты патрабуюць толькі адтэрміноўкі аплаты і гарантый таго, што ў наступным навучальным годзе кошты зноў не павысяць.

На мінулым тыдні маладыя людзі праводзілі пікеты, якія доўжыліся некалькі дзён і мелі на мэце прыцягнуць да ўласных праблемаў увагу грамадскасці. У пікетаванні бралі ўдзел як "звычайныя" студэнты, так і маладзёжныя фракцыі БНФ і АГП. Галоўны лозунг пікетчыкаў "Мы — не дойныя каровы!"

Пакуль адны выходзілі на вуліцу, другія шукалі з рэктарам кампрамісаў і ўносілі свае прапановы. Студэнты выступаюць за стварэнне камісіі па распрацоўцы праекта дамовы "Аб платнай падрыхтоўцы спецыяліста з вышэйшай адукацыяй" у складзе: рэктарат, СПС БДУ, прафсаюз студэнтаў БДУ. Падчас працы камісіі да 1.12.97 выпрацаваць узгодненыя варыянт дамовы. Прапаноўваецца таксама да 10 студзеня правесці перазаключэнне дамоваў па ўсіх факультэтах і курсах, адтэрмінаваць аплату па новых тарыфах. Мабыць, будзе разгледжана магчымасць дыферэнцыяванага павышэння аплаты за навучанне ў залежнасці ад курсаў. Акрамя таго, заслугоўвае ўвагі пытанне павышэння аплаты за пражыванне ў інтэрнаце для кантрактнікаў.

Было б толькі жаданне рэктарата пайсці насустрач студэнтам.

**Вадзім ДОЎНАР**

ФЕСТЫВАЛІ

# Роскіды і росквіты

Як "Чароўная ноч" над "Раскіданым гняздом" выглядае сёння ці не кожны творчы фэст у Беларусі. Абодва акадэмічныя беларускія тэатры (Купалаўскі ды Рускі) справу на паказаліся на берасцейскай "Белай вежы": з 2 па 5 кастрычніка ім наступнічалі ды папярэднічалі адзінаццаць драматычных і восем лялечных спектакляў. Абсалютным лідэрам сярод першых зрабіўся літоўскі "Іванаў" з Вільні. Маладыя акцёры тэатра "Вайдзілас" паўдзельнічалі ў сваім першым міжнародным фестывалі і звезлі з яго гран-пры. Мастацкі лідэр "Вайдзіласа" Альгіс Латэнас, вядомы тэатральнай Беларусі як акцёр Маладзёжнага тэатра (Эймунтаса Някрошуса), яшчэ раз упэўніўся ў якасці ўласнага майстэрства — ужо рэжысёрскага. Адзінаццаць маладых літоўскіх акцёраў — у вартасці наследавання знакамітай і пэўнай ужо школе Маладзёжнага тэатра. "Мы ведалі, як іграць Чэхава, а вы — не ведалі, — прамаўляў да літоўцаў Сяргей Яўдошанка, берасцейскі тэатральны патрыярх. — Таму вы яго іграеце, як дыхаеце, а мы — як здыхаючы". А рэч была ў тым, што і Брэст нядаўна зазнаў свайго "Іванава", пра якога я падслухала ужо ў антракце ад паненкі-берасцейкі: "Гэтыя (літоўцы. — **Ж. Л.**) іграюць на сваёй мове, і ўсё зразумела, а нашых я і па-руску не разумею!" Так што каментарыі залішнія.

Альгіс Латэнас і ягоныя выхаванцы надалі фестывалю канчатковага бляску, аднак і рэжысёр Дзмітрый Лазорка (ягоны поспех на майскіх "Славянскіх тэатральных сустрэчах" у Гомелі яшчэ не забыўся) са спектаклем "Войцак" паводле Бюхнера даў работы знаўцам ды аматарам тэатра. Раскіданае гняздо на нямецкі манер, вяртанне салдата Войцака дахаты, разадраны, пашкуматаны свет і людзі ў ім, апакаліпсіс часоў першай сусветнай вайны, — і рэжысура, якая дала падставу для размоў пра плынь найноўшага ўкраінскага авангарда, пра своеадметнасць рэжысёрскай асобы Дзмітрыя Лазоркі. Маскоўскі спектакль "Тут быў СССР", які прапанаваў тэатр "Чорнае неба белае", апавядаючы пра роскід ды распад на свой манер, не меў, аднак, з нярвовасцю й вастрынёй украінцаў нічога агульнага. Рэжысёр Дзмітрый Арупін, а па сакрэце паведамлялі пра ягоную абазнанасць у фізіка-матэматычных навуках, бліскуча паяднаў тэхніку (светлавую, гукавую) і тэхнічнасць (акцёрскую). Утварыў гэткі гадзінавы сцэнічны кліп на двух выканаўцаў (Андрэй Івашнеў і Марчэла Солтан сабралі ўсемагчымыя прызнанні не аднаго міжнароднага фестывалю). Сэнс — у канстатаванні перапўтварэння на ўзроўні плоцевым, генным, біялагічным пасля вялікага сямідзесяцітрохгадовага савецкага эксперыменту. Мы даўно і старанна рыхтавалі сабе Чарнобыль, каб і яго перагварыць у агульнае месца...

Тэатры з Любліна ды Плевена (Польшча і Балгарыя) выдавалі ўжо на анахранізмы, заблукаўшы ў мастацкім часе. Фотас Фатыядзес (Кіпр, Нікасія), як выканаўца монаспектакля (у сваю чаргу — вельмі спецыфічнага і для монаспектакляў), проста не мог супрацьстаяць у сваёй вагавай катэгорыі каму б там ні было. Мангольскі тэатр з Дархана, які атабарыўся ў фестывальных межах праездам з Польшчы, падаваў узор этнаграфічнага адраджэння, безумоўна цікавы, але — безумоўным этнаграфізмам. Брэст выставіў на конкурс "Кахання — кнігу залатую", якое на справе перакінулася рэжысёрскай безгустоўнасцю і кічам а ля руская мінуўшчына часоў гасударыні Кацярыны, сервіраваным на палескім бялоце. Здаецца, больш за што іншае ўразіла рэжысёрава прозвішча гэтага сцэнічнага роскіду — Вітаўтас Грыгалюнас. Вядомы сваімі альтэрнатыўнымі супрацьстаяннямі шараговасці дзяржаўных тэатраў...

Лялечная праграма з драматычнаю ніяк не кантактавала, не перасякалася і не выяўляла агульных пунктаў. Між тым "Белая вежа" залучыла на свае пляцоўкі такі адметны шэраг выпадковасцяў, што яны, уціскаючы адна адну, раптоўна склаліся ў сістэму й выявілі: як шмат прыёмаў, якія здаўна лічацца за лялечнікамі, можна ўбачыць цяпер і на драматычных сцэнах! А як драматычны гарт мусіць дапасоўвацца да традыцыйнай налаўчонасці лялечніка! Вось на гэтай расплывістай і зменлівай, і тым самым вабнай мастацкай мяжы мог бы збірацца наступны берасцейскі фестываль, усемагчымыя прыватныя роскіды й раскіданні збіраючы ў букет тэатральнага росквіту.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

ЭКСЛІБРЫС

## "Вялікдзень"

*Багдановіч Ірына. Вершы. Менск. "БКГ". 1993.*

**Цікава, часам, пагартаць нестары яшчэ зборнік вершаў, на які, чамусьці, калі ён выйшаў, так і не з'явілася рэцэнзія. І зборнік, адразу прызнаюся, добры, і паэтка вартая, а вось ніхто так і не напісаў. Таму я з задавальненем выпраўляю гэты хіб у нашым літаратурным працэсе. Бо кожны тады можа падумаць: а нашто пісаць і выдавацца, калі нават на добрыя зборнікі і — ніякай рэакцыі?**

**Я гартаю яго ўжо каторы раз і ў мяне ўзнікае ні з чым непараўнальнае пачуццё асалоды і эстэтычнага задавальнення ад паэтычнага свету, створанага аўтаркай, пра што б яна ні пісала.**

**Прыемная літаратурнасць вершаў І. Багдановіч, душу якой кранае аўтограф Эпімаха-Шыпілы, "дробных літарак прыгожы ланцужок", якая "пазнае па крыптанімах і псэўданімах Блізкіх і даўно знаёмых мне людзей", якая, урэшце, чытала Біблію і можа нязмушана выкарыстаць біблейскі вобраз: "Я сню, што я прыйшла Марыяй-Магдаленай і не знайшла Цябе ў труне, Распяты Край".**

**Прыемная любоў паэткі да Вільні. А хто са сведамых беларусаў не любіць Вільню, "гэты дзівосны, старадаўні горад, горад старых пажоўклых балонак", гэтыя "муры здаўна ўлюблёнай Вільні, Малюнак сэрца дарагі", дзе "у дворыку старым, дзе выгляд запусцення і забыцця царуе, Стаім і мы".**

**Прыемная і асабістая шчырасць І. Багдановіч, якая просіць Усявышняга: "Госпадзе, душу маю крані Ласкаю світальнага пагляду, Над сабой Тваю прымаю ўладу, І, слабую, Ты мяне ў прынадах, І спакусах дня абарані". Яна добра ведае свае слабасці, але гэта ж зноў, прыемныя слабасці жанчыны; "Я ізноў мітуслівая пані, Паддаюся прынадам, спакусам, Гэты вэрхал жыццёвы заманіць, Зачаруе мядовым прымусам, Ад яго адлучыцца нязмога". І натуральна, што ў такой жанчыны жаданы мужчына, гэта "князю мой светлы", ці "рыцар самотны", ці "вершнік з забароненага герба".**

**І хаця ў асабістым жыцці яна, як сама прызнаецца, з тых, што "не ўмее паляваць, Я з тых, каго заўжды палююць", але грамадзянскія розум вострэ і дакладны. Мусіш, хоць і не надта прыемна, пагаджацца з паэткай пра тое, што "фарысэі мелі толькі адзін і нядрэнна аплочаны клопат: Навучалі аб Краі, што гэта задворак Расеі", і таксама хочацца разам з ёй верыць, што Край усё ж "прадмесце Эўропы".**

**Жаноцкая наўпэўненасць урэшце аказалася відушчаю. І тады, калі ўсе спявалі гімны разумнаму беларускаму народу, які раптоўна ўскочыў у цягнік незалежнасці, паэтка ціха, з жалем заўважала: "О, якою жабрачкай глядзішся, Айчына мая!"**

**У характары жанчыны вагацца і сумнявацца. Гэтыя развагі і сумневы не замутняюць чыстай плыні вершаў І. Багдановіч, краса якіх у празрыстасці і жаноцкасці.**

**Алес БЯЛЯЦКІ**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Гульня ў розыгрыш

Насампраўдзе прэм'ерным "Містэрам Розыгрышам" паводле Сяргея Кандрашова (як тут стрымацца: такі варты драматургічны дэбют!) распачала сёлетні сезон "Вольная сцэна" 20 верасня. Каб жыццё тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі заладзілася на восень, зіму ды вясну, — так, як заладзілася прэм'ера ў рэжысёра Венедыкта Растрыжэнкава! Пры ўсіх інтрыгуючых паваротах самой п'есы, яе сцэнічнае ўвасабленне сталася і дзейсным, і дакладным ва ўзаемадачыненнях акцёраў (апошняе, зрэшты, заўсёды вылучае спектаклі Растрыжэнкава). Над усім пануе ўнутранае напружанне, унутранае жыццё кожнага з персанажаў, матывоўкі іхніх учынкаў — і не ўчынкаў таксама.

...Сцэнічнае лецішча на два паверхі, асталяванае мастаком Віктарам Цімафеевым, вылучаецца дабрабытам і нават густам, які відавочна падтрыманы гаспадарскімі грашыма. Персанажы паволі збіраюцца ў гэтай траха не класічнай дэтэктыўнай прасторы, але драматург Кандрашоў не мае намеру заваліць выхад снегам або адрэзаць грамаду ад свету паводкай, — у духу Агаты Крысці. Або прымусіць спавядацца ў духу Сартра. Дзверы лецішча адчыняюцца й зачыняюцца па волі саміх персанажаў. Зрэшты, хутка над усімі волямі, разам узятымі, запануе волявольная.. сяброў-сваякоў, прыгажуна Аляксея ды паважнага, а мо і прайдзісвета Дзімы. Асабістае абаянне Ігара Сігова надае першаму з гэтай парачкі і аб'ёму, і неадназначнасці; Мікола Рабычын падае свайго чалавечка ўсё-такі прыстойным ды з нязжытым акцёрскім талентам (гэта адзначыць госця, прафесійная актрыса). Сябры, яны ж — сваякі, прагнуць жыць весялей, выпадзітнія, авантурней. Трошачкі. Якія асабістыя комплексы, якія незапатрабаваныя грамадствам ды работай таленты прымушаюць гэтую парачку строіць кепікі з усіх ды кожнага, хто трапляе ў поле іхняй пераканаўчай маны? Або абаяльнай хлусні? Надта хутка імправізаваныя жарты пазбаўляюцца бяскрыўднасці. Робіцца ўсё больш вынаходлівымі, пакручастымі, драматургічна распрацаванымі, па-акцёрску адрэпеціраванымі... Так што кожны, хто неабачліва й легкадумна прыняў сяброўскую прапанову пагасцяваць на лецішчы, мае шмат шанцаў развітацца са спакоем, раўнавагай, добрым гумарам, а то і пацярпець — ад ушчэмленай годнасці ці абражанага сумлення...

Зрэшты, парачка жартаўнікоў шчыра перапрашае, — заўжды. Музычная характарыстыка перапросінаў належыць кампазітару Алегу Залётневу, які бліскуча скарыстаў для самога працэсу (Аляксей возіць разыгранага на спіне) запамінальны, як цвік, шлягер "Дуся, Дуся". Музыка Залётнева, як уласная, так і падабраная, падтрымлівае агульную атмасферу ў асяродку разыграных ды самавыкрытых... Так што ўжо ў глядацкім асяродку сяе думка і нават пераканання, што пацярпелыя мусяць адказаць жартаўнікам. Трэба аддаць належнае налаўчонасці дэбютанта Кандрашова: ён прапануе пераканаўчую псіхалагічную лінію, мовім так, уводзінаў у пакаранне жартаўнікоў-злачынцаў. Агульны прыяцель Антон (работа Уладзіміра Іванова можа сабраць колькі эпітэтаў захаплення) прапануе парачцы сыграць у рускую рулетку, а сваю прапанову ўмацоўвае красамоўным пісталетам...

Антон па п'есе — доктар. Сяргей Кандрашоў — доктар, як той казаў, па жыцці, — колішні выпускнік ваенна-медыцынскай акадэміі. Доктарскую лінію можна перакаnaўча цягнуць у бок слаўтых пісьменнікаў і драматургаў (Чэхаў, Булгакаў), чый літаратурны гарт падтрымлівала не абы-якое веданне чалавечай прыроды. Можна, але не хацелася, каб гэта палічылі за журналісцкую аздобу. Таму абмяжуюся паведамленнем, што веданне прыроды, у тым ліку і чалавечай, відавочна ўласцівае і Сяргею Кандрашову. А да ведання дадаецца яшчэ з тузін — адчуванняў, творчай інтуіцыі, літаратурнай абазнанасці... Здаецца, акцёры хораша паразумеліся з аўтарам. Прынамсі, ролі Алены Гудковай і Дзмітрыя Бойкі, — акцёры распачынаюць дзеянне і мусяць беспамылкова засяродзіць, схапіць, скіраваць глядацкую ўвагу, але пры гэтым не сказаць і не паказаць лішняга, — ролі Гудковай і Бойкі дасціпна кладуцца навал на акцёрскія асаблівасці. Капрызліва-насцярожная, разліковая, але і шчырая, і закаханая Святлана зрабіла была свой выбар-унёсак, абрала была філолага, паэта Віктара, замуж яго ўзяла (не за яго выйшла), але чаму б не праілічыць яшчэ якую-небудзь... лінію паводзін? Калі выпадак ёй не жартам паспрыяе? Віктар, закамплексаваны паэт у выкананні Дзмітрыя Бойкі, — натура далікатная і пранікілівая. І раздумная, і велікадушная. Шмат высілкаў трэба было прыкласці жартаўнікам, каб прымусіць і яго адказаць... жартам.

Марына, жонка Аляксея ў выкананні Любові Арцімовіч мае нейкі ледзь заўважны ўнутраны надлом, несупакоенасць, незадаволенасць сваім дабрабытным існаваннем. Можна чакаць выбуху. І — прычакаць. Але непрасталінейнага, падрыхтаванага зусім не апошнімі дзеяннямі мужа, і не зусім — ягонымі розыгрышамі. Незадаволенасць Марыны куды глыбейшая і сутнасная, чалавечая...

Трапяткая сяброўчака доктара Антона ў выкананні Любові Мілінкевіч падаецца дасціпнай, упэўненай асобай, навучанай не адным тэатральным інстытутам (яна — актрыса), але самім жыццём. І менавіта апошні настаўнік не пачырванее за вучаніцу, — а як пераканаўча яна паддалася на розыгрыш, якія вялікія рабіла вочы, як пабіскавала і пaпісквала! Запэўніла не толькі містэра Розыгрыша Аляксея, але і публіку ў зале, — актрыса, ёй бы толькі пагуляць, сябе паказаць...

Акцёры "Вольнай сцэны", гуляючы ў розыгрышы, паказваюць з прафесійнага боку пераканаўча: адметная, "згуляная" трупа! З "Містэрам Розыгрышам" у яе ёсць магчымасць яшчэ і яшчэ раз гэта давесці!

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

ВЫСТАВЫ

# Герб — гэта спадчына

Калі прасачыць этымалогію слова "герб", дык неабходна звярнуцца спачатку ў польскую мову, а затым у нямецкую, у якой і знаходзіцца яго першаснова, якая на беларускую перакладаецца менавіта, як "спадчына". А што гербы спадчынай і з'яўляюцца, бадай, ніхто і не сумняваецца. А ў гэтым можна яшчэ больш упэўніцца, завітаўшы ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры ў Мінску, які апошнім часам парадаваў прыхільнікаў даўніны шмат якімі цікавымі выставамі. Цяпер жа тут экспануецца чарговая — "Старадаўняя геральдыка Беларусі".

Пераважная большасць экспанатаў узята з фондаў гэтага сховішча, дзе доўгі час знаходзіліся ў запасніках і толькі цяпер вынесены на шырокі грамадскі агляд. Адбылося гэта дзякуючы найперш вядучаму навуковаму супрацоўніку Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Ірыне Зварыцы і вядучаму навуковаму супрацоўніку Нацыянальнага гістарычнага архіва Дзмітрыю Яцкевічу.

Цікава, што Д. Яцкевіч займаецца не толькі даследаваннем гербаў, якія вядомы па многіх крыніцах, а і плённа займаецца пошукавай работай. Прынамсі, падчас правядзення археалагічных раскопак у старажытным Магілёве, поруч з іншымі матэрыяламі знайшоў ён і ўзоры кафлі, на якой відаць геральдычныя знакі. Вядома ж, і гэтым знаходкам знайшлося месца ў экспазіцыі. Дарэчы, у свой час кафлю з адлюстраваннем гербаў адшукаў і "вечны вандроўнік" Язэп Драздовіч. Яны таксама трапілі на выстаўку.

Экспазіцыя дазваляе прасачыць, які доўгі шлях прайшоў герб, перш чым стаць такім, што традыцыйна ўспрымаецца сёння. А пачатак гербам на тэрыторыі сучаснай Беларусі быў пакладзены яшчэ ў XII стагоддзі. Гэтым перыядам даследчыкі датуюць драгічынскія пломбы, а прасцей кажучы — гербавыя адбіткі на метале.

Увогуле ж на выставе можна пабачыць самыя розныя гербы — цэхавыя, вайсковыя, канфесійныя, гарадскія, родавыя, дзяржаўныя. Што да родавых, дык яны могуць расказаць пра многія знакамітыя роды. Адзін з іх — герб Ельскіх, які даў не толькі Беларусі, а і ўсяму свету нямала выдатных дзеячаў, сярод якіх краязнаўцы, кампазітары, падарожнікі... Праўда, вядомыя выпадкі, калі адным гербам карысталася больш за трыста родаў.

**Н. К.**

## Вернісаж акадэміка

**Днямі ў галерэі "Мастацтва" (пр-т Францішка Скарыны, 12) адбылося адкрыццё персанальнай выставы акадэміка жывапісу, прэзідэнта Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікса Янушкевіча.**

**Экспазіцыя невялікая, але яна не рэтраспектыўны позірк 40-гадовага жывапісца на ўласны творчы шлях, палову якога ўяўляюць вучоба ў спецыялізаванай Рэспубліканскай школе імя І. Ахрэмчыка, у тэатральна-мастацкім інстытуце, аспірантура ў акадэмічным Інстытуце этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору, навучанне ў творчых майстэрнях жывапісу Акадэміі мастацтваў СССР, а складзена з прац апошняга года. Сярод іх вылучаюцца палотны "Здарэнне ў парку", "Гліняны пеўнік", нізка "крыжовай Галгофы" "Памяці Міколы Селешчука", "Двое" і інш.**

**На адкрыцці выступілі старшыня Саюза мастакоў Беларусі Генадзь Буралкін, народны мастак Леанід Шчамялёў, прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Лявон Дзягілеў, загадчык кафедры графікі гэтай установы Уладзімір Вішнеўскі, пісьменнік Віталь Чаропка, "гаспадыня" галерэі-салона Алена Лагоўская, мастакі-графікі В. Славук, У. Савіч і інш. Вядучым імпрэзы быў мастацтвазнаўца Міхась Баразна.**

**Я. КРЫВІЦКІ**

## Горад стары і новы



*У Пінску будуецца новы храм.*
*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Каляндар для ўсіх

**Выдавецтвам "Бацькаўшчына" па ўзгодненасці з Міністэрствамі адукацыі, культуры і аховы здароўя выдаецца *"Беларускі настольны перакідны каляндар на 1998 год"* педагагічна-культурніцкага, асветніцка-пазнавальнага, аздараўленчага накірунку. Прызначаецца ён як для службовага, так і асабістага карыстання. Выданне адлюстроўвае станаўленне асветы, культуры, бібліятэчнай справы, навукі і медыцыны на Беларусі, важнейшыя падзеі і даты нашай гісторыі, юбілеі слынных людзей, якія пакінулі значны след у беларускім мінулым, ці нашых сучаснікаў, што самааддана працуюць на ніве нацыянальнага духоўнага Адраджэння. Завяршаецца праца па зборы інфармацыі менавіта пра такіх людзей. Таму выдавецтва звяртаецца з просьбай да ўстаноў адукацыі, культуры, навукі і аховы здароўя, а таксама да ўсіх зацікаўленых тэрмінова падаць звесткі па прыкладнай схеме:**

**"*1 сакавіка.* 235 гадоў таму (1763) у Сямяцічах на Беласточчыне княгіняй Ганнай Яблонскай быў заснаваны Павівальны інстытут (акушэрская школа).**

***11 верасня.* 70 гадоў з дня нараджэння (1928) А. М. Белакоза, краязнаўца, музеязнаўца, педагога, заслужанага работніка культуры Беларусі".**

**У календары назвы месяцаў падаюцца на беларускай, рускай і ангельскай мовах, пазначаюцца дзяржаўныя, рэлігійныя ды народныя святы і прысвяткі.**

**Заказы на каляндар можна аформіць праз Упраўленні народнай адукацыі, культуры і аховы здароўя на месцах ці праз выдавецтва "Бацькаўшчына":** *220053, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 52-9, тэлефоны для даведак: 213-05-44, 239-87-23, 227-61-40.*

РЭЗАНАНС

# Марнатраўства на ніве адраджэння

Такім чынам, "свядомы беларус" М. Захаранка абвясціў на ўвесь свет ("ЛіМ" ад 1.08.97, "Марнатраўства"), што хваля беларускага Адраджэння захлынулася.

Трэба сказаць, што Адраджэнне — гэта не плынь і не хваля і таму не можа захлынуцца. Адраджэнне — гэта працэс, які праходзіць зусім канкрэтна ў кожнай канкрэтнай асобе (калі яна таго хоча) і, як усякі працэс, можа ісці хутка і паспяхова, калі ўмовы спрыяюць таму, можа запаволіцца, калі ўмовы пагоршыліся, а можа і спыніцца, калі гэтую спробу прыдушыць. Паколькі кожная асоба мае свой узровень і накірунак развіцця, дык і працэсы адраджэння і іх вынікі могуць набываць самыя разнастайныя формы. Для аўтара "Марнатраўства" нейкія з гэтых форм уявіліся як нязвыклыя, хваравітыя, небяспечныя, і каб аўтар быў схільны да канкрэтнага, дык з ім можна было б ці паспрачацца, ці пагадзіцца.

Мэта, пастаўленая аўтарам у "Марнатраўстве", навідавоку. Ён прапануе чытачу афіцыйную лінію стаўлення да беларушчыны, такую ж, як і бальшавіцкая, толькі больш жорсткую, перамешаную навуковымі і псеўданавуковымі тэрмінамі і падмазаную алеем нацыянальнага. Аўтар запэўнівае, што і ён свядомы беларус, нягледзячы на тое, што пазіцыю свядомых беларусаў адносна пачатку гісторыі Беларусі называе "вельмі неглыбокай пелькай", прыналежнасць да ВКЛ яго аніяк не кранае, а імя Канстанціна Астрожскага для яго лепш забыць, бо інакш у яго чамусьці не стыкуецца сумесная барацьба беларусаў і расійцаў супраць нямецкіх фашыстаў. Дарэчы, гэты ягоны пункт гледжання на гісторыю Беларусі сённяшні рэжым ажыццявіў практычна, знішчыўшы ўсе гістарычныя праўдзівыя школьныя падручнікі. Такім чынам, аўтар "Марнатраўства" хоча звесці размову аб выжыванні беларускага этнасу да простага мерання, хто больш свядомы, а хто — менш.

Вяртаючыся да Адраджэння, як сукупнасці адраджэнняў асобных людзей, трэба сказаць, што яно на сённяшні дзень моцна запаволена. Прычына запаволення — ва ўсіх на вачах: невыкананне дзяржавай Закона аб мовах, закрыццё дзяржавай беларускіх садкоў, класаў і школ, забарона перакладу ВНУ на родную мову навучання, грэблівае стаўленне вышэйшага чынавенства да беларускай мовы, адмова дзяржавы ў падтрымцы беларускіх газет і часопісаў, недапушчэнне беларускамоўных музычных гуртоў на радыё і тэлебачанне і засілле рускамоўных песень, пагардлівае стаўленне вышэйшага чыноўніка дзяржавы да роднай мовы, спроба выгнання дзяржавай адзінага на Беларусі беларускага ліцэя, нарэшце збіццё людзей дубінкамі за сказанае на вуліцы беларускае слова... Пералік можна доўжыць.

Ясна, што аўтар "Марнатраўства" ўсё гэта ведае. І ведае, хто і чаму хоча спыніць Адраджэнне. Але ж так яму хочацца даказаць, што Адраджэнне "захлынулася" само, і дзеля таго ён грувасціць абстрактныя пабудовы з ужываннем такіх тэрмінаў, як народ, плебс, нацыя, канфесіі і т.п.

Пяць гадоў таму ўздым беларушчыны быў навідавоку. Людзі ў транспарце, у чарзе, проста на вуліцы, пачуўшы роднае слова, ветліва ўсміхаліся і хто як мог імкнуліся выказаць сябе на роднай мове. Працаўнікі пошты, ашчадкасы і яшчэ дзе мне даводзілася быць, лёгка і проста адказвалі мне на роднай мове. Сёння таго няма.

Але аўтар "Марнатраўства" ўсяго таго бачыць не хоча. Ён гаворыць "народ адвярнуўся ад аратых і сейбітаў нацыянальнага... беларусы адмоўна адрэагавалі на нацыянальна-асветніцкія і нацыянальна-палітычныя высілкі інтэлігенцыі". Быццам бы настаўніца маёй унучкі адрэагавала сама.

Усе ведаюць, што ў XIX—XX стагоддзях здолелі адрадзіцца анямечаная Чэхія і шведазаваная Нарвегія. Што да Нарвегіі, дык на кантынентальнай яе частцы не засталося ніводнага чалавека, які б помніў родную нарвежскую мову. Некалькі такіх людзей адшукалі на астравах. І нарвежская мова адрадзілася. Бо справу арганізавала дзяржава. Бо дзяржава разумела: няма мовы — няма нацыі. Няма нацыі — аддай зямлю! Бачыш ты, сеў і сядзіць, як на сваёй! А ну злазь!

Ясна, што і ў нас лёгка і свабодна пайшло б Адраджэнне, калі б таго хацела дзяржава. І не трэба было б шукаць "супрацьстаяння інтэлігенцыі і народа", і нейкай "асіметрыі ў супрацьстаянні"; шукаць, як "перакачаўча абвінавацiць ворагаў"; прыпісваць народу "патрабаванне ісціны і абавязкова цалкам"; прыдумляць "цёмныя, падсвядомыя амбіцыі народа"...

І не трэба казаць, што "яны шукаюць адрозненняў". Такое, прынамсі мне, не трэба. Чалавеку, які хоча быць самім сабою, не трэба шукаць адрозненняў ад суседа, свата ці брата. Яго і так пазнаюць. Але тое маё, што некалі было стаптана, знявечана і закінута чужынцамі і іх падбрэхічамі, тое трэба шукаць, падымаць і падаваць да ўжытку, нягледзячы на падкалупкі збоку. Сваё ёсць сваё. Свая хата, можа, і халаднейшая сёння за чужую, але ж свая, родная.

Калі ж пра народ, дык аўтар "Марнатраўства" ўжывае гэтае слова мо часцей за таго маладога палітыка, які ці не штодзень запэўнівае ўсіх, паклаўшы руку на сэрца, што народ дазволіў яму рабіць усё, што ён робіць. Але нельга паверыць у тое, што людзі, хай з засмечанымі бальшавікамі глуздамі, хай з парарванай гаспадарчай жылай, хай разбэшчаныя п'янствам, — што людзі па сваёй волі адракліся ад дзядоў, ад бацькаўшчыны, ад роднай мовы.

У сярэдзіне 70-х мне давялося пабыць на гулянцы дзяцей тых, хто прыехаў на Беларусь пасля вайны. Дзеткі гэтых чужынцаў вельмі ўпэўнена, на поўны голас сцвярджалі, што з беларушчынай на Беларусі пакончана і мары пра Адраджэнне трэба выкінуць з галавы. Горад зрусіфікаваны цалкам. На сяле беларушчыну даканае тэлебачанне і кіно. Тая рэзервацыя, дзе засталася жменька пісьменнікаў, патрэбна ім, каб мець жывы доказ, што рэальная нацыянальная палітыка КПСС цалкам адпавядае ленінскім нормам. Вярхушка той рэзервацыі, нагрэтая неблагімі грашамі, жытлом, дачамі і ўсякімі іншымі ўзнагародамі, камандзіроўкамі і т.п., заўсёды скажа тое, што ім (дзеткам і іх бацькам) трэба.

На пачатку 80-х я памкнуўся далучыць да беларушчыны сваё дзіця і перавёў у беларускую школу раённага цэнтра. Дырэктар школы па-беларуску не гаварыў. На бацькоўскім сходзе пасля першай чвэрці высветлілася, што ніводная настаўніца (акрамя настаўніцы роднай мовы) не толькі не выкладала свае навукі на беларускай мове, але і размаўляць на ёй не ўмела. У Пагосце на Вілейшчыне настаўнікі добра валодалі роднай моваю, але выкладалі свае навукі па-руску. Такая была нацыянальная беларуская школа. Быццам ёсць беларушчына, а прыглядзішся — няма.

Такая была нацыянальная палітыка бальшавікоў. Такая ж яна і ў іх нашчадкаў, толькі зусім непрыхаваная, бо галоўным аргументам у ёй абвяшчаецца народ. Народ захацеў сам. А мы (дзяржава) толькі выконваем яго волю.

Дзякуй Богу, што тэарэтыкаў-апалагетаў "захлынання" няшмат. І аргументацыя іхняя — з такіх цёмных ды нячыстых закуткоў, што і маладому чалавеку лёгка ўгледзець, што тое марнатраўства. Але і тэарэтыкам дзякуй, што даюць нагоду выказаць свой погляд на сітуацыю беларусу, які хоча, каб яго ўнукі атрымалі вышэйшую адукацыю на роднай мове.

**У. РЫСАВЕЦ**

*г. Мінск*

# Наш інсіт у Браціславе

***Упершыню мастакі-самавукі Беларусі прынялі ўдзел у Міжнародным трыенале інсітнага (наіўнага) мастацтва. Выстава працавала ў славацкай нацыянальнай карціннай галерэі з чэрвеня па кастрычнік гэтага года. Творы нашых мастакоў прадстаўляла ў Браціславе кандыдат мастацтвазнаўства, вядучы спецыяліст АНМЦ Людміла Уладзіміраўна ВАКАР.***

**— Як жа было прадстаўлена на выставе беларускае мастацтва інсіту?**

— Да ўвагі міжнароднага камітэта (адначасова — журы) мы прадставілі работы пяці аўтараў з Віцебска і вобласці. Эксперты міжнароднага ўзроўню выбралі творы двух — Фёдара Максімава (нарадзіўся ў 1914-ым) і Мікалая Байцова (нар. у 1925-ым). Па ўмовах трыенале кожны аўтар мог паказаць толькі тры працы. Праўда, калі краіну прадстаўлялі некалькі аргнізацый — як у выпадку з Расіяй, напрыклад, — то лік удзельнікаў і работ намнога ўзрастаў.

**— Чым кіравалася строгае журы пры выбары твораў?**

— Найперш улічвалася тое, што выстава фарміравалася з аўтэнтычных твораў. Справа ў тым, што інсіт стаў модным накірункам і з'явілася шмат падробак пад яго з боку прафесіянальных мастакоў. Дапускаліся і памежныя ўзоры, якія спалучалі наіўнае мастацтва з такімі сучаснымі плынямі, як артбрут і мастацтва аўтсайдэраў (маргіналаў).

**— Як даўно праводзяцца такога роду мастацкія акцыі?**

— Мы ўдзельнічалі ў пятай па ліку, а першая адбылася ў 1966 годзе. Усе яны праводзяцца пад эгідай ЮНЕСКА. Ініцыятарам міжнароднага трыенале быў вядомы славацкі навуковец Штэфан Ткач. Ён заўчасна загінуў, і зараз яго справу працягвае вучаніца Штэфана Катарына Чарна. А патраціць на прадстаўнічы форум нам дапамагло славацкае консульства ў Беларусі: консул Іван Вібах і памочнік Іван Пачыацік. Мы ўдзячны таксама згаданай Катарыне Чарнай за метадычную дапамогу нашаму абласному цэнтру: яна выслала каталогі ўсіх прайшоўшых трыенале і матэрыялы канферэнцый.



**— Як глядзеліся творы беларускіх мастакоў на агульным фоне?**

— У выставе прымалі ўдзел 14 краін. Цікавасць да нашых твораў была, але паколькі Беларусь удзельнічала ўпершыню, то поўнага ўяўлення пра беларускі інсіт быць, вядома ж, не магло. Тым не менш, на карціны беларусаў звярнулі ўвагу прадстаўнікі Германіі, Бразіліі, Славакіі. Славацкая карцінная галерэя прапанавала нам у наступным годзе прывезці персанальную выставу Ф. Максімава.

**— Колькі слоў пра самога мастака, калі ласка.**

— Гэта чалавек складанага лёсу, з раскулачанай сям'і. Усе цяжкасці яго лёсу знайшлі ўвасабленне ў творчасці і займелі такі ўзровень абагульнення, што успрымаюцца як метафара. Адна з яго работ, дарэчы, мае такую назву: "Доўгі і цяжкі шлях да храма праз 70 разбуральных год".

**— І якія перспектывы на будучыню?**

— Спадзяёмся на далейшае супрацоўніцтва. У двухтысячным годзе адбудзецца рэтраспектыўны паказ развіцця інсіту за мінулае стагоддзе. Каб Беларусь шырэй была прадстаўлена, да падзеі варта рыхтавацца ўжо цяпер. Першая выстава беларускага наіўнага мастацтва адбылася ў 1994 годзе, наспеў час падумаць пра другую. Пажадана, каб і яна была рэтраспектыўнай, каб мы самі агледзелі і прааналізавалі, што ў нас ёсць, і маглі павезці ў Браціславу лепшае.

**Гутарыла Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымку: работа Фёдара Максімава.*

# Прыгажосць выратуе свет, а культуру — законы

***Ці могуць беларусы далучаць сябе да культурнай і цывілізаванай нацыі? Паводле "Філасофскага слоўніка", які сцвярджае, што культура — сукупнасць духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў, якія былі створаны і ствараюцца ў працэсе грамадска-гістарычнай практыкі і характарызуюць гістарычна дасягнутую ступень у развіцці грамадства, то хутчэй за ўсё, — так. Але калі глядзець глыбей, то зробяцца яўнымі — няведанне ўласных гісторыі і мовы, абыякавыя адносіны да помнікаў архітэктуры ды іншых каштоўнасцяў, якія пакінулі ў спадчыну продкі, занядбанасць і бруд у месцах грамадскага карыстання і іншыя негатыўныя моманты... Што можа спыніць гэтую хвалю духоўнага разбурэння?***

***На думку Мікалая ШАЎЦОВА — намесніка старшыні пастаяннай Камісіі па адукацыі, культуры і навукова-гістарычным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь — свет выратуе прыгажосць, а культуру павінны выратаваць законы.***

**— Як вядома, кожная краіна, якая шануе сябе і сваю спадчыну, мае не толькі ўласную праграму эканамічнага развіцця, але і культурную, паколькі ад ступені развіцця культуры той альбо іншай нацыі залежыць ступень пад'ёму яе эканомікі, прагрэс у палітычнай і сацыяльнай сферах.**

— Да нядаўняга часу ні ў парламенце, ні ў Міністэрстве культуры не займаліся распрацоўкай праграмы развіцця нацыянальнай культуры. Зараз наша камісія, Міністэрства культуры і Інстытут праблем культуры працуюць над стварэннем такой канцэпцыі. З'явіцца праграма, будзе яна паслядоўна ўвасабляцца ў жыццё — значыць у нацыі будзе будучыня, яе культура і мастацтва атрымаюць сваё далейшае развіццё.

Агульная культура, цывілізаванасць чалавека, як вядома, змяшчаюць шмат складнікаў — бытавую культуру, адукацыю ў большай ступені гуманітарнай накіраванасці, на якое накіравана, дарэчы, рэформа нашай агульнаадукацыйнай школы, этыку чалавечых зносін, палітычную, вытворчую, прававую культуру.

Пра крызісны стан нашай культуры, на жаль, сведчыць шмат што: гэта семкавае шалупінне, якое суправаджае вас ад метро да парога кватэры, жахлівы стан ліфтоў жылых дамоў, занядбанасць двароў і пад'ездаў, нецэнзуршчына і п'янства з рання да змяркання, адсутнасць у нашых людзей гістарычнай памяці... Пералік негатыву можна працягваць. Досыць яскравым сведчаннем заняпаду нацыянальнай культуры можа з'яўляцца матэрыяльны стан найстарэйшай нацыянальнай газеты "Літаратура і мастацтва", часопіса "Беларусь" ды іншых паважаных культурна-публіцыстычных выданняў, невялічкія зарплаты іх высокапрафесійных супрацоўнікаў. Навошта далёка хадзіць, нават спецыялісты Міністэрства культуры месцяцца ў надта сціплых пакойчыках і праца іх ацэньваецца таксама надта сціпла. Асобныя службы, як Дзяржінспекцыя па ахове помнікаў гісторыі і культуры, знаходзяцца проста ў аварыйным стане. А стан залаў Палаца мастацтваў, дзе праходзяць прэстыжныя выставы лепшых мастакоў Беларусі, для краін, якія сябе паважаюць, з'явіўся напэўна нацыянальнай ганьбай.

Я перакананы, што для зрухаў у лепшы бок усе нашы людзі, усё грамадства павінны быць пастаўлены ў такія ўмовы, пры якіх немагчыма, ды і проста нязручна было б не выконваць юрыдычна законы, якія распрацаваны з улікам міжнароднага вопыту.

**— Законы прымаюцца, але як паказвае практыка, часта не выконваюцца. Ці змогуць новыя зацверджаныя парламентам прававыя дакументы змяніць сітуацыю да лепшага?**

— У мінулым годзе парламентам быў прыняты Закон аб музеях і музейнай справе. Як вядома, на Беларусі вельмі мала музеяў, матэрыяльны стан большасці гэтых устаноў кепскі. Хочацца спадзявацца, што закон дапаможа павелічэнню колькасці навед-нікаў дзякуючы студэнцкай моладзі, якая атрымала права бясплатнага наведвання музеяў. Таксама прадастаўляецца магчымасць адкрываць прыватныя музеі. Раней знакамітыя слуцкія паясы, карэліцкія габелены, кафля, шкло і парцэляна, іншыя каштоўныя рэчы, якія выраблялiся нашымі майстрамі ў мінулым і славіліся на ўсю Еўропу, знікалі з Беларусі ў тым ліку і з-за немагчымасці прадэманстраваць шырокай публіцы прыватныя зборы. Новы закон рэгламентуе як парадак стварэння новага музея, так і рэгістрацыі экспанатаў і шмат іншага. Дзякуючы закону мы здолеем захаваць не толькі тыя музеі, якія ёсць, але і павялічыць іх колькасць. Шмат намаганняў трэба будзе прыкласці для рэстаўрацыі знакамітых Гальшанскага, Мірскага, Нясвіжскага замкаў.

**— Адкажыце, калі ласка, наколькі праўдзівыя звесткі, што з'явіліся ў сродках масавай інфармацыі, пра тое, што новы газаправод, які пройдзе праз Беларусь, быццам праляжа каля Нясвіжа?**

— Сумняваюся, што газаправод пройдзе праз тэрыторыю помніка архітэктуры і гісторыі сусветнага значэння. Калі і існуе такі, на мой погляд, не зусім прадуманы праект, то верагодна ў ім прадугледжваецца абмінуць Нясвіжскі замак.

**— Ваш лёс звязаны з Гомельшчынай, вы там нарадзіліся, працавалі... Якія праблемы — у тым ліку і ў культуры — бачацца вам у сувязі з чарнобыльскай катастрофай?**

— Так, адзінаццаць гадоў прайшло з таго часу, але калі казаць шчыра, то і па сёння няма добра прадуманай, навукова-абгрунтаванай праграмы па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, а таксама дакладнай арганізацыі па яе ажыццяўленні. Ад атамнага рэактара ва ўкраінскім гарадку Прыпяць ды Нароўлі, — дзе я працаваў, — 60 кіламетраў. Што і казаць, гэты горад, як уся Гомельская вобласць нямала пацярпелі. У самой Нароўлі пасля дэзактывацыі, прамыўкі, асфальтавання дарог і ўборцы грунту радыяцыйны фон зменшыўся. Але многія сур'ёзныя пытанні, якія залежаць ад работы ўрада, так і засталіся нявырашаныя. Даводзіцца назіраць дзіўныя рэчы: едзеш па аўтастрадзе — на палетках з аднаго боку аруць і сеюць, з другога забаронена рабіць гэта. Аднак, калі кіравацца элементарнай логікай, не можа быць такога, каб да асфальту была радыяцыя, а пасля яго яна невядома куды знікла... І метр зямлі, я лічу, не можа засявацца, калі ён належным чынам не даследаваны.

Жыхароў вобласці абражае тое, што некаторыя ў Беларусі не былі ніколі ў мясцінах, якія пацярпелі ад радыяцыі, і атрымалі статус ліквідатара. Я адмовіўся ад ліквідатарскага пасведчання, бо лічу, што не маю маральнага права на гэта. Людзі, якія пацярпелі больш за мяне, працягваюць жыць і працаваць на забруджанай радыяцыяй тэрыторыі, церпяць бытавыя і іншыя нязручнасці, не маючы такіх ільгот, як тыя "ліквідатары", што жывуць у сталіцы.



Што тычыцца праблем, якіх шмат назбіралася ў сферы культуры, то іх на Гомельшчыне дастаткова. Гэта і лёс помнікаў культуры і мастацтва, якія апынуліся ў чарнобыльскай зоне, пагроза знікнення унікальнай традыцыйнай культуры, бо яе носьбітаў — насельнікаў шматлікіх вёсак лёс раскідаў па ўсёй Беларусі, гэта і змяншэнне ўстаноў культуры. І тым не менш, як ні цяжка, культурнае жыццё на Гомельшчыне працягвае развівацца. У вобласці я ведаю шмат людзей, якія адданы сваёй справе, працуюць прафесійна і сумленна.

**— Сярод спецыялістаў ідзе нямала спрэчак наконт далейшага існавання нацыянальных кінавытворчасці і кінапракату. Адны лічаць, што гэтая галіна мастацтва гіне, іншыя выказваюць больш аптымістычныя меркаванні.**

— Я сябе далучаю хутчэй да стрыманых аптымістаў. На маю думку, многія нашы сённяшнія праблемы адбываюцца з-за адсутнасці дзяржаўнай праграмы развіцця кіно і кінапракату. Чым зараз забіты экран? Заходняй, у асноўным амерыканскай, не лепшага гатунку прадукцыяй. Высокамастацкія фільмы да масавага гледача не даходзяць. Кожная вобласць займаецца самадзейнасцю і набывае на рынку фільмы, якія не нясуць прыгажосці чалавечых адносінаў.

Значнай з'яўляецца дапамога па падтрымцы нацыянальнага кінематографа кіраўніка дзяржавы, які наведаў "Беларусьфільм" і сустрэўся з дзеячамі і працаўнікамі кіно і на месцы азнаёміўся з набалелымі праблемамі, вызначыўшы меры, якія скіраваны на паляпшэнне справаў у галіне.

Наша камісія зараз сумесна з кінематаграфістамі працуе над законам аб кінематаграфічнай дзейнасці. Ён фактычна ўжо падрыхтаваны. І зараз вызначаецца — якой будзе структура, якая займаецца найважнейшым з мастацтваў.

**— Акрамя гэтага прававога дакумента, якія яшчэ законы распрацоўваюцца вашай камісіі?**

— Мы працуем над праектамі законаў аб тэатры і канцэртных арганізацыях, народных промыслах і рамёствах. Унесены змяненні і дапаўненні ў закон аб адміністратыўных правапарушэннях у адносінах да архіўнага справаводства. Мы сутыкнуліся з практыкай знішчэння архіваў. У прыватнасці, даваўся запыт у Нацыянальны архіў для атрымання матэрыялаў 1991 года, там жа, як ні дзіўна, іх не знайшлося, не адшукаліся і дакументы, якія прымаліся Вярхоўным Саветам. Такім чынам, бясследна знікаюць матэрыялы, якія маюць гістарычную каштоўнасць.

**— Падтрымка культуры дзяржавай вельмі важная справа, асабліва зараз, у перыяд, калі адбываецца хваравіты злом старых эканамічных адносін і ажыццяўляецца пераход да новых. Якія законы, на вашу думку, павінны найбольш істотна паўплываць на гэты працэс?**

— Вярхоўны Савет трынаццатага склікання прыняў у першым чытанні вельмі неабходны закон аб творчых саюзах, якія, як вядома, шмат робяць для развіцця нацыянальнай культуры. Прававы дакумент быў накіраваны на экспертызу ў Адміністрацыю Прэзідэнта. Кіраўнік дзяржавы пасля азнаямлення з дасланымі матэрыяламі і тымі сур'ёзнымі праблемамі, з якімі даводзіцца сутыкацца творчым саюзам, тэрмінова выдаў указ аб прадастаўленні льгот творчым арганізацыям. З Боку Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу работа над новым законам працягнецца і далей. Ён будзе ў другім чытанні вынесены на сесію і хутчэй за ўсё канчаткова зацверджаны.

Важным уяўляецца і прыняты ў мінулым годзе Вярхоўным Саветам закон аб аўтарскім і сумежным правах. Калі раней яны ў нас ніяк не абараняліся, то зараз аўтар можа смела адстойваць свае правы на інтэлектуальную ўласнасць. Рэгістрацыю твора або вынаходніцтва, якая пацвярджае аўтарства пісьменніка альбо вынаходніка, ажыццяўляе спецыяльна створаны для гэтых мэт Камітэт па аўтарскіх правах.

Дапамагаць нашай культуры павінна і разумная падатковая палітыка. Наша камісія ўнесла свае прапановы ў распрацоўваемы Падатковы кодэкс, якія прадугледжваюць стварэнне спрыяльных умоў з боку дзяржавы, як гэта робіцца ва ўсім свеце, для людзей, якія жадаюць матэрыяльна падтрымліваць культуру і гэтым садзейнічаць яе далейшаму развіццю і росквіту.

**Гутарыла Таццяна ЛАРЭЎСКАЯ**

ЗАМЕЖЖА

# Арыенцір — наступнае тысячагоддзе

Заходняя Еўропа зараз вырашае праблемы пераходу да масавай вышэйшай адукацыі. Да таго ж яна стане бесперапыннай — "адукацыя на працягу ўсяго жыцця". Гэта яшчэ раз было падкрэслена на канферэнцыі рэктараў ВНУ і прадстаўнікоў дзяржаўных структур, адказных за адукацыю, якая прайшла ў г. Палерма (Італія). Форум аказаўся вельмі аўтарытэтным — у ім прыняло ўдзел каля 400 кіраўнікоў вышэйшага рангу з 35 краін Еўропы. Тэма канферэнцыі: "Еўрапейская праграма зменаў у вышэйшай адукацыі ў XXI стагоддзі". Журналісты адзначаюць, што рабочымі мовамі былі толькі дзве — англійская і французская, таму асаблівыя цяжкасці ў разуменні выступленняў аказаліся ў расійскіх рэктараў, якія ўсё яшчэ больш спадзяюцца на свой "великий и могучий".

Удзельнікі канферэнцыі прыйшлі да высновы, што еўрапейская сістэма вышэйшай адукацыі павінна больш інтэнсіўна рэфармавацца, каб лепей адаптаваць адукацыю да сацыяльна-эканамічных рэаліяў і грамадскіх патрэб, якія цяпер мяняюцца значна хутчэй, чым раней. Сутыкнуліся дзве пазіцыі ў гэтым пытанні: эвалюцыяністаў і радыкалаў, якія прапануюць хуткія змены. У выніку прыйшлі да кампрамісу: улічваючы, што адукацыя ахоплівае інтарэсы каля 25-30 працэнтаў насельніцтва, рэформу варта рэалізоўваць, як заўважыў рэктар Расійскага універсітэта дружбы народаў Уладзімір Філіпаў, "інтэнсіўна, але паслядоўна, паэтапна". Для Расіі справа ўскладняецца тым, што яна знаходзіцца не проста на пераходным этапе развіцця грамадства, а ў стане крызісу. Тое ж можна сказаць і пра беларускую сітуацыю.

Расіяне лічаць, што для іх у сувязі з гэтым большую каштоўнасць уяўляе вопыт рэфармавання ў краінах у перыяд іх крызісаў: ЗША у 30-х гадах, Германіі, Паўднёвай Карэі і Японіі ў 50-я гады, пільна ўлічваючы і сучасныя тэндэнцыі ў адукацыі, каб не выпускаць спецыялістаў з састарэлымі падыходамі і ведамі. А студэнты павінны быць упэўненыя, што ў момант атрымання імі дыплома іх спецыяльнасць яшчэ будзе карыстацца попытам. Тым не меней не варта адсоўваць на другі план і фундаментальныя даследаванні, спалучаючы іх з сацыяльна-эканамічнымі, экалагічнымі і культуралагічнымі праблемамі.

У святле апошніх было, дарэчы, прызнана, што сёння цэлы шэраг заходнееўрапейскіх краін проста пакутуе ад адсутнасці адзінай нацыянальнай ідэі, без якой, аказваецца, грамадства не толькі запавольвае сваё развіццё, але і можа дэградзіраваць. Нейкі час спадзяваліся, што гэта кампенсуюць хрысціянскія каштоўнасці, але ўжо цяпер зразумела: яны не з'яўляюцца ўсеагульнымі. Так што, відаць, хутчэй за ўсё акажуцца дарэмнымі і вялікія спадзяванні на гэта ўдзельнікаў Першага настаўніцкага з'езда Беларусі, асабліва ўлічваючы трывалую пакуль яшчэ "савецкасць" многіх з іх. Усё ж самай дзеяздольнай застанецца і ў наступным стагоддзі нацыянальная ідэя, якая практычна развілася адносна нядаўна. Іншая справа, што яна павінна набыць цывілізаваны характар: людзі ўсёй планеты мусяць адчуць сваю еднасць і агульную адказнасць за існаванне жыцця на зямлі. Пра гэта таксама ішла размова на форуме еўрапейскіх рэктараў вышэйшых навучальных устаноў, які з'яўляецца своеасаблівай прэлюдыяй да сусветнай канферэнцыі, што па рашэнні ЮНЕСКА мае адбыцца ў 1998 годзе.

**Падрыхтаваў У. А.**

## Культура — душа народа



Старадаўнія кнігі і абразы, як сабраныя, так і падараваныя гродзенскімі мытнікамі, дэманструюцца на выставе "Культура — душа народа", якая праходзіць у Крычаўскім раённым краязнаўчым музеі.

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БЕЛТА*

## Фонд Гарэцкіх дзейнічае

**Рэспубліканскі фонд братоў Гарэцкіх быў створаны ўлетку гэтага года. Асноўныя задачы гэтай грамадскай арганізацыі — навукова-практычная (семінары, чытанні) і мастацка-вытворчая дзейнасць (арганізацыя выстаў, публікацыя матэрыялаў і г.д.) — усё, што звязана з Максімам і Гаўрылам Гарэцкімі. Нагадаем, што прэзідэнт фонду — Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі, віцэ-прэзідэнты — Міхась Мушынскі і Лявон Хадкевіч, а распарадчы дырэктар — Зінаіда Кучар. Сябрам фонду, створанага пры Дзяржаўным музеі беларускай літаратуры, можа стаць кожны, хто шануе нашу культурную спадчыну.**

**Адна з першых акцый фонду — 6-ыя гарэцкія чытанні, матэрыялы якіх будуць выдадзены.**

## "Беларускі гістарычны часопіс", N 3

**Чарговы нумар штоквартальніка адкрываецца матэрыялам В. Шматава "Спадчына, якую трэба ратаваць". Змешчаны пачатак трывожнага роздуму аб лёсе мясцін, пакінутых пасля чарнобыльскай аварыі, гаворыцца пра тое, што трэба зрабіць усё дзеля зберажэння культурных набыткаў гэтага унікальнага кутка Бацькаўшчыны.**

**У раздзеле "З гісторыі партый і рухаў" апублікаваны артыкулы І. Яцкевіча "Думская тактыка Бунда ў Беларусі (1906—1910 гг.)" і М. Гудава "Узброеная барацьба на Беларусі ў 1921 г.". Раздзел "Усеагульная гісторыя" складаецца з матэрыялаў "Эканоміка Польшчы ў 1921—1929 гг." Я Броўкіна, "Семантыка збруцкага ідала" Л. Мірончыкава, "Саксонскае Зярцала" В. Келер, "Сталін і Кітай" Дж. Кенана.**

**Галоўны рэдактар "БГЧ" В. Кушнер і рэдактар аддзела С. Барыс гутараць з прафесарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта Я. Юхо — "Узнікненне дзяржавы і яе сутнасць".**

**Друкуюцца нарыс С. Таляронка "Генерал Мураўёў-"вешальнік", артыкулы В. Панюціча "Да ацэнкі некаторых праблем аграрнай гісторыі Беларусі перыяду капіталізму", І. Грабенчука "Светлагорск", праграма курса для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь "Методыка выкладання гісторыі", рэцэнзіі на новыя кнігі, ёсць раздзел "Навуковае і грамадскае жыццё".**

КРЫТЫКА

# Што за шматкроп'ем?

## АПОВЕСЦЬ ВІКТАРА КАЗЬКО "ДА СУСТРЭЧЫ..." У МАЙСКАЙ КНІЖЦЫ "ПОЛЫМЯ"

У НОВАЙ аповесці Віктара Казько "Да сустрэчы...", пачынаючы з назвы, — моцная развітальная танальнасць. Тут шмат аднолькавых па сэнсе словазлучэнняў: канец стагоддзя (тысячагоддзя), смерць чалавека (чалавецтва), разлік з мінулым, падвядзенне рахункаў, час развітання... Увогуле, знаёмая атрыбутыка літаратуры канца XIX стагоддзя, калі квітнела дэкадэнцтва, якое, як вядома, абазначае "заняпад", "упадніцтва". Знаўцы даўніны могуць дадаць, што нешта падобнае адбывалася на зломе 1-га і 2-га тысячагоддзяў хрысціянскай эры, калі абвастрыліся эсхаталагічныя настроі, чаканні другога прышэсця.

У філасофскіх вучэннях панацце "канец ру, у якой няма чым дыхаць, каб прабіцца да ачарсцвелых сэрцаў і анямелага сумлення. У творы пануе настрой абсалютнай безнадзейнасці, нейкай смяротнай паныласці і цяжкай прыгнечанасці. Тэкст уражвае кольkасцю як бы знарок падабраных "жорсткіх падрабязнасцей", больш падобных на апісанне людскіх паталогій у медыцынскіх падручніках ці стэнаграму з крымінальнай хронікі. Тут Казько-мастак ахвотна выкарыстоўвае дапамогу Казько-публіцыста,назіральніка сучасных нораваў і аўтара фізіялагічных нарысаў, паўтараючы ў гэтым вопыт вялікага Ф. Дастаеўскага, яго "Дзённіка пісьменніка". А прыведзеныя ім і выразна апісаныя факты маральнай дэградацыі грамадства прымушаюць зга-

Аднак ён быў сапраўдным Майстрам, які сваёй творчасцю працягваў справу Бога на зямлі, а сваім інтэлектам сапернічаў сама менш з д'ябламі, бо адчуваў, што талент яго па паходжанні мае два вытокі, боскі і сатанінскі. На свой лад ён нават зайздросціць Фаўсту, які дзеля ісціны прадаў душу д'яблу і не меў ніякіх клопатаў з сумленнем. Сумленне, а ў гутарковай мове проста — сорам, бадай, апошняе, што яшчэ аддзяляе людзей ад буйной рагатай жывёлы. Страта сораму, сумлення — прыкмета, што духоўны распад набывае незваротны характар. "А вось хто ніколі не меў сораму і нічога не ведаў аб ім — гэта сённяшняя ўлада і дзеці. Яны ў апошні час як памяняліся ролямі і месцамі. Улада, здаецца, здзяцінела, была

цывілізацыі" пазбаўлена эмацыянальнай ацэначнасці і носіць чыста інструментальны характар. Яно азначае чарговы крызіс чалавечай свядомасці, пастаўленай перад грознымі рэаліямі стагоддзя войнаў і рэвалюцый, некрафільска-канібальскіх рэжымаў, навукова-тэхнічнага прагрэсу і духоўна-культурнага рэгрэсу. Чалавек і ў такім безвыходным становішчы не занепадае духам, а ягоная думка ўпарта шукае выйсце з тупіковай сітуацыі. Канец аднаго заўсёды супадае з пачаткам чагосьці другога.

Аднак філасоф можа быць спакойным, бо прадмет яго разваг — вечнасць, фундаментальныя асновы быцця, агульныя заканамернасці гісторыі. Мастак-гуманіст таксама не чуждаецца "праклятых пытанняў", але жыве ўсё ж мімалётнай сучаснасцю, і часовае чалавечае існаванне з яго кволасцю і крохкасцю, няўлоўнае імгненне, у якім і засяроджана сутнасць зямнога жыцця, для яго куды даражэй за ўсе разам узятыя філасофскія праблемы. У канцы часоў, эпох заўсёды шмат смерцяў, адзіным суцяшэннем застаецца эклезіястава выслоўе пра "мітусню мітусні". Наша XX стагоддзе ж наогул перапоўнена праз край смерцямі. Але і на фоне многіх і многіх мільёнаў тых, хто загінуў, адыход таленавітых людзей успрымаецца як канец цэлай эпохі, як знак нацыянальнай катастрофы. Так у свой час успрымалася трагічная пагібель Янкі Купалы і смерць Якуба Коласа. Так павінен быў бы ўспрымацца адыход у вечнасць Івана Мележа, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Адамовіча, Пімена Панчанкі, Максіма Танка. Калі-небудзь гэта ўсведамленне прыйдзе да нашчадкаў. А пакуль што... "Ціха панеслі Пімена Панчанку, незаўважна выхапілі з горада і павезлі на радзіму Максіма Танка". А з Адамовічам і наогул адбываюцца дзіўныя метамарфозы, зразумелыя хіба толькі аматару "тэатра абсурду" — паказальны для сённяшняй грамадскай сітуацыі дыялог адбываецца ў міліцэйскім пастарунку:

"— Один народный и пацифист, Адамович, уже сидит. Вот и компания будет.

— Это не тот Адамович сидит, — стомленна сказаў маёр. — Не пацифист, а который "Убить президента" стихи написал. А тот умер.

— Как умер? — здзівіўся лейтэнант. — Вот сука, сбежал..."

Герой аповесці В. Казько з назвіскам Майстар, што з часоў М. Булгакава азначае не толькі рэдкую таленавітасць, высокі прафесіяналізм, але і бездакорнае сумленне, развітае пачуццё ўласнай годнасці, суцяшае сябе развагамі: "Майстры як жылі, так і паміраюць у адзіноце. Ім не ствараюць у цэнтры горада хаўтурных сцен, на бетоне якіх уночы пішуць клятвы, заклёны і прысвечаныя ім вершы. Іх сцяна значна вышэй: напаўвар'яцкаму фанатычнаму статку ўсё роўна ніколі не дацягнуцца да сусвету, дзе пачынаецца верш, дзе пакутуюць і адпачываюць Майстры ў чаканні другога свайго прышэсця і светлых дзён для Беларусі". Гэта і ёсць адзін з адказаў на пытанне, што азначае шматкроп'е пасля слоў "Да сустрэчы..."

Аднак кожная хвіліна чалавечага жыцця ёсць адначасова паміранне і нараджэнне, канец аднаго перыяду і пачатак другога, новага. У аповесці старанна фіксуюцца ўсемагчымыя прыкметы менавіта паміранне папярэдняй эпохі. Часам здаецца, што аўтар свядома нагнятае змрочную атмасфедаць К. Чорнага, які ў пачатку Другой сусветнай вайны звяртаўся да "змучанага чалавецтва" з рытарычным пытаннем аб тым, чаму яно не жахаецца ад думкі, "што так не ўдаўся ў ім сэнс шмат чаго".

Малое дзяўчо ў гаворцы з Майстрам адкрыта прызнаецца, што марыць стаць "валютнай" прастытуткай, дзеля чаго спецыяльна вывучае замежныя мовы. Навучэнцы пачатковай школы ў сваіх пісьмовых працах выказваюць свае самае запаветнае жаданне "хутчэй памерці", каб трапіць у "царства ценяў", дзе няма праклятых зямных праблем. Адчуванне сваёй непатрэбнасці, непрыкаянасці, страта сэнсу жыцця, усякіх арыенціраў ва ўскаламучаным свеце ўласцівыя і іншым персанажам твора, без розніцы да іх сацыяльнага становішча, культурнага ўзроўню, жыццёвага вопыту. На раптоўнае прызнанне Майстра ("А ведаеце, калі б прыйшлося мне сёння памерці — памёр бы з радасцю") ахвотна адгукаецца адзін з яго сяброў, токар, рабочы: "І я б таксама памёр". І нават бізнесмен, удачлівы і рацыянальны, пагаджаецца: "І я таксама згодны памерці..." Грамадства, атручанае ідэяй паміранння, прагаю смерці (калі прыгадаць тут вядомую тэрміналогію З. Фрэйда), не мае перспектывы, асуджана на духоўны заняпад і фізічную пагібель. Смерць перастала быць выключнай падзеяй, стала звыклаcцю: вось ужо некалькі апошніх гадоў адчувалася стомленасць", "час адбыўся і праявіўся ў ім амаль што поўнай стратай жадання жыць", "амаль што ўсё раздражняла, злавала, выводзіла з сябе", "вельмі ж багата раптоўна выявілася стомленых людзей і вакол яго", "жыццё не мела сэнсу, нават маленькага, прывіднага"...

Героі класікаў сусветнай літаратуры мінулага стагоддзя, сутыкнуўшыся з праблемай смерці, часовасці і бессэнсоўнасці быцця, звярталіся да Бога і знаходзілі ў гэтым палёгку, або, наадварот, адмаўлялі Бога і жылі паводле прынцыпу "ўсё дазволена". Героі ранняй прозы К. Чорнага ў такім выпадку ішлі да людзей і сярод людзей, у агульным клопаце бачылі суцяшэнне. Майстар В. Казько таксама ўвесь век пражыў з думкай пра іншых, народ, прагрэсіўнае чалавецтва, з верай у прагрэс і сілу мастацтва. Але вось той самы народ, пра які Майстар, здаецца, так шмат ведаў, на крутым павароце гісторыі апынуўся крыху наводдаль, калі можна было ўбачыць яго як адно цэлае: "Наперадзе натоўп, натоўп. Адны толькі вочы і патыліцы. Сумныя панурыя плечы, сівыя, паныла зморшчаныя патыліцы старых людзей. А вочы іх, вочы яшчэ больш жахлівыя, чым патыліцы, як у малпаў у нявалі — за кратамі, у звярынцы. А з абодвух бакоў — кентаўры з чорнымі гумавымі дубінкамі". І дзеля гэтых падманутых людзей, "больш падобных на нежыць, нелюдзь", жыць, тварыць?! Менавіта ў гэты момант, калі Майстар на свае вочы пабачыў патэнцыяльных гледачоў сваіх сусветна вядомых кінафільмаў, адбыўся надлом у яго душы: "яго цела, набрынялае чалавечай, нябеснай і зямной безвыходнасцю, безнадзейнасцю, заходзіцца, аплывае ад тупа разлітага ў ім болю, душа драбніцца, раствараецца сярод непагадзі, натоўпу падманутых яўна і тайна людзей з чырвонымі і бел-чырвона-белымі сцягамі, натоўпу людзей без усякіх сцягоў, захлынаецца душа ад плачу..." Герой аповесці В. Казько адчуў упершыню ў сваім жыцці асалоду пакутніцтва, ахвярнасці, паміранне.

бессаромна хлуслівай, а дзеці як заўчасна састарэлі і зрабіліся такімі ж неспатыкальна праўдзівымі. Была толькі іх праўда жахлівай да жудасці". Майстра, які жыў і тварыў з думкай пра нацыю, жахае тое, што адбываецца з цэлым народам: "Адзін з самых патаемных і самых сарамлівых народаў у свеце пазбавіўся сваёй глыбіннай сутнасці: агаліўся фігуральна-літаральна і фізічна. Тыя, што сарамліва і моўчкі неслі з веку ў век крыўду, боль і крош на сваіх руках і нагах, цяпер неслі іх як на выставу, з лямантам і крыкам. Усе вакол і адразу ўраўняліся ў жабрацтве, галечы і нішчымніцы. Усе сталі роўныя, і можна было не саромецца".

В. Казько, як льга адчуць з цытавання, ужо не шукае нейкіх асаблівых слоў, каб выказацца і быць зразумелым, і апавядальная плынь яго твора нагадвае бурны паток, дзе словы сутыкаюцца са словамі, здараецца таўталогія. Зразумелая і апраўданая прысутнасць у мастацкім тэксце агаленай публіцыстычнасці: не ўсё ў свеце паддаецца вобразнаму асэнсаванню. Але публіцыстычныя перыяды дапамагаюць празаіку хаця б нагадаць пра сапраўдныя прычыны сённяшніх трагедый: "Ваяўнічы, цывілізаваны вецер дваццатага стагоддзя прымусіў чалавека да найвялікшага за ўсю яго гісторыі існавання адкрыцця — расшчаплення атама, толькі вось бяда, ніхто напачатку не падумаў, не здагадаўся, што гэта сам чалавек так здрабнеў, быў звядзены ўжо да памераў атама. Душу таго чалавека і разбурыў, расшчапіў чалавека. І чалавек больш не валодаў сваёй душой. Няздольны ён быў ні ўтаймаваць яе, ні спыніць яе расшчапленне. Працэс пайшоў, і выхапіліся, што чэрці з табакеркі, з таго атама-душы — Гітлер і Сталін. І як першае папярэджанне чалавеку быў выбух у Хірасіме і Нагасакі. Другое, ужо тут, на Радзіме Майстра, — Чарнобыль. Трэцяе..." Аб "трэцім" выбуху і распавядае В. Казько ў сваёй аповесці, выбуху, які адбыўся ў чалавечай душы, які раскалоў на дзве часткі беларускую нацыю.

Майстру нічога не застаецца, як даверыцца ў сваю апошнюю хвіліну прыродзе свайго таленту і адыграць ролю галоўнага героя ў спектаклі па ўласным сцэнарыі пад назвай "Юбілей-хаўтуры", тым больш што Саветы ўмеліператвараць юбілеі ў падабенства пахавання, а пахаванне адзначаць як вясёлае свята. Майстар успрымае ўласнае жыццё як творчасць, а таму творыць і ў апошнія свае хвіліны. Як творцу яму дарага ўсё, што нагадвае пра здольнасць свету змяняцца: каменьчык — "курынае шчасце" — з дзірачкай, над якім папрацавала сама прырода; белы лебедзь, які, нягледзячы ні на што, імкнецца да Беларусі і, абманутых людзьмі, разбіваецца аб асфальт ("бел-чырвона-белы застаўся ляжаць на бел-чырвона-белым снезе"); магіла Максіма Багдановіча, якую доўга шукаў, але ўсё ж знайшоў на занядбаным могільніку Майстар, і яго вершы, якія гучаць у душы героя; музыка сляпой скрыпачкі Жанны, якая грае ў падземцы не столькі дзеля нікчэмнага заробку, колькі дзеля ўдзячных слухачоў ды яшчэ ўласнай душы... Творчы дух жыве і на старонках новай аповесці В. Казько, а гэта азначае, што не ўсё так безнадзейна ў нашым жыцці. Хоць нешта, але і мы можам супрацьставіць бурнай плыні хаосу, напору сусветнай энтрапіі, жаху смерці.

**Міхась ТЫЧЫНА**

УРАЖАННЕ

# Горад Міколы Пракаповіча

Горад уваходзіў у паэзію Міколы Пракаповіча паступова: то асобнымі творамі, то асобнымі прыкметамі ці дэталямі гарадскога жыцця. Зборнікі паэта даюць магчымасць убачыць, як прыжываецца ў горадзе яго лірычны герой, учарашні вясковец. У першым лірычным цыкле "Белая вежа" (калектыўны зборнік "Нашчадкі", 1979) амаль не сустракаюцца вершы пра горад. Верш "Брэсцкай крэпасці" больш гаворыць пра патрыятычныя пачуцці, пра жаданне спасцігнуць радзіму праз яе гераічнае мінулае. Пачынае гарадскую тэматыку верш "Выццё сірэны не ўстрывожыць горад". Твор гэты акрэслівае падыход паэта да асэнсавання спецыфікі гарадскога жыцця, сам лад якога вызначае паводзіны людзей, робіць іх няўважлівымі адзін да аднаго і нячулымі да чужога гора.

Сімвалам горада ў другім паэтычным зборніку М. Пракаповіча "Неад'емнае" (1982) становіцца вакзал ("З вакзалаў пачынаюцца дарогі...", "Калі сціхае мітусня вакзалаў...", "Голас металічны абыякава..."). Вакзал увасабляе несціханы гарадскі шум. Менавіта мітусня, якой напоўнена жыццё людзей, узводзіць "паміж сэрцамі сцяну" і перашкаджае самаму важнаму — не пакідае часу для даверлівай размовы, каб знайсці ўзаемаразуменне і сяброўскую спагаду. Вакзал сімвалізуе і разлад у душы лірычнага героя. Тут і парыванні маладосці да шырокага пазнання свету, да пазнання роднай зямлі. Тут сустрэчы і развітанні з каханай дзяўчынай, з сябрамі. Але за прыездамі-ад'ездамі лірычнага героя хаваюцца недзе спробы ўцячы не толькі ад тлуму гарадскога жыцця, але і ад самога сябе. Ён выступае як прадстаўнік таго пакалення, якое жыве ў горадзе, але яшчэ моцна звязана з вёскай:

***Спяшаемся, імчым за даляглядзі,***
***Каб некалі, нарэшце, зразумець,***
***Што вечна будуць родныя прысады***
***У нашых снах лістотаю шумець.***

Таму няўтульна пакуль што лірычнаму герою ў горадзе, ды й сам горад таксама няўтульны ў вершах паэта:

***Над горадам смуга, смуга, смуга***
***і вецер, золкі і калючы...***

Калі дзе і адчуваў тут сябе добра лірычны герой, дык гэта ў лялечным тэатры. Але ж "казак няма бясконцых" нават у тэатры для дзяцей, не кажучы пра ўсё жыццё.

І толькі, здаецца, аднойчы лірычны герой, захоплены вясной, каханнем, успамінамі, стаў "сентыментальна-смешным", і яму здавалася, што і горад "пасля дажджу нібы дзіця, бязгрэшны". Тлумны горад абвастрае адчуванне сувязі з роднай зямлёю, якая ўзгадавала паэта. Вёска ўсё яшчэ выступае як захавальніца глыбінная народнай культуры, паэзіі народнага жыцця. Таму зварот да ўспамінаў — гэта зварот да крыніцы паэтычнага натхнення:

***І стане для мяне найлепшым днём***
***асенні дзень, няўтульны і маркотны,***
***што ператкаў матуліны палотны***
***паэзіі акрыленым радком.***

Зборнік "На кругі свае" (1986) уяўляецца важным і неабходным звяном у творчасці паэта. Па-першае, у ім паглыбляецца спасціжэнне радзімы лірычным героем, а падругое, развіваецца і ўдакладняецца яго адносіны да горада. Зноў вакзал выступае ў якасці таго, што адрывае чалавека ад роднага кута і навязвае яму свае няўмольныя законы жыцця. Так, у вершы "Сябрына" чытаем:

***Раскідалі нас вакзалы,***
***Справы і гарады...***

У паэтычным цыкле "Вуліца згоды" пераважаюць вершы на інтымную тэму. Лірычны герой гаворыць пра "золкі вакзальны вецер", пра свае сустрэчы з каханай, у якой бывае "наездамі, транзітам". Ён адчувае паэзію горада, часткай жыцця якога становіцца і сам:

***У цішыні начных кварталаў***
***Блукаюць недзе нашы сны...***

"Мяжа надзеі" (1993) — самы "гарадскі" зборнік М. Пракаповіча, аб чым сведчыць цыкл вершаў "Галасы берасцейскага дзядзінца". Паэт глядзіць з вышыні часу на гісторыю свайго горада, як на "стагоддзі, сціснутыя ў хвіліны". Жыццё старажытнага Берасця ён спрабуе аднавіць, адштурхоўваючыся ад музейных прадметаў-экспанатаў — мяча, дубовага рала, грабеньчыка і нарэшце чоўніка — "цацкі з дзіцячых сноў". Мінулае ажывае і ў вершы "Галасы берасцейскага дзядзінца". Мы чуем галасы-маналогі яцвяга, майстра Алексы, які будуе Вежу, славутага Афанасія Філіповіча, безыменнага званара, чый бунтарны звон абвяшчаў вясну, а таксама чуем то казацкія песні, то "Пагоню". У вершы "Цытадэль" М. Пракаповіч аднаўляе і зусім недалёкую гісторыю — абарону Брэсцкай крэпасці. Кожны верш гэтага цыкла мае своеасаблівае заключэнне, якое звязвае мінулае і сучаснае. У большасці сваёй у гэтых заключных страфах многа крыўды і горычы, бо многае страчана, забыта, бо доўгім было зняверанае бяспамяцтва. Зборнік "Мяжа надзеі" відавочна засведчыў, што сучасны горад для паэта як бы сімвалізуе наша сённяшняе жыццё з яго бездухоўнасцю і агульнай няўтульнасцю. Таму і выглядае ён у вершах паэта — ад цыкла "Белая вежа" да зборніка "Мяжа надзеі" — пустым і халодным, ахутаным туманам і смугой, напоўненым мітуснёй людзей і несціханым тлумам.

Падсумоўваючы набыткі і страты свайго няпростага шляху, лірычны герой бачыць "святлом заліты горад", становіцца больш разважлівым і назіральным. Выразна акрэсліваецца гарадская сутнасць чалавека-інтэлігента, які жыве напружаным духоўным жыццём, нягледзячы на тое, што сам горад не выклікае яго захаплення. Толькі і радуе прыязная сябрына аднадумцаў, сустрэчы з мастацтвам ды непаўторныя імгненні спатканняў з каханай.

Крыніцай жа паэтычнага натхнення служыць для паэта ў першую чаргу гераічная гісторыя горада — ад старажытнага Берасця да Брэсцкай крэпасці. Паэт вылучае постаці гараджан, ад слынных дзеячаў культуры да безыменных майстроў і герояў, якія ў розныя часы здолелі ўзняцца над бездухоўнасцю гарадской штодзённычыны і тым з'яўляюцца ўзорам і прыкладам для нашчадкаў.

**Уладзімір ЛЕБЕДЗЕЎ**

# А на памяць засталіся кнігі...

Гэтую сваю кнігу Аляксандр Капусцін чакаў з такім вялікім нецярпеннем, як, бадай, ні адну папярэднюю...

З Аляксандрам Пятровічам у мяне даўно склаліся прыязныя, сяброўскія адносіны, яшчэ з часу яго працы намеснікам галоўнага рэдактара "ЛіМа", а калі ён пайшоў па стане здароўя на заслужаны адпачынак (яшчэ да пенсійнага ўзросту — сказалася перажытае ў гады вайны ў падпол лі, партызанах, на фронце), сталі яшчэ больш цёплымі, бо ўжо не існавала той, хоць і дагэтуль не вельмі прыкметнай, дыстанцыі, што нязменна бывае паміж начальнікам і падначаленым. Сустракаліся і ў ягонай кватэры, і на ўлонні прыроды, даволі часта заходзіў Аляксандр Пятровіч у рэдакцыю. Найчасцей з рукапісам новага твора, пра які яму абавязкова хацелася атрымаць думку яшчэ задоўга да публікацыі. Тым больш дзяліўся радасцю, навіной, калі рукапіс кнігі прымалі ў выдавецтве.

Рукапіс гэтай, што атрымала назву "Усяму беламу свету", узяла "Мастацкая літаратура". І справы з падрыхтоўкай да выдання як быццам рухаліся няблага. Але з кожнай нашай чарговай сустрэчай у яго аптымізму менела і менела. Яно і ведама: для дзяржаўных выдавецтваў пачаліся неспрыяльныя часіны.

Нарэшце, Аляксандр Пятровіч паведаміў, што паабяцалі кнігу выпусціць пры ўмове, калі набярэцца пэўны тыраж. І тут жа па сакрэце сказаў, што землякі-жлобінцы гатовы пасля выхаду кнігі выкупіць значную частку накладу.

Справа нібыта зноў зрушылася з месца. Але яшчэ праз колькі часу высветлілася, што для выдавецтва гэта не выйсце. Кнігу ж спачатку трэба надрукаваць, а сродкаў не стае. Даведаўшыся пра гэта, я прапанаваў Аляксандру Пятровічу:

— Вы ж ганаровы грамадзянін Жлобіна, чаму б не звярнуцца да кіраўніцтва некаторых прадпрыемстваў? Тым больш, што сярод іх ёсць і такія, якія ўпэўнена стаяць на нагах! Няўжо яны не знойдуць колькі мільёнаў, каб перавесці "Мастацкай літаратуры"?

Аляксандр Пятровіч уважліва выслухаў прапанову і нічога пэўнага не сказаў. А пры наступных сустрэчах мы пра гэта не ўспаміналі. І толькі праз колькі месяцаў высветлілася, што ён усё ж звярнуўся па дапамогу да землякоў...

Прыйшоўшы тым разам у рэдакцыю, прызнаўся, што давялося паляжаць у раённай бальніцы — хуткая дапамога забрала проста з дачы, але заявіў урачам, што там няма больш чаго рабіць і паехаў у Мінск. Што адчуваў сябе не лепшым чынам, адразу кінулася ў вочы, ледзь пераступіў парог рэдакцыі. Бледнаваты, нейкі хваравіты твар, цяжка дыхае. Але, усміхнуўшыся, сказаў нешта накшталт, што здароўе папраўціца, а падстава для радасці — ёсць. І адразу палез у сваю скураную папку:

— Глядзі, дзякуючы табе...

У папцы была карэктура кнігі "Усяму беламу свету".

— Дзякуючы мне? — я не хаваў здзіўлення.

— Табе... Дапамаглі землякі...

Капусцін назваў прадпрыемства, якое пераравяло грошы "Мастацкай літаратуры", паведаміў і суму. І дадаў:

— Як толькі выйдзе, падпішу табе...

Не падпісаў. А дагэтуль дарыў з аўтографамі ўсе свае кнігі, што выходзілі на працягу нашага сяброўства. На апошняй, праўда, таксама стаіць даравальны надпіс, але — зрабіла яго Эмілія Іванаўна Капусціна, дарагая, любая ягоная жанчына, жонка, якую ён кахаў усё жыццё надзвычай моцна і аддана...

У кнізе "Усяму беламу свету" — апавяданні, навелы (асобныя з іх пазначаў жанрава, як абразкі), нарысы. Пераважная большасць іх раней публікавалася ў перыёдыцы, а нарысы змяшчаліся ў кнізе "Добрым словам чалавечым", якая выходзіла ў Жлобіне. Дарэчы, там жа пабачылі свет яшчэ два зборнікі Аляксандра Пятровіча — лішняе пацвярджэнне таму, як любілі і шанавалі яго на радзіме, дзе ён і сапраўды быў і па сённяшні дзень застаецца ганаровым чалавекам. Па праву павагі, удзячнасці за тое, што шмат зрабіў для землякоў. Найперш — як свайго роду летапісец родных мясцін. Прынамсі, адну са сваіх кніг "Цвіў бэз, іграла скрыпка" ён выдаў з такім прысвячэннем: "Табе, слаўны Жлобін, у юбілей пяцісотгоддзя". Ёсць прысвячэнне і яшчэ на адной — "На берагах Нявы".

І ў апошняй кнізе А. Капусцін піша пра дарагія сэрцу мясціны, адштурхоўваецца ад ураженняў падчас наведвання землякоў, згадвае перажытае ў гады вайны. Аўтабіяграфічныя моманты месцамі відочны і ў апавяданнях. Героі некаторых твораў — удзельнікі мінулай вайны. Многае, пра што А. Капусцін расказвае, ён перажыў асабіста. Гэта ўгадваецца па дакладных рэаліях з часоў вайны, па ўменні дакладна адчуць унутраны стан учарашніх партызан і франтавікоў, якім у гэтым жыцці часта даводзіцца нялёгка. І не толькі матэрыяльна, а і маральна. Ім часам балюча бачыць, што ідэалы, за якія змагаліся, абясцэнены. Тым самым у творах прысутнічае яшчэ адна тэма — маральна-этычная, якая знайшла належны водгалас ва ўсёй творчасці пісьменніка.

Пацвярджэнне назіральнасці А. Капусціна, яго ўменне прыкмячаць у паўсядзённасці тое, што як бы само кладзецца ў мастацкі твор — навелы, якія склалі раздзел "Крапіны жыцця". Такія абразкі можна напаткаць у яго многіх кнігах. Яны напісаны, як кажуць, з натуры, але — "не спісаны" з яе, бо А. Капусцін не фатаграфуе рэчаіснасць, а нязменна, расказваючы пра той ці іншы выпадак, пакідае і спажыву для роздуму таму, хто з творам пазнаёміцца.

Нарысы ж — згадкі пра знакамітых людзей, якія нарадзіліся на Жлобіншчыне. Героі твораў А. Капусціна — празаік Мікола Лупсякоў ("Лунаці дняпроўскія чайкі"), колішні рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, вядомы фізік, Антон Сеўчанка ("Шукальнік незвычайнага святла"), яўрэйскі пісьменнік Рыгор Добін ("Хлопец з Карпілаўкі") і іншыя. Вылучаецца гісторыка-краязнаўчы нарыс пра мастака, першага ілюстратара многіх твораў Шаўчэнкі, "Гора ад розуму" А. Грыбаедава, "Вайны і міру" Л. Талстога Міхаіла Башылава "Ад раскатаў майскіх навальніц", які набліжаецца да невялікай аповесці. А ўзнікла яна на падставе нарыса А. Капусціна пра Башылава "Раманс пра Віслігорскага", змешчанага яшчэ ў кнізе "Добрым словам чалавечым". Першым жа пра гэтага мастака расказаў у свой час рупны даследчык на ніве нацыянальнай даўніны Генадзь Кісялёў, вярнуўшы імя Башылава з небыцця і ўстанавіўшы месца яго нараджэння. А. Капусціну, вядома ж, дапамаглі звесткі Генадзя Васільевіча. Але не менш паспрыяла і мастакоўская інтуіцыя, што дазваляе прадугадаць магчымы ход падзей, а ў выніку вобраз Башылава і атрымаўся такім пераканаўчым і праўдзівым...

Гэтую сваю кнігу Аляксандр Пятровіч чакаў з такім вялікім нецярпеннем, як, бадай, ні адну папярэднюю. Быццам прадчуваў, што яна будзе ў яго апошняй. Тады, як ён паказаў мне карэктуру, мы неўзабаве развіталіся: ён хацеў уладзіць у Саюзе пісьменнікаў сякіятакія справы да пачатку сходу літаратараў, які меўся адбыцца. Хто б мог падумаць, што развіталіся мы назаўсёды? У той жа дзень, 16 кастрычніка, Аляксандра Пятровіча не стала. У час пасяджэння адчуў сябе кепска, выйшаў з залы, а хуткая дапамога ехала ажно хвілін трыццаць, і гэта ў той час, калі падстанцыя знаходзіцца за некалькі соцень метраў ад Дома літаратара...

Калі пішу гэтыя радкі, за акном слотнае надвор'е, цярусіць дождж. Неба пахмурнае, але па ўсім відаць, неўзабаве распагодзіцца. Мне хацелася б, каб сонечна, светла было і 16 кастрычніка, калі ўсе мы — блізкія, сябры, чытачы А. Капусціна — прыгадаем яго добрым, спагадным словам. А яснае надвор'е ён вельмі любіў. Незалежна ад таго, цёплым яно было ці па-зімовому настылым. Тады любіў прагуляцца. З ранняй вясны, калі прагрэецца вада, і да позняй восені плаваў. Зімой спяшаўся на лыжах у лес... Здавалася, што яго, нягледзячы на перажытае — у гады вайны быў кантужаны, тройчы паранены часта адольвалі хваробы, хопіць яшчэ не на адзін год.

Здавалася...

Ён адышоў год назад.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# Пра тэатр і пра сябе

Да кніг бываюць розныя эпіграфы. Да гэтай узяты такі:

"Хто сказаў, што гэты свет, у якім жывём, неабдымны!..

Асабіста я не магу ў гэта паверыць, бо ён, гэты свет, змяшчаецца ў вачах майго маленькага сына. Калі сын, немаўля, глядзіць на мяне сваімі блакітнымі вачамі, я, здаецца, бачу ў іх усё неба, што ёсць над зямлёй... Калі ён плача, увесь навакольны свет, уся гэтая мітусня з палітыкамі, з бізнесам, рэкламамі, усе гэтыя сваркі, змаганні за лепшае месца пад сонцам здаюцца мне нікчэмнымі, не вартымі ўвагі. Калі ён усміхаецца, я шчыра веру, што недзе ёсць Бог, і што свет — цудоўны!..

...Яму, сыну Аляксандру, прысвячаю гэтую кнігу...

**Аўтар**

*Люты, 1997 г.*"

А аўтар — акцёр Дзяржаўнага рускага драматычнага акадэмічнага тэатра Андрэй Душачкін-Клімаў. Кніга ж яго "Па той бок люстэрка", якая папоўніла "Бібліятэку часопіса "Маладосць", — таксама пра тэатр. У асноўным — пра тэатр, бо пра тэатр А. Душачкіну-Клімаву ёсць што расказаць. І не толькі таму, што ён звязаў свой лёс з ім.

Тэатр для Душачкіна-Клімава — гэта яшчэ і дзейнасць яго маці — народнай артысткі СССР Аляксандры Клімавай, і яго бацькі — цудоўнага акцёра і педагога Андрэя Душачкіна-Карсакоўскага, якога, на жаль, ужо няма ў жывых.

Але разам з тым кніга невыпадкова называецца "Па той бок люстэрка". На старонках яе знайшлося нямала месца і асэнсаванню жыцця пазасцэнічнага, жыцця ўвогуле. А яшчэ прыводзяцца вытрымкі з дзённікавых запісаў А. Клімавай, з запісак А. Душачкіна-Карсакоўскага. Да ўсяго выданне багата ілюстравана. Да пра аўтара расказвае не толькі ён сам, пра яго ў прадмове "Крок у залюстраванасць" гаворыць і рэдактар кнігі Юры Станкевіч.

Дарэчы, А. Душачкін-Клімаў у журналістыцы, літаратуры не навічок. Ён друкаваўся і ў "ЛіМе", і ў газеце "Беларускі час", і ў часопісе "Маладосць". І нават стаў лаўрэатам прэміі "Маладосці" за 1996 год. Праўда, пакуль піша па-руску, таму гэтую кніжку на беларускую мову пераклалі Жана Лашкевіч і Уладзімір Саламаха.

**А. АН-ЕВІЧ**

## Гадавіна выставы

На працягу года ў Дзяржаўным музеі беларускай літаратуры экспанавалася выстава народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. "І ўсё ж такі я веру!" — так называлася выстава, і найбольш наведвалі яе студэнты, вучні, настаўнікі. Невыпадкова падчас дэмантажу выставы ў музеі сабралася шмат выкладчыкаў мінскіх школ. Яны прыйшлі, каб яшчэ раз паслухаць любімага паэта. Ніл Сымонавіч прачытаў вершы, адказаў на пытанні, якія тычыліся і яго творчасці, і культурных, грамадскіх спраў. Асабліва многа пытанняў было па творах, якія ўключаны ў школьную праграму.

Многія з настаўнікаў прыйшлі з кніжкамі паэта, і кожны з іх атрымаў на памяць аўтограф. У далейшым плануецца гэтую выставу зрабіць перасоўнай, каб яна пабывала ў розных рэгіёнах рэспублікі. Калі дазволіць здароўе, паэт сам будзе яе суправаджаць, каб сустрэцца з настаўніцкай аўдыторыяй — самымі чуйнымі чытачамі паэтычнага слова.

Г. З.

## "Роднае слова", N 9

У пачатку наступнага года часопісу "Роднае слова" спаўняецца дзесяць гадоў. Праўда, гэта калі прытрымлівацца часу выхаду першага нумара. Але ж рэдакцыйны калектыў фарміруецца загадзя. Калектыў "Беларускай мовы і літаратуры ў школе", а такой, як вядома, была першапачатковая назва "РС", пачаў стварацца ў верасні 1987 года. У сувязі з гэтым юбілеем з артыкулам "На парозе перабудовы" выступае галоўны рэдактар часопіса М. Шавыркін. Дарэчы, завяршае нумар артыкул А. Саламевіча "Шаноўным сябрам "Роднага слова", у якім расказваецца пра асноўныя матэрыялы, што будуць змешчаны ў часопісе ў наступным, 1998 годзе.

У раздзеле "Філалогія" — артыкулы І. Навуменкі "Ой, чаму я стаў паэтам у нашай беднай старане?.." (старонкі жыцця М. Багдановіча), А. Мельнікавай "Імпрэсіянізм у творах Кузьмы Чорнага 20-х гадоў", А. Вераб'я "Яго чалавечнасць" (жыццё і творчасць У. Калесніка), В. Максімовіча "Новая драма" Францішка Аляхновіча", М. Чаеўскай "Традыцыя як форма сацыякультурнай дэтэрмінацыі ў апавяданнях Лукаша Калюгі", Е. Лявонавай "Я стварыў уласны космас..." (спроба ўводзінаў у мастацкі свет У. Фолкнера), А. Васілеўскай "Характарыстычнае слова ў радку Вячаслава Адамчыка".

Да 85-годдзя з дня нараджэння М. Танка прымеркавана гутарка М. Мікуліча з сынам паэта М. Скурко "Запомніўся ён сапраўдным сем'янінам", асобныя вершы паэта. Часопіс адзначае 60-годдзе А. Каўкі і У. Содаля, змяшчаючы іх артыкулы "Зорка Мікалая Улашчыка" і "Філолаг з маленства".

У "Анталогіі беларускага рамансa" нязменны вядучы рубрыкі В. Скорабагатаў знаёміць з творчасцю Р. Самохіна — "Каб разважыць смутак, ціха запяю..."

Змешчаны працяг "Календара знамянальных датаў і падзей на 1997 год", складзены Я. Саламевічам, артыкулы Т. Шамякінай "Рэлігія і мастацтва Ірана (Персіі)", У. Дзіско "Змаганне за "Ладдзю ведаў" (з Рэспубліканскай алімпіяды школьнікаў па беларускай мове), шэраг іншых публікацый.

## "Хвалюе музыка душу..."



Удзельніца народнага ансамбля песні і музыкі "Бялыніцкія музыкі" Бялыніцкага цэнтра культуры Наташа Набокава.

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БЕЛТА*

ПАЭЗІЯ

Віктар ЯРАЦ



# Жарчэй усіх агнёў

### Без адказу

*Ноч — пытаннем, пытаннем —*
*і ранне*
*раніц позірк дакорны і слых —*
*на радзіме ідзе выміранне,*
*выкарчоўванне слоў векавых.*

*Цёплых гукаў сузор'і вернеш?*
*Стыне далеч. І стыне душа,*
*як сцюдзёная ў полі шаша,*
*дзе рассыпана ростані зерне...*

### Званец лугавы

*Ні гул машын, ні рык матацыклетны*
*той ціхі не заглушаць перашэпт*
*званцоў сінюткіх —*
*спелых кветак летніх*
*(у кожнай — свой і голас, і сакрэт).*
*Палоняць слых — аж сіпнуць*
*ад натугі —*
*бясконцых абяцанак вешчуны.*
*Не коні цыркавыя, ды па кругу*
*ідуць гады. За кім ідуць яны?*
*І з даўніны даносіцца так рэдка*
*званочкаў спеў пад распіснай дугой.*
*Жыві, званец,*
*лугоў квяцістых кветка —*
*зямны, немітуслівы неспакой.*
*Трывож мой слых, настроены на будні,*
*дзе студняю — крыніца для касца,*
*і ў дзень апошні, што завецца "судны",*
*шапні здалёк:*
*— Няма жыццю канца...*

### Дні хмельнага сонца

*За ракой, за майскімі садамі*
*разам з узбярэжным вецярком*
*далячынь сваімі невадамі*
*адлавіць паспела першы гром.*

*Галасы над веццем да аблокаў*
*узлятаюць, а затым нырца*
*з вышыні даюць. Плыве навокал*
*свіст і цёхкат музыкай жыцця.*

*У такія дні не вокны толькі*
*ў веснія расчынены сады,*
*у такія дні ўздыхні — і з голькі*
*цвет ляціць на даўнія сляды...*

### Эцюд гарачыні

*Прыціхнуў ручай гаманлівы —*
*ледзь жывіць зажураны роў*
*у полі, дзе мелецца мліва*
*пылінак у жорнах вятроў.*
*Самлелая ластаўка ў спёку*
*змялелай вады не міне.*
*І нешта спрабуе звысоку*
*прамень дапытацца на дне.*

### Антыідылія

*Месяц, стамлёны ад крыку-гвалту,*
*вушы заткні — бо аглухнеш зусім,*
*Цені — бамжамі начнога*
*асфальту —*
*абнюхваюць цыгарэтны дым.*

*Дол абыякавы, звыклы да сцэнак.*
*Чуецца "маць" —*
*адгукаецца "муць".*
*Гучна плюецца*
*на дзетак бясцэнных*
*нехта з балкона — спаць не даюць.*

*Досвіткам дворніку будзе што месці*
*(шкло і акуркі грабі і грабі).*
*Штосьці спрабуюць да вокан данесці*
*зоркі пад рогат сп'янелай гульбы.*

### Неадлётнае

*Нібы ўсё адышло, што свяціла і грэла,*
*і па сцежках вясёлых вяло.*
*Толькі ліст скаўзанецца*
*з галіны-арэлі —*
*адгукнецца жывое святло.*

*Адцвіло, адбуяла; насеннем даспелым*
*і пладамі ў асенні прыпол*
*сыплюць ночы і дні.*
*І такі пацішэлы —*
*сіратлівы, абветраны дол.*

*І да нечай калыскі, і да нечай магілы*
*далятаюць чарод галасы.*
*Адплываюць,*
*плывуць пералётныя крылы*
*за сівыя лугі і нямыя лясы.*

*І плыве павуцінка паволі, няспешна,*
*і душа не спяшае адсюль*
*адыходзіць па сцежцы на шлях,*
*дзе суцешваць*
*зможа, можа, маторaў гул...*

### З даўніх зім

*Кружыць неба; на вейкі, на губы*
*ледзяныя калючкі кладзе.*
*Толькі вылезеш з гурбы — зноў гурбы.*
*Анікога жывога нідзе.*
*Ні людзей, ні слядоў, ні сцяжыны.*
*Крыкнеш — снегам заляпіць*
*твой крык.*
*Вые вецер, бы голас ваўчыны —*
*ён адзіны зямны праваднік.*
*...Як іголку, схаваную ў стозе,*
*адшукаюць цябе ў тых снягах —*
*хлапчука, што кругляў у знямозе*
*ў завіруху па ўласных слядах...*

### Добры дзень

Юрыю ФАТНЕВУ

*...Сніў Парыж начны ля Навазыбкава,*
*мроіў пра Мадрыд, як даль Далі...*
*Беларусь — бліжэй: барамі-скрыпкамі*
*варажыла:*
*— Вернешся калі?*

*Мечаны вайною, лёсам сечаны,*
*жорсткасцю і тупасцю чынуш,*
*нёс у сэрцы, харастом асвечаным,*
*словы, як букеты спелых руж.*

*Боль і сум ясенінскі і блокаўскі*
*ў рускіх — васільках і бальшаках*
*слухаў і з прызнаннем на губах*
*заміраў перад таемным локанам.*

*Клікалі ж здалёку Тураў, Лельчыцы,*
*зноў драўляны мост праз Убарць вёў,*
*дзе сляды твае не ў лаўрах вечнасці —*
*гаркатой напоўнены вятроў.*

*Пад якімі б ні ішоў арбітамі —*
*чуў, як дождж над Гомелем ідзе.*
*Добры дзень,*
*над Сожам ліст ракітавы,*
*кнігаўка за Сожам, добры дзень!*

*Белы свет —*
*не толькі цветам бэзавым.*
*Толькі ўсё ж прабіўся і расце*
*голас траў над стронцыем і цэзіем —*
*выклікам і злу, і немаце.*

### Аўтапартрэт

*Вітаўся з кожнай сцежкай*
*за пасёлкам*
*І з баравой царэўнаю-сасной,*
*Калінай ля крыніцы ў лузе золкім,*
*Травінай палявой, курганнай зёлкай,*
*Аблокамі над садам і ракой.*
*Рукою нецярпення трос галіны,*
*Як яблыкаў пунсовелі бакі.*
*Рылдзёкай дол вярэдзіў; цвёрдай гліны*
*Адкідваў з ямы глыжкі-камякі.*
*Цяпер сябе гукаю ці ўспаміны?*

### Дзень учарашні

*Не ўсё, не ўсё вяртаецца, і ўсё-ткі*
*так многае падобна ў гэтых днях,*
*калі вясна шпаклюе зноўку лодкі*
*на слізкіх акрыялых берагах.*
*Гусцее зеляніна вербалозу.*
*Мелодыя гармоніі зямной*
*з хаосу нараджаецца і з лёсу,*
*асветленага ранняй сівізной.*
*Цяпло на след будзённасці кладзецца.*
*Гуляе надбярэжны халадок.*
*Дзень учарашні туліцца да сэрца,*
*як да кастра — здарожаны хадок.*

### Ноч

*З кожным гукам у ноч адысці,*
*як у тайну, дзе ўсё — незнаёма,*
*дзе хаваецца песня ў трысці,*
*нібы продкаў азяблая мова.*

*З кожным словам, як ноч, паміраць,*
*з кожным словам наноў уваскрэснуць,*
*як світальная ў свеце зара,*
*як вясна ўваскрасае прадвеснем.*

*Не лічыць хуткаплынных хвілін —*
*слухаць далеч, як блізкае сэрца,*
*чуць, як зоры з высокіх галін*
*ападаюць у садзе бяссмерця.*

*За бяссонным імкнуць матылём*
*на агеньчык надрэчнай хаціны —*
*той, што некалі восеньскім днём*
*і твае адзначала радзіны.*

### Здзівіцца

*Пад снегам ці ліўнем здзівіцца:*
*як часта высвечвае міг*
*не толькі ў святле бліскавіцы*
*абліччы сапраўдныя ўсіх.*

### Элегія неба і траў

*Ля царквы ў траве, між дрэў ваколіцы,*
*пасвіць коз дзядок, пускае дым*
*самакруткі пад галлём, што моліцца*
*воблакам, ад спёкі ледзь жывым.*
*Служба ў храме йдзе. І сонца троіцы*
*прычашчае гарачынню ўсіх.*
*Слухае дзядок — слуга бяссонніцы —*
*і травы, і дрэў глыбокі ўздых.*
*Вышыня глыбіням адгукаецца.*
*А лісцё кляноў, як кажаны*
*з даўніх летаў, пра каго пытаецца,*
*ледзь пачуе светлыя званы?*
*І чыя душа, журботы поўная,*
*праплывае воблачкам нямым*
*над ваколіцай*
*пад ранішнімі промнямі —*
*ці адкажа самакруткі дым?*

### Тваё святло

*Людзі спяць. З дарогі нехта позна*
*стукае ў сцямнелае акно*
*пад густой акацыяй высознай —*
*дома ён, відаць, не быў даўно.*

*Не гнеці ж, трывога, нібы камень.*
*Людзі спяць. Але і ў час такі*
*зоры адгукаюцца вякамі,*
*як жыцця жывыя светлякі.*

*Ды жарчэй*
*усіх агнёў высокіх*
*сэрца, што пад нізкаю страхой*
*стрaпянецца — і плыве ад вокан*
*і да зорак маці неспакой.*

### Беларускі раманс

*Ціха цуглямі ў цемры зацятай*
*даўні час адзавецца ў кустах.*
*Аб'явіліся зноў канакрады,*
*як калісьці, у нашых краях.*

*І найлепшых з канюшні ці з лугу,*
*гарачэйшых — з вачмі, як агні,*
*выбіраюць і гоняць зладзюгі*
*коней жылістых. Грывы — сцягі.*

*У цане — "Мерседэсы" і "Вольвы".*
*Добры конь — ён таксама ў цане.*
*Ты аб чым уздыхнеш, паднявольны,*
*запражоны ў якой старане?*

*...Адзываюцца цуглямі страты.*
*Па начах ходзяць цені ў кустах.*
*Аб'явіліся зноў канакрады,*
*як калісьці, у родных краях.*

Лідзія АРАБЕЙ

# КАЛЕЙДАСКОП

НАВЕЛЫ-КАРАЦЕЛЬКІ



### КОЦІК

У вагоне электрычкі дзяўчына трымала на каленях коціка. Вельмі сімпатычнага — светлая поўсцька, цёмныя вушкі і хвосцік, блакітныя вочкі. Было бачна, як утульна коціку на каленях у гаспадыні: ён то млява ляжаў, прыжмурыўшыся, то гуляў з далонню дзяўчыны, са сваім хвосцікам. Пасажыры, што сядзелі побач, глядзелі на коціка і лагодна ўсміхаліся, і нікому не хацелася спрачацца пра палітыку, што так часта бывае ў электрычках.

Ратуй нас, коцік...

### ПАМЫЛКІ

Няхай не думаюць маладыя рэдактары, маладыя крытыкі, што яны ўсё ведаюць, усё разумеюць і ў літаратуры, і ў жыцці, што могуць камандаваць творамі, вырашаць іх лёс. Пройдуць гады, і яны самі зразумеюць, як шмат чаго і дасюль не ведаюць і як шмат памылак нарабілі.

### ПЕРШЫ

У жонкі было хворае сэрца, і кожны раз, калі пачынаўся прыступ, яна з вялікім жалем гаварыла мужу:

— Я памру, і з кім ты застанешся, як будзеш жыць без мяне, я цябе так шкадую...

Ён пайшоў з жыцця першы. А яна засталася — са сваім хворым сэрцам.

### "УВАЖАТЬ СЕБЯ ЗАСТАВИЛ..."

Я пыталася шмат у якіх паэтаў, празаікаў — як разумеюць яны Пушкінскія радкі з "Яўгенія Анегіна":

***Мой дядя самых честных правил,***
***Когда не в шутку занемог,***
***Он уважать себя заставил...***

Вось гэта як разумеюць — "уважать себя заставил"? І ўсе мне казалі, што разумеюць буквальна: прымусіў сябе паважаць. А на самай справе ў часы Пушкіна гэта была ідыёма, па сэнсе такая, як "приказал долго жить", "сыграл в ящик". Карацей кажучы — памёр. І гэта трэба ведаць у першую чаргу перакладчыкам.

### УСПАМІНЫ

У горад N прыехаў Маякоўскі, спыніўся ў гасцініцы. Двое мясцовых маладых паэтаў вырашылі яго адведаць. Прыйшлі ў нумар, пачалі чытаць свае вершы. Маякоўскі слухаў-слухаў, а потым адчыніў дзверы і сказаў:

— А ну вымятайцеся!

Ужо ў сталым веку адзін з тых паэтаў напісаў успаміны пра Маякоўскага. Акрамя вышэйпрыведзенага факта, ён нічога не мог расказаць, але ганарыўся тым, што атрымаў выспятка ад вялікага паэта.

І ў нас бываюць такія ўспамінальшчыкі.

### СКАРБ

Розум, талент, багаты жыццёвы вопыт — гэты велізарны скарб хаваецца ў зямлю разам з нябожчыкам. І ніхто таго скарбу не адкапае, ніхто ім не пакарыстаецца.

### ЭКРАН ТЭЛЕВІЗАРА

Вядучыя тэлепраграм, славутыя артысты, я вас ведаю і люблю, вы кожны дзень прыходзіце да мяне дадому і развейваеце мой сум. Каб я сустрэла вас на вуліцы, то кожнага пазнала б, а вы нават не падазраяце пра маё існаванне.

А ёсць такія беларускія дыктары, журналісты, што калі ўсплываюць яны на экране, я выключаю тэлевізар альбо шукаю іншую праграму: мне робіцца кепска ад іх хлуслівай балбатні.

### СТАРЫЯ ФІЛЬМЫ

Ёсць прывабнасць у старых фільмах. Там любімыя акцёры нашай маладосці, якіх ужо няма на свеце, жывыя і вясёлыя. А тыя, што цяпер злыселыя, састарэлыя, — такія маладыя...

### СТРАХ

У аўтобусе ехалі трое мужчын даволі старога веку і ляялі тых, хто развaліў Саюз. Выносілі і свой прысуд. Першым павесіць Гарбачова. Другім — Краўчука, гэтага бандэраўца. І, вядома, Шушкевіча. Пра Ельцына, галоўнага закапёршчыка, маўчалі. Звыклыя жыць у страху перад высокім начальствам, і тут не адважваліся падняць голас супраць дзейнага прэзідэнта.

### НЕ МОЖА НЕ ПРАЦАВАЦЬ

Пяцьдзесят сотак зямлі. На ёй расце бульба, спланаваны агарод. Гаспадыня, пенсійнага веку, працуе на зямлі з ранку да вечара. Восенню марынуе ў слоіках агуркі, памідоры, перцы, робіць тушонку — кожны год забіваюць двух парсючкоў. Пограб застаўлены дзесяткамі тых слоікаў яшчэ трохгадовай даўнасці — гаспадыня жыве толькі з мужам і старою маткаю. Кожны год кажа: "Ну, сёлета не буду садзіць агарода, гадаваць свіней". Але надыходзіць вясна, і яна зноў з ранку дацямна ў градах.

— Ну як я дам зарасці зямлі! Суседзі кругом шчыруюць, а я буду вылежвацца?

Яна не можа не працаваць...

### БЕЗДАПАМОЖНАСЦЬ

Калі хочаш расказаць не пра факт, а пра пачуццё, то слоў не знаходзіш, яны ўсе не тыя, яны ўсе бездапаможныя. Як можна расказаць пра слязу, што пячэ вока, пра тое, як сцінае дыханне... Словы збітыя, а новых не знайсці. А ў мяне іменна такое адчуванне, калі чытаю вершы Пушкіна, слухаю песні Акуджавы.

Булат жывы не ведаў пра маё існаванне. Булат нябожчык не ведаў, як я яго аплаквала.

### ЖАБРАКІ

Настаўнікі, дактары — людзі, патрэбныя кожнаму чалавеку, іх прафесіі павінны быць самымі прэстыжнымі, а дзяржава звяла іх да жабракоў. І вось, настаўнікі не хочуць вучыць, а дактары не хочуць лячыць.

### РАМАНТЫКА

Якою рамантыкаю павявае часам ад назваў далёкіх краін, гарадоў! Так рамантычна гучала некалі для мяне — "порт Находка". І вось па дарозе ў Японію мы ў тым порце. Раскінутыя на ўзгорках касабокія дамкі... Сам порт — збітае з дошак прыстанішча з зачыненым і пустым буфетам...

Так, напэўна, аб рэчаіснасць разбіваюцца ілюзіі.

### УШЧУВАННЕ

Калі я вярталася з далёкіх падарожжаў — з Кітая, Японіі, Канады, ЗША, то дакарала сябе — мала ўбачыла, мала зразумела, не да таго прыглядалася...

Цяпер, на схіле гадоў, зноў сябе дакараю, ушчуваю — не так жыла, не тое рабіла, не з тымі сябравала.

### А БО-О-О!

Вясковая кабета дзівілася са сваіх гарадскіх родзічаў:

— Сала ніхто не хоча есці, а бо-о-о!

### СКРУХА

Матка са скрухаю гаварыла:

— Я дзетак у зямлю пагадавала... Мая сямейка ўся мёртвая...

### АДДАЙ ГРОШЫ!

Матка пазычыла суседу грошы, а той доўга не аддаваў. Дык пачала кожны дзень пасылаць да яго малую дачку. Тая прыходзіла да суседа і казала:

— Дзядзька, аддай грошы!

### ЭПІТАФІЯ

Не забудзьце, родныя, нас наведваць, а мы не забудзем вас сустракаць.

### СЭНС ЖЫЦЦЯ

У чым сэнс жыцця? — шукаюць адказу, спрачаюцца з веку ў век людзі. Адказ зусім просты. Як у кожнай травінкі, раслінкі, у кожнай птушкі, звера, так і ў чалавека — пакінуць патомства, каб не звёўся чалавечы род. Паслухайце песні — яны амаль усе пра каханне. А раманы? Яны таму і называюцца раманамі, што аздабляе іх тэма кахання. Бо іменна яно, каханне, спрыяе працягу чалавечага роду.

### АКВЕДУК

Ад рымлян, што яшчэ да нашай эры панавалі ў цяперашнім французскім Правансе, засталіся да сёння рэшткі калізея, антычных тэатраў, тэрмы, магутныя саборы, вежы і яшчэ шмат збудаванняў, што дасюль дзівяць чалавека сваёй веліччу. Сярод іх — і акведук, збудаваны больш чым дзве тысячы гадоў таму пад горадам Німам. Гэта трохпавярховы мост даўжынёю ў сорак сем кіламетраў, вышынёю ў пяцьдзесят метраў, па ім цякла вада ў горад. Уражвае прыгажосць, гармонія і велічнасць збудавання. Флабэр, убачыўшы яго, сказаў: "Каля гэтага моста душа мая абрынулася ў глыбокае здзіўленне". Дзюма, убачыўшы акведук, сказаў: "Толькі рымляне маглі стварыць такое дзіва. Я бачыў калізей, грабніцы фараонаў, саборы, Пізу, але такое грандыёзнае цудоўнае збудаванне бачу ўпершыню".

Цяпер гэта пустынная мясцовасць, з двух бакоў акведука горы, пакрытыя зелянінаю, недалёка цячэ рака Гардон у вянку кучаравых кустарнікаў, вакол бязлюддзе, цішыня, чуваць толькі ціхая плынь вады. І я падумала — можна было пражыць жыццё і не ўбачыць такога дзіва.

### ЗАЙЗДРАСЦЬ

Ездзіла па Польшчы і зайздросціла — там усюды, і ў горадзе, і на сяле, гавораць па-польску. І старыя, і малыя гавораць па-польску. А ў нас за беларускую мову АМАП лупіць дубінкаю па спіне.

### А НАВОШТА ЯНА МНЕ?

Пятро Глебка вельмі многа курыў. Нехта з пісьменнікаў сказаў яму:

— Так шмат курыць — вялікая шкода для арганізма. Трэба вам кінуць курыць.

— Дык хацеў, не выходзіць, — адказаў Глебка.

— Няма ў вас сілы волі, — папракнуў яго той.

— А навошта яна мне? — адказаў Глебка.

### СЕРЫЯЛЫ

Шмат хто з вялікаю пагардаю ставіцца да серыялаў, называе іх мыльнымі операмі. Канечне, у іх шмат наіўнага, але трэба аддаць належнае ўменню аўтараў будаваць такі доўгі і складаны сюжэт, павароты ў якім глядач не прадбачыць, хоць і спадзяецца, што ўсё, нарэшце, скончыцца добра. І яшчэ заслуга тых серыялаў — яны абараняюць дабро, справядлівасць.

### ІМЯ

Маці, прачытаўшы сентыментальны раман, дала сваёй дачцэ імя гераіні таго твора, і дачка мучылася з тым імем усё жыццё.

### УСМЕШКА

Японцы рэдка расказваюць знаёмым пра свае няшчасці, а калі расказваюць, то з усмешкаю на твары, каб не траўміраваць сваёй бядою субяседніка.

### ПАМЯЦЬ

Пасля вайны засталося ўражанне: нямецкая мова — мова нямецкіх салдат-акупантаў, мова Гітлера. І непрыемна ўразіла, калі пачула яе пасля вайны ад нямецкіх жанчын, ад дзяцей. І зусім нядаўна напомніла яна мне вайну, акупацыю, калі пачула гэтую мову па тэлевізары ад знакамітага нямецкага артыста.

### ЕГІПЕТ

Чакалі ў Каіры цягніка, каб ехаць у Асуан. Цягнік пазніўся ўжо гадзіны на дзве. Спыталі ў чыгуначніка — калі ж цягнік прыбудзе?

— Калі Алах пажадае, — зусім сур'ёзна адказаў той.

### АДАБРАЛІ

Чытаю дзённікі Максіма Танка. Як жа шмат адабралі ў паэта дзён, гадзін, гадоў ад паэзіі, як шмат не напісаў ён сваіх мудрых вершаў — паездкі і паездкі, па Саюзе і за мяжу, з'езды, нарады, пасяджэнні, сходы. І відаць, як мала давала ўсё гэта паэзіі. Аб'ехаў цэлы свет, а вершы ўсё роўна пра сваё — пра роднае, беларускае, блізкае да болю.

### СІМВОЛІКА

Некаторыя беларускія палітыкі не хочуць хадзіць пад сцягам, пад якім у час вайны хадзілі паліцэйскія, але яны згодныя хадзіць пад сцягам, пад якім у час вайны хадзілі ўласаўцы.

### І СМЕХ, І ГРЭХ...

Хочацца і плакаць, і смяяцца, чытаючы ў "Звяздзе" артыкул старшыні камісіі па культуры і адукацыі У. Плецюхова. Аказваецца, цяперашняя дзяржаўная палітыка, калі зачыняюцца беларускія школы, беларускія класы — на карысць беларускай мове, беларускай культуры, больш ім спрыяе. А сам ён гаворыць па-руску, таму што на рускай мове яму "лепш выказаць палітру сваіх думак".

Авохці мне!

### БОЯЗЬ

Не трэба нічога баяцца ў жыцці, бо звычайна з намі адбываецца тое, чаго мы больш за ўсё баімся.

### УВАХОД І ПАДЫХОД

Некалі ўваход у будынак ЦК Беларусі абаранялі Маркс і Ленін. Сёння падыход сюды абараняе АМАП.

### МАЯ МІЛІЦЫЯ

Паліцыя, міліцыя ствараюцца ў дзяржаве для абароны грамадзян ад бандытаў, злодзеяў, хуліганаў. Нездарма Маякоўскі некалі пісаў: "Моя милиция меня бережет"...

Сёння наша міліцыя — узброеная супроць народа армія, да нашага міліцыянера боязна падысці і спытаць — дзе вуліца Натуралістаў. І яшчэ страшней загаварыць з ім на роднай мове — чаго добрага, у адказ агрэе дубінкаю.

### ШЭДЭЎР

Прэзідэнт на кінастудыі "Беларусьфільм" заказаў фільм-шэдэўр. Раней рэжысёры не хацелі рабіць шэдэўраў, марока з імі, з тымі шэдэўрамі. Але калі заказаў прэзідэнт, ды яшчэ грошы вялікія паабяцаў — прыйдзецца зрабіць.

### МІНІ

Мы ў свой час насілі спаднічкі крышку вышэй калена і гэта называлася "міні". Як могуць называцца спаднічкі, што носяць дзяўчаткі сёння? Хіба што "міні па самае годзе"?

### ВІТАННЕ

Бацька раніцою, выходзячы на кухню, дзе збіралася снедаць яго сям'я, вітаўся:

— Добры дзень, паважаныя дзеці!

### ТАТАРКА

Адзін пісьменнік сказаў пра жонку другога пісьменніка:

— Яна татарка...

Сказаў гэта так, быццам распавёў пра кепскую хваробу жанчыны.

### ЗАСТОЛЛЕ

Беларускія, украінскія, рускія народныя песні ствараліся нібыта спецыяльна для застолляў. І спявалі іх. Яшчэ зусім нядаўна ні адно застолле не абыходзілася без спеваў. Крыху падпітыя людзі, падабрэлыя, цешылі душу песняю.

Цяпер не спяваюць. Цяпер у застоллях спрачаюцца пра палітыку. Крычаць да хрыпаты.

*(Працяг на стар. 12)*

## Адкрыццё з аншлагам

**Вялікім сімфанічным канцэртам у сталіцы распачала свой 60-ты сезон Беларуская дзяржаўная філармонія.**

**Аншлаг, што суправаджаў гэты вечар, абумовіла прадчуванне падзеі. З запрашэннем у 1996 годзе на месца галоўнага дырыжора Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Мішы Каца (вучня М. Растраповіча па класе віяланчэлі ў Маскоўскай кансерваторыі імя Чайкоўскага, арганізатара яскравага Трыо Шастаковіча ў Францыі, нарэшце, дырыжора, узгадаванага на майстэрстве свайго бацькі — маэстра Леаніда Каца і славутага Леанарда Бернстайна) у аркестра нібы адкрылася другое дыханне. І сапраўды, такой лёгкасці, зладжанасці гучання, такой тонкасці дынамічнай нюансіроўкі і прыгажосці тэмбру пазайздросціў бы, бадай, сам К. М. Вэбер, чыёй уверцюрай да оперы "Аберон" распачалася праграма. Казачная музыка, над якой нібы віртуозны маг "чараваў" дырыжор, не толькі пераўтварыла аркестр, але і на ўвесь вечар надала станоўчы зарад усім прысутным у зале. Таму, магчыма, нават невялікія хібы ў выкананні Канцэрта N 5 Мі-бемоль мажор для фартэпіяна з аркестрам Л. Бетховена былі быццам незаўважаны захопленым слухачом, што назіраў за "паядынкам" артыстычна эмацыянальнага, тэмпераментнага М. Каца і вельмі сур'ёзнага, сабранага, да аскетызму стрыманага саліста Станіслава Ігалінскага (Расія).**

**У другім аддзяленні канцэрта ўладарыла муза Я. Брамса, 100 гадоў з дня смерці якога адзначаў сёлета музычны свет...**

**Прыгадваюцца словы, што "кінуў у залу" на пачатку вечара дырыжор: "Тым, хто не змог трапіць на гэты канцэрт, скажыце, каб супакоіць: "Аркестр іграў жудасна!" Але мы будзем старацца!"**

**Што ж, наперадзе — цэлы сезон, а значыць, магчымасць паразважаць над словамі таленавітага дырыжора...**

**Аксана КАПУСТА,**
**студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

## Аршанскі "Млын"



**У памяшканні былога гарадскога млына ў Оршы размясціўся музей этнаграфіі "Млын". Усе яго экспанаты — рэчы і прыстасаванні, якія вырабляліся сялянамі для ўжытку ў побыце і штодзённай працы.**

*На здымку: экскурсію праводзіць дырэктар музея Надзея Фядосаўна Фомчанка.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Фестываль дружбы

**У Магілёве завяршыўся Міжнародны фестываль фальклору Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы. На ім нашу краіну прадстаўляў народны ансамбль народнай музыкі, песні і танца "Магілёўцы" абласнога цэнтра народнай творчасці, Расію — "Слаўныя людзі" з горада Хіславічы, што на Смаленшчыне, "Дрэма" — з бранскага горада Трубчэўска і ўзорны дзіцячы ансамбль "Вяночак" з Таржка Цвярской вобласці. З Польшчы прыехалі самадзейныя артысты Влоцлавецкага ваяводства, з Украіны — вакальны мужчынскі ансамбль Уладзіміравецкага сельскага Дома культуры Ровенскай вобласці і "Трускаўчанка" з курортнага Трускаўца.**

**У першыя два дні ўдзельнікі фестывалю выступілі з канцэртнымі праграмамі ў шэрагу райцэнтраў вобласці: Крычаве, Глуску, Круглым, Бялынічах, Шклове. У апошні дзень свята на пляцоўцы перад будынкам педфакультэта Беларускай акадэміі музыкі адбылося ўрачыстае адкрыццё Другога Міжнароднага пленэру па жывапісе, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння народнага мастака Беларусі і Расіі, акадэміка Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, якое завяршыў гала-канцэрт удзельнікаў фальклорнага фестывалю.**

**У заключэнне адбыўся вечар Дружбы, на якім зноў гучалі музыка і песні і сардэчныя словы аб дружбе нашых славянскіх народаў.**

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

ТЭАТР

***Паразуменне рэжысёра й драматурга — з'ява, як па шчырасці ды па сённяшнім дні, дужа рэдкая. Тым больш і больш ага, — зацікаўленага стаўлення перш-наперш — варты дуэт рэжысёра Галіны КАРБАЎНІЧАЙ і драматурга Сяргея КАВАЛЁВА. На іх супольным рахунку — плённая дзейнасць у маладзечанскім тэатры лялек "Батлейка", спектаклі ў Акадэмічным рускім тэатры Беларусі і тэатры аднаго акцёра "Зьніч", пастаноўкі ў шэрагу тэатраў Расіі (самыя вядомыя — "Хохлік", "Драўляны рыцар", "Жабкі і чарапашка", "Незвычайныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага" (разам з драматургам Пятром Васючэнкам) — лялечныя і драматычныя). Галіна Карбаўнічая (выхаванка знанага Міхаіла Каралёва, выпускніца ЛГІТМіКа) колькі гадоў запар узначальвала лялечныя тэатры ў Расіі, была мастацкім кіраўніком маладзечанскай "Батлейкі", але да сёння мяркуе, што гады кіравання — толькі што не змарнаваныя варункамі, надта далёкімі ад творчых. Сяргей Кавалёў вядомы і як гісторык літаратуры, і як крытык; ён і цяпер спадзяецца, што сапраўднае тэатральнае адраджэнне Беларусь не абміне. Ці не кожная сустрэча Карбаўнічай і Кавалёва — творчая лабараторыя ў мініяцюры, слухаць іх карысна, натаваць — карысна ўдвая...***

# Трэба думаць пра з'явы на сцэне





**С. Кавалёў.** Ты, Галя, не беларускі рэжысёр, і гэта добра. Добра ў тым сэнсе, што ты ні з якога боку не ўсвядоміла так званай "беларускай нацыянальнай спецыфікі", акрамя гэтага, добра, што ты сама гэта прызнаеш і вывучыць гэтую "спецыфіку" не намагаешся. А ў большасці рэжысёраў, з якімі мне даводзілася працаваць альбо чые работы я бачыў, — з тых, што лічацца беларускімі, — ёсць гэтае... "веданне". Магчыма, уяўнае, трафарэтнае, якое не сягае за пэўныя дэталі, — побытавыя, надпобытавыя... Таму тваё няведанне — гэта ў лепшым сэнсе няведанне тутэйшых штампаў. Заўсёды, заўважу, знойдуцца людзі ад тэатра або пры тэатры, якія ведаюць, што ж яно такое — нацыянальнае. Прынамсі, абавязкова заўважыць, калі гэтага нацыянальнага, як на іхні густ, мала.

**Г. Карбаўнічая.** Тэатрам, як такім, займацца мала выпадае. Патрабуюцца спектаклі на густ гледача. Які мала хто выхоўвае і ніхто пэўна не вывучае. Дзіцячая аўдыторыя выдатна прымае спектаклі, дзе шмат акцёрскай мітусні, вэрхалу, гвалту, біцця кавенькай па галаве, — маленькага гледача да гэтага адмета прывучылі. Праўда, разуменне й радасці ад такіх паказаў дзецям хапае на тры хвіліны. Асноўнае ўражанне — біццё кавенькай... Але на падобныя спектаклі ўжо ёсць пэўны попыт! І попыт гэты старанна задавальняецца! Яшчэ і з гэтай прычыны, на жаль, пра большыню лялечных спектакляў (асабліва ў Беларусі) цяжка разважаць як пра работы прафесійныя. Але ж калісьці трэба пачынаць — глядзець, слухаць; бачыць, разумець. Я была ўражаная тым, што першым прафесійным спектаклем у Маладзечне (маю на ўвазе лялечны тэатр) "ЛіМ" назваў "Хохліка", спектакль ціхі, камерны, далікатны... Кажуць, ён да сёння, а гэта больш за шэсць гадоў, самы папулярны сярод маладзечанскай дзятвы. Але каму б распавесці, з-пад якога стоса папер я выцягнула тваю п'есу, Сяргей! Паспрыяла звычайная цікаўнасць ды выпадковасць, — гэта ўжо "Хохліка" прачытаўшы, я пачала цябе шукаць, каб прапанаваць стала супрацоўнічаць. Бо, не буду хаваць, мне вельмі рупіць літаратура для тэатра. Зазвычай лялечнаму тэатру даводзіцца жыць як набяжыць, брацца і ставіць тое, што трапляе пад руку. Сур'ёзна, адказна, скажам, у лабараторных умовах дзіцячай п'есай амаль не займаюцца. А вось пракатам ужо пастаўленай п'есы, акрамя рэжысёра і драматурга, займаюцца шмат якія тэатральныя службы, цэхі, дзе так званыя традыцыі складаюцца гадамі! Як у якім тэатры... Універсальнасць тэатра лялек страчаная, як страчаная універсальнасць чалавека, які займаецца гэтым тэатрам. І лялечныя, і лялечныя спектаклі — з тых, што прапануюцца ў Мінску, таксама — нягеглыя, груваcткія, з нявызначаным стаўленнем акцёраў да сваіх персанажаў, часта без аніякіх дачыненняў акцёра і лялькі.

**С. К.** Але, вінавацячы ў нягегласці, няможна скінуць з рахунку драматургаў, дакладней, іхняе няведанне спецыфікі тэатра, асабліва лялечнага! Калі я пісаў "Хохліка", дык меў на ўвазе, самае большае, групу дзіцячага садка. Ты, Галя, маю задуму зразумела абсалютна, стварыла спектакль камерны ды ціхі. Але, як прадказаў "ЛіМ", рэчаіснасць перамагла ўсе нашы задумы: у вялікай зале спектакль паступова знікае: інтанацыі акцёраў грубеюць, рухі ўзбуйняюцца... У мяне ў рабоце — новыя камерныя п'есы, але як іх ставіць? Урэшце атрымаецца, што ні я, ні рэжысёр сваіх задач не выканалі. А што гэта такое — дзіцячая аўдыторыя? Ці ж хто ў Беларусі сур'ёзна займаўся яе вывучэннем? Ці абмяжоўваліся толькі тым, што "казка для дзяцей — малако з мёдам"? Акрамя законаў сцэны, няблага было б уведаць узроставыя асаблівасці, уплыў на тэатральную аўдыторыю тэлебачання і відэа (скажам, чаго дзеці спадзяюцца прычакаць у тэатры) і да т. п. Не буду спасылацца на Польшчу, з чыімі доследамі цяпер знаёмлюся; спашлюся на Расію, дзе распрацаваны сякія-такія сістэмы апытання дзяцей, але як дапяць ад іх беларускаму драматургу-практыку? А гэта ж — складнік маёй работы, ды не апошні.

**Г. К.** Я б з радасцю пачала з вывучэння псіхалогіі... школьных выкладчыкаў, дакладней, выкладчыц. Аднаго разу папрасіла іх паразмаўляць з дзецьмі пра спектакль у школе. Але хутка высветлілася, што размовы гэтыя — бясплённыя. Дзеці адказваюць тое, што... трэба выхавацелю! А яму трэба, напэўна, "зняць пытанні" або зрабіць так, каб пытанняў зусім не ўзнікала... Я разумею занятасць педагогаў, але не магу не адзначыць, што тэатрам яны, па большыні сваёй, не захапляюцца, не цікавяцца (досвед Расіі ды Маладзечна). Як і мастацтвам увогуле. Ці ж мне агітаваць за спектаклі? Тлумачыць пра эмацыйную рухомасць, якую ў стане выхаваць хіба тэатр? Але мяркую, што творчым педагогам можна было б паказваць спектаклі і тлумачыць стылістыку, тэатральную мову, акцэнты і да т.п.

**С. К.** Тэатр — ці не адзінае месца, дзе дзеці маглі б падвучыцца, як правільна трэба прамаўляць ды ўжываць словы па-беларуску, — прыклад літоўскага лялечнага тэатра, які яшчэ за савецкім часам нібы паміж іншым займаўся такой пазашкольнай адукацыяй, сведчыць, што плён будзе.

**Г. К.** Тое, што я маю сёння — рыхтык тое, што мела васемнаццаць гадоў таму пасля выпуску з інстытута: так званае тэатральна-відовішчнае прадпрыемства. Мы мусім быць заклапочаныя хіба планам ды касаю. Мы амаль зусім не маем як займацца сваёй справаю — тою, якую за нас, рэжысёраў, не зробіць ніхто. Уздзеўшы хамут кіравання тэатрам, я стала заўважаць, як сама сябе, свае ж задумы падпілоўваю, падразаю, падцінаю, падкарачаю... Магчыма, мастацкі кіраўнік у тэатры мусіць брацца на сябе зашмат, а чаму? А таму, што прыходзіць у тэатр, дзе побач вельмі добрыя, але не вельмі тэатральныя людзі — непрафесійнікі. Самая тэатральная сістэма, у якой даводзіцца спраўджвацца, састарэла. Адзіны, ідэальны спосаб удасканаліць тэатр — гэта распусціць трупу, цэхі ды ўсё пачаць нанова. Але як абысціся з непрафесійнікамі, якія ўжо працуюць у тэатры? Магчыма, людзі чымсьці ахвяравалі для сваёй новай справы, скруцілі свой лёс, дый хто пасля пяці гадоў у тэатры пачуваецца навічком? Ды налаўчонасць — яшчэ не прафесійнасць... Выйсце хіба ў навучанні — штодзённым, студэнцкім...

**С. К.** А ў цябе, Галя, ёсць арыгінальная тэатральная мадэль?

**Г. К.** Хацела б, да прыкладу, працаваць з арыгінальнай беларускай п'есай. Прынцыпова — у маленькім тэатрыку, назвала б яго хатнім, дамашнім. Каб у ім разам з прафесійнымі акцёрамі маглі працаваць (гуляць!) дзеці. Хацелася б прайсці шляхам бліжэйшых суседзяў з Літвы: прыахвоціць да дзіцячых спектакляў бацькоў. Хацелася б змяніць якасць слова вымаўленага: хто не памятае, як у тэатры запрашаюць, маўляў, хто, дзеткі, хоча пагуляць? Рукі цягне ўся зала, а па правілах, па міжнародных стандартах вакол акцёра можа быць не больш за дзесяць чалавек... Мне хочацца стварыць разумны тэатр, а не пракатную пляцоўку. Красамоўны прыклад — Хенк Бурвінкль, які скалануў Мінск на першым міжнародным лялечным фестывалі колькі гадоў таму: ягонаму маленькаму тэатру падуладна тое, што ніколі не было падуладна тэатрам-монстрам. Як выйсці з сістэмы апошніх? Паводле яе (а яна складалася не адно дзесяцігоддзе) у тэатры ёсць творчы лідэр і адміністрацыйны лідэр, якія заўсёды — антаганісты. Пасада мастацкага кіраўніка тэатра нібыта мае на ўвазе тое, што ўся творчая ўлада засяроджваецца ў адных руках. Нічога падобнага. Хто мае грошы, той мае і ўладу. Дзе б там ні было. Чалавек з грашыма адкрыта кажа: прабачце, што мне ваш розум і ваша эстэтыка! Мне трэба зарплату плаціць!

**С. К.** "Тэатр купца Япішкіна"? Але ж сёетое мяняецца. Памятаеш, як колькі гадоў таму ў Маладзечне мы аддалі перавагу беларускамоўнаму рэпертуару, новым ды найноўшым п'есам, якія нідзе яшчэ не ставіліся, часцяком — п'есам маладых драматургаў, спецыяльна для "Батлейкі" створаных. А пераклад на мову тэатра некаторых помнікаў — класічных твораў беларускай літаратуры? "Жабкі і чарапашка", "Заяц варыць піва" паводле У. Караткевіча, скажам. Можа, таму, што я няблага ведаю старажытную літаратуру (я яе выкладаю), я, мабыць, першым бачу некаторыя рэчы, цалкам прыдатныя для тэатра. Напрыклад, "Торба смеху" Караля Жэры, — цудоўны ўзор а ля барочны тэатр, потым — сярэднявечная літаратура, паводле яе сюжэтаў ды матываў ставіліся ўжо "Трышчан...", "Люстэрка Бландоі", — я прызначаў іх старэйшым школьнікам, юнакам, а спектаклі стварылі "дарослыя" тэатры... На жаль, тыповы ўзор так званай беларускай драматургіі — гэта пераказы легендаў, паданняў, кампіляцыі з казак, прычым не на самым высокім узроўні — ад пераказу да валодання матэрыялам. Да нас з сабой у Маладзечне быў увасоблены бліскучы ўзор тэатральнай банальнасці — "Казкі Несцеркі": ненатуральна бадзёры герой у агульных выразах запрашае дзяцей падзівіцца на тое і на тое. І дзеці вымушаны "дзівіцца": як на чыйсьці густ ды неабазнанасць, дык выдае, што гэтыя "Казкі..." з'явіліся яшчэ да таго, як Віталь Вольскі напісаў свайго "Несцерку". І з такога ўзроўню пачынаў шмат хто з беларускіх драматургаў; крыўдна, што такі ўзровень лічыцца... ну ледзь не

адпаведным запатрабаванням нацыі. Я б хацеў дамагчыся пашырэння ўяўлення пра наша мінулае, пра вобраз беларуса — тэатральнымі сродкамі. Трэба думаць пра элітарныя, інтэлектуальныя з'явы на сцэне. Мяне, напрыклад, вельмі цікавіць нацыянальны фальклор, але адчуваю, што да яго павінен быць нейкі якасна новы падыход, — глыбейшы, метафізійны, псіхалагічны... Усе беларускія шэдэўры (і на польскай, і на лацінскай) я б з радасцю "прыстасаваў да сцэны", — прынамсі, паспрабаваў бы. Толькі рэжысёрскі зварот да гэтых твораў мусіць суправаджацца моцным інтэлектуальным зрухам, — вышукваць міфалагему, займацца структураю або вобразным светам казкі і г. д. Спазнаць прыхаваны сэнс, гуляць з гэтым сэнсам па-тэатральнаму... На маю думку, пачынаць рэформы ў тэатры з рэпертуару, мабыць, найпрыдатна. Рэпертуар — рэч амаль ідэальная для пераменаў, калі не думаць, ці ёсць пад п'есу рэжысура, ці стане акцёрскіх магчымасцяў. Па маіх назіраннях, тэатральная гаспадарка Беларусі доўгі час пынілася як гаспадарка правінцыйная, даруйце. Мы меліся быць правінцыйнымі прадстаўнікамі рускага мастацтва з нацыянальным, чытайце, мясцовым каларытам. Між тым менавіта Расія шукала выйсця з гэтага правінцыйнага становішча...

**Г. К.** Я амаль усе свае маладыя гады аддала працы ў тэатрах Расіі і магу сёе-тое засведчыць, абапіраючыся на ўласны досвед. Гадоў дванаццаць таму рэжысёры тэатраў лялек прапанавалі Міністэрству культуры РСФСР утварыць лабараторыю, дзе, дарэчы, мы з табою, Сяргей, і пазнаёміліся. Папершапачатку драматургі насілі п'есы ў міністэрства, якое іх купляла або не купляла, а куплёныя прапаноўвала нам для пастановак. Ды зрэдчас якая п'еса зазнавала дотык рук рэжысёравых, а пра ўвасабленне ў спектакль гаворка ішла яшчэ радзей. Рэжысёры тым часам пісалі інсцэніроўкі, абменьваліся перакладнымі падрадкоўнікамі... Мастакі, рэжысёры ды драматургі пачалі працаваць ад заявак на п'есы: што каму патрабавалася. Пайшлі сустрэчныя прапановы. Менавіта такім чынам зладзілі фестываль драматургіі Міхаіла Барценева, — дзякуючы лабараторыі. Новае імя — новыя драматургічныя прапановы. Пра плён дачыненняў з калегамі ўсё зразумела. Але колькі карысці! Абсалютна відавочнымі сталі хібы пачаткоўцаў, — напрыклад, з тымі самымі казкамі, якія цудоўна прадугледжваюць меру ганьбы ды пакарання. Нашы драматургі менавіта яе любяць парушаць: калі ў казцы герой дастае поўхі, дык у п'есе гэтых поўхаў будзе тузін, з'явіцца кавенька, або дручок, або кулакі... Бедны герой толькі церпіць. А потым здзіўляемся, чаму дзеці не спачуваюць пакаранаму герою, а радуюцца пакаранню, чакаюць біцця ды знявагаў! А потым, у сталым узросце, у такіх гледачоў — садысцкія схільнасці... Лабараторыя — гэта месца для крытыкаў, для псіхолагаў, культуролагаў, самых розных тэатральных спецыялістаў. Абавязковым быў разбор спектакляў. Дарэчы, вядомы цяпер сваімі рэжысёрскімі адметнасцямі Алег Жугжда таксама зазнаў разбораў гэтай лабараторыі...

**С. К.** А ў нас былі семінары ў Астрашыцкім Гарадку. Вызначэнню яны не паддаюцца з-за сваёй бязмэтнасці і нейкай вар'яцкасці: рэжысёраў, драматургаў і астатніх адразу падзяляюць на секцыі — у выніку драматургі, якія ведаюць адзін аднаго цудоўна, апынуліся ў адной секцыі — у лесе; пляткарылі, балабонілі... Распачалі колісь сустрэчы на базе Магілёўскага тэатра лялек, але надта хутка ўсё скруцілася. Цяпер існуе лабараторыя пры Дзяржаўным тэатры лялек: з кожнага правінцыйнага тэатра туды прывозяць спектаклі і крытыкі іх абмяркоўваюць. Але гэта ж зусім не тое; самая каштоўнасць утварэння лабараторыі драматургіі ў тым, каб не выдумляць нічога празмернага кшталту ўдасканалення майстэрства. А проста і канкрэтна: хоць раз на год збіраць п'есы, іхніх аўтараў і ладзіць прадстаўленне — і тых, і другіх. Мерапрыемства прадугледжвае чытанне, прапановы для пастановак і нават пагадненні з тэатрамі. Падняць ды пашырыць нашу драматургію так, каб яе спажываў тэатр, наўрад ці ўдасца ў хуткім часе. Затое, калі тры-чатыры чалавекі спасцігнуць законы сцэны ды пазнаёмяцца з патрабаваннямі людзей тэатра, плён будзе. Зрэшты, нам бракуе здаровай канкурэнцыі.

**Г. К.** Толькі гэтым шляхам нашы тэатры займеюць свае аблічча — разнастайныя, уласныя. Сёння мы ўжо не магутны Савецкі Саюз, але магутная савецкая драматургія спраўна захапіла нашы падмосткі пераробкамі з Кіплінга (не горшы варыянт) ды хрэстаматыйнымі "Церамкамі". На жаль, стэрэатыпнае мысленне на ўзроўні літаратуры, драматургіі асуджае тэатры на сярэдні ўзровень існавання ды на сярэдні кантынгент публікі. Людзі, мабыць, нічога і не чакаюць ад тэатра, — яны проста не ўяўляюць ягоных магчымасцяў.

**P. S.** Меркаванні і думкі гэтай гутаркі выказваліся і збіраліся на працягу двух апошніх гадоў.

**Галіну КАРБАЎНІЧУЮ**
**І Сяргея КАВАЛЁВА**
**слухала Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота У. ПАНАДЫ*

МУЗЫКА

# "Не камерны" розгалас камернага

***У сёлетнім, юбілейным для сталічнай філармоніі сезоне адзначыць сваё 30-годдзе адзін з лепшых музычных калектываў краіны — Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі.***

Добрая рэпутацыя спадарожнічала яму заўсёды, бо гісторыя гэтага аркестра стваралася пры чынным удзеле такіх музыкаў, як Алег Янчанка, Юры Цырук, Ігар Галаўчын, Аляксей Вінаградаў, Лючыя Ластаўка, Уладзімір Байдаў, Міхаіл Штэйн...

Добрую рэпутацыю нават "падмацоўвала" тое, што аркестру досыць доўгі час даводзілася працаваць (і на замежных гастролях) без цвёрдай кіруючай рукі галоўнага дырыжора. Ды калі пару гадоў таму з калектыву звольнілася амаль палова сталых прафесійнікаў, яму пачалі прарочыць не лепшую перспектыву.

І што ж?

Вакантныя месцы ў аркестры даверылі гадаванцам Беларускай акадэміі музыкі. За пульт галоўнага дырыжора стаў малады маэстра Інга Эрнст Райль, запрошаны з Германіі. "Калектыўны голас" камернага памаладзеў, набыў новыя фарбы і неўзабаве...

Пра тое, што неўзабаве абноўленыя канцэртныя праграмы Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі атрымалі шырокае прызнанне, сведчаць і падзеі мінулага лета.

Як расказаў дырэктар аркестра Аляксандр Гусеў, лета было багатае на прэстыжныя і паспяховыя замежныя выступленні. Творчаму натхненню калектыву і розгаласу ў аўтарытэтным культурным свеце паспрыялі маэстра Інга Эрнст Райль і ягоны калега Міша Кац, французскі дырыжор, які з мінулага сезона працуе ў Мінску, узначальвае Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі.

Чамусьці рэспубліканскі друк досыць сціпла інфармаваў грамаду пра Дні культуры Беларусі, якія прайшлі сёлета ў Польшчы. Але ж гэта была значная падзея, і для гісторыі нашага камернага аркестра памятная. Беларускія музыканты мелі прэстыжнае выступленне ў каралеўскім замку ў Варшаве, атрымалі высокую ацэнку польскіх слухачоў, якія раней нават не ведалі пра існаванне ў краіне-суседцы такіх выбітных выканаўцаў.

Паланіла майстэрства беларускіх музыкантаў і шведскую публіку. Першы з пяці канцэртаў, наладжаных у Швецыі, трансліраваўся на ўсю краіну. Саліравалі вядомы беларускі піяніст Цімур Сергяеня і скрыпач з Бельгіі Міхаіл Бязверхні. Гучала музыка Баха, Чайкоўскага, Дворжака...

Потым — Англія. Удзельнічалі ў прэстыжным міжнародным фестывалі, які ладзіўся ў мястэчку Чычэстар, што за 160 км ад Лондана, і ў якім на той час выступілі ўжо са сваімі музыкантамі маэстра Яўген Святланаў, Юры Башмет, Саўлюс Сандэцкіс... Наш аркестр іграў пад кіраўніцтвам Мішы Каца. І адбывалася гэта, як маляўніча распавёў сп. Гусеў, у агромністым саборы, аздобленым фрэскамі нашага земляка Шагала, у прысутнасці шматлікай (зала мае 3,5—4 тысячы месцаў!) публікі. Па перыметры сабора былі запалены сапраўдныя свечкі (а не лямпачкі адпаведнай формы!). Ля аддаленых ці нязручна размешчаных крэслаў працавалі тэлеманіторы, каб можна было бачыць выканаўцаў...

Ад "туманнага Альбіёна" дарога вяла ў сонечную Францыю. Тут адбыліся чатыры канцэрты ў прэстыжных курортных мястэчках. Прэстыжнасць, гарачы прыём, захоплены розгалас у прэсе... Мала хто ведаў, што адсутнасць сродкаў (гастролі ж не камерцыйныя) не дазваляла нашым артыстам выдаткоўваць час на адпачынак. Працавалі ў жорсткім рэжыме: пасля канцэрта — у гатэль, кароткі сон і зноў дарога, а то і ноч у аўтобусе, бо наступным днём выступаць трэба ўжо ў іншым гарадку.

Праз два тыдні яны зноў апынуліся ў Францыі: жнівеньскае турнэ па каралеўскіх замках — пяць канцэртаў, захоплены прыём!

А на пачатку верасня Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі паспеў пабываць ужо ў Германіі — чатыры канцэрты пад кіраўніцтвам Інга Эрнста Райля з удзелам вядомых нашых вакалістаў Віктара Скорабагатава, Лесі Лют ды Рыгора Палішчука. Адметна тое, што, апроч новай нямецкай музыкі, твораў Шуберта, Шастаковіча, Барбера, выконвалася і сучасная беларуская музыка — Канцэрт для альта з аркестрам Уладзіміра Каральчука (салістка — Лючыя Ластаўка).

Цяпер у аркестра — новая сустрэча з французскай публікай, і асабліва сур'ёзнае творчае выпрабаванне — запланаваны на 9-га кастрычніка канцэрт у Палацы кангрэсаў у Парыжы. Потым — Данія, Швецыя...

І абавязкова — канцэрты ў роднай сталіцы і ў абласных гарадах.

На думку дырэктара калектыву, прынцыпова важным вынікам летніх гастроляў сталася тое, што пасля выступлення ў Англіі там быў заснаваны фонд падтрымкі маладых беларускіх музыкантаў, а таксама атрымана грашовая і гуманітарная дапамога з Англіі ды Францыі — для беларускіх дзяцей, пацярпелых ад наступстваў Чарнобыля.

**С. Б.**

# Знайшоўшы Элізабэт

***Удала адбыўшы фестываль "Херсанескія гульні", адпачыўшы ў гасцінным Севастопалі, мінскі Малы тэатр Беларускага фонду развіцця культуры адкрыў свой новы, ужо другі па ліку сезон новым спектаклем. Прэм'ера пад назвай "Знайсці Элізабэт" адбылася 17—18 верасня ў Палацы культуры прафсаюзаў. Гэта першая пастаноўка, на якую гэты недзяржаўны тэатр атрымаў дзяржзаказ ад Міністэрства культуры Беларусі.***

Галоўным ініцыятарам "пошукаў Элізабэт" стаў акцёр і рэжысёр Аляксандр Гарцуеў, уладальнік "Крыштальнай кветкі" ў сёлетнім сезоне. Яму належыць і сцэнарый гэтага, як сам ён кажа, "экзерсіса ў духу Рабэра Тама", і музычнае афармленне, і самая пастаноўка спектакля.

Калі вы глядзелі фільм "Пастка для адзінокага мужчыны", то падзеі, што адбываюцца ў спектаклі, здадуцца вам знаёмымі. У наяўнасці: мастак Даніэль, які падняў на ногі ўсю навакольную паліцыю для пошукаў сваёй нявесты Элізабэт, камісар паліцыі Максімэн, даўні сябар галоўнага героя (якім цудоўным быў у гэтай ролі Веніямін Смехаў!), фальшывая нявеста — Фларанс, што траха не збіла з тропу няшчаснага мастака. Неабходны мінімум для дэтэктыўнай гісторыі. Але чацвёртая дзеючая асоба ў спектаклі ніяк не жадае ўпісвацца ў звыклы сюжэт — гэта сама Элізабэт! Тут рэжысёр прапануе гледачу паламаць галаву: чаму яна знікла і наогул... ці існавала? З гэтай загадкай спраўляецца Максімэн. Але разгадка атрымліваецца далёка не радасная. Занадта ўжо варварская, занадта жорсткая. Уявіце, як трэба было "зламаць" мастака, каб прымусіць яго адмовіцца ад адзінай радасці ў жыцці — ад мары, вымавіць: "Яе няма". Фларанс у выкананні Святланы Нікіфаравай аказваецца толькі зброяй у руках камісара. Але вось усе карты раскрыты: Даніэль растаптаны, знішчаны, а Максімэн святкуе перамогу, і тут яна, Элізабэт, не падпарадкуецца здароваму розуму, — шкадуе мастака. Даніэль, герой Ігара Забары, — няўдаліца. Не такая ўжо рэдкая цяпер з'ява — чалавек заглыбляецца ў свой уласны ідэальны свет, дзе выратоўвае дзіця на пажары, бярэ ўдзел у забароненых мітынгах, робіцца знакамітым мастаком і адзіным, хто "варты вялікага кахання". Для яго пяшчотная, трапяткая Элізабэт у лёгкім белым убранні (яе іграе Зоя Белахвосцік) — рэальная. Камісар Максімэн (Валерый Кашчэеў) — гэткі ж няўдаліца. Можа, таму ён так злуе на сябра, што сам не толькі нікчэмны, але і ўявіць сябе іншым не здольны? Сутыкаюцца два вар'яцтвы, адно марыць, а другое гэтую мару знішчае. Жахлівая і маркотная казка для дарослых — такім быў бы спектакль без фінальнай сцэны. Не, гэта не "хэпі энд" — так занадта банальна. Гэта — надзея, гэта — вяртанне Элізабэт!

Падчас рэпетыцый пастаноўкі акцёрам прыйшлося шмат папрацаваць над пластыкай і нават засвоіць харэаграфічныя элементы пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі балетмайстра Уладзіміра Іванова. Гэтага вымагала самая форма спектакля, у якім перапляліся і танцавальна-пластычныя нумары, і пантаміма, і драматычная ігра. Жорсткі, дакладны рытм задае музыка, ад якой падчас стыне кроў. Гэта работа гукарэжысёра Сяргея Сіняўскага, які нязменна супрацоўнічае з тэатрам у кожным спектаклі, і таму якраз музычнае афармленне не выклікае ніякіх нараканняў. Не пакідае тэатр і мастак-пастаноўшчык Алена Ігруша. Сцэна ў спектаклі аформлена ёю гранічна скупа: чорны фон і белыя палотны-карціны. Затое касцюмы з тонкай паўпразрыстай тканіны — яркія і красамоўныя: на Даніэлі — свабодная зялёная апранаха, на Максімэне — чырвоны "плячысты" плашч і капялюш, Элізабэт — у белым, сімвалізуючы дабро, Фларанс, наадварот, у чорным.

Спектакль "Знайсці Элізабэт..." заяўлены Малым тэатрам, але, па сутнасці, ён выходзіць за межы вызначанага, пэўнага тэатра. Гэта ён падобна на леташнія пастаноўкі — "Скарпіён" і "Дрэйфус", дзе рэжысавалі масквіч Аляксей Ліцвін і Валянціна Еранькова (Рускі тэатр), а ігралі акцёры мінскіх труп — Алена Сідарава, Аляксей Шадзько, Ганна Пянкевіч, Павел Адамчыкаў. Цяпер на афішах Малога тэатра — імёны заслужанай артысткі Беларусі Зоі Белахвосцік і Валерыя Кашчэева. Робячы стаўку на вядомыя імёны, тэатр намагаецца не пакідаць "за бортам" сваіх, не менш здольных акцёраў. Так, ролю Элізабэт рэпеціруе Ганна Лягчылава (будзе іграць у другім складзе). А вось у ролі камісара хацелася б пабачыць Артура Федаровіча — вельмі ўжо ў яго прыдатная фактура і голас.

Пастаўлены ва ўмовы самазабеспячэння, Малы тэатр разрываецца паміж жаданнем выжыць, робячы дзеля гэтага касавыя спектаклі, і жаданнем захаваць пэўную элітарнасць, мастацкую скіраванасць, узровень. Здаецца, што "адшукаўшы Элізабэт", тэатр знайшоў і аптымальны варыянт, у якім гэтыя жаданні не супярэчаць адно аднаму.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

# ...Дзе шмат "дзікіх малпаў" і людскі заробак

Ці чулі вы апошні жарт пра музыкантаў Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі? Вастрасловы кажуць, што з пачаткам новага сезона многія з іх наважыліся туды, дзе, гаворачы словамі папулярнага тэлегероя, "многа-многа дзікіх малпаў". У Бразілію, значыць.

Кожны жарт, як вядома, тоіць у сабе долю праўды. І гэтую долю праўды паведаміў мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ю. Гільдзюк. Так, сёлета вядучы сімфанічны аркестр краіны пакінулі дзевяць артыстаў. Хтосьці з іх сапраўды адгукнуўся на выгодную прапанову бразільскага імпрэсарыо, хтосьці паехаў за мяжу на СМЖ (сталае месца жыхарства), хтосьці ўладкаваўся ў высокааплатны "Minsk-orchestra" — дзіўны калектыў, які, паводле "дапытлівых меркаванняў", нібыта не ў нас і не "на нас" працуе. Гэткі "чужы сярод сваіх"...

Філарманічнае кіраўніцтва лічыць натуральнай з'явай гэткую ў літаральным сэнсе бягучасць беларускіх музыкантаў. Бо іхнія заробкі ў родным аркестры не дасягаюць узроўню так званага спажывецкага кошыка. Каб дацягнуцца да таго "кошыка", трэба добра пакруціцца, сумяшчаючы і працу ў некалькіх выканаўчых калектывах, і працу выкладчыцкую... Зразумела, як уплывае гэткая беганіна на далікатную нервовую сістэму чалавека мастацтва, як урэшце "адгукваецца" яна прыкрымі неахайнасцямі ў гранні падчас канцэрта. І да т.п. Зразумела, чаму ніхто з гаротных музыкаў не адмаўляецца ад свайго шанцу — хаця б часова ўладкавацца на адным-адзіным больш-менш прыстойна аплатным месцы. Хай сабе і ў "краіне дзікіх малпаў"...

**С. Б.**

## Свой чалавек у тэатры

АЛЕНЕ ПАПОВАЙ — 50



**Алена Папова нарадзілася 12 кастрычніка 1947 года ў горадзе Легніца (Польшча), дзе на той час служыў яе бацька (ваенны журналіст, а потым вядомы пісьменнік) Георгій Папоў. У 1950 годзе сям'я пераехала ў Мінск. Тут Алена скончыла сярэднюю школу N 20. Год правучылася на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а потым паехала ў Сібір, дзе з 1967 па 1968 год працавала карэспандэнтам Сургуцкага радыёвяшчання (Цюменская вобласць).**

**Была літработнікам аддзела культуры рэдакцыі газеты "Вячэрні Мінск", сакратаром-машыністкай трэста "Аўтарэмбудмантаж". У 1973 годзе скончыла Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, пасля чаго працавала рэдактарам, кінадраматургам сцэнарнай майстэрні кінастудыі "Беларусьфільм", асістэнтам рэжысёра ў творчым аб'яднанні "Летапіс", памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы тэатра імя Янкі Купалы.**

**У друку дэбютавала ў 1962 годзе на старонках газеты "Советская Белоруссия". Піша па-руску. Аўтар п'ес "Дом на беразе мора", "Хуткія цягнікі", "Такая прыстань", "Плошча Перамогі", "Аб'ява ў вячэрняй газеце", "Маленькія радасці жывых". Асобныя творы А. Паповай змяшчаліся ў перыёдыцы, лепшыя п'есы ўвайшлі ў яе кнігу "Аб'ява ў вячэрняй газеце" (1989). Асобныя п'есы пастаўлены не толькі на Беларусі, але і за межамі краіны, дзе А. Папова, дарэчы, знайшла нават большае прызнанне, чым на Радзіме. Для дзяцей выдала аповесць "Галачка едзе ў Афрыку".**

**Віншуем Алену Георгіеўну з поўднем веку! Новых жыццёвых і творчых поспехаў Вам!**

## Дзецям і пра дзяцей

ДАІРУ СЛАЎКОВІЧУ — 65



**Даір Фёдаравіч родам з Мінска. У час вайны быў паранены, кантужаны, а ў выніку цяжка захварэў. Восем гадоў праляжаў прыкаваны да ложка. Пасля заканчэння Узддзенскай сярэдняй школы працаваў бібліятэкарам, загадчыкам уздзенскай раённай дзіцячай бібліятэкі, настаўнічаў. У 1960 годзе завочна скончыў факультэт бібліяграфіі і бібліятэказнаўства Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. З 1977 года жыве ў Мінску.**

**У 1946 годзе дэбютаваў вершамі. Першае апавяданне апублікаваў у 1947 годзе ў маскоўскім часопісе "Затейник". Для дзяцей і юнацтва выдаў кнігі "Каласавічок", "Сцежкаю мужных", "Хвядоскавы канікулы", "Пачым фунт ліха", "Я вярнуся, мама", "Я ў рабочым пайду", "Алея Невядомага салдата" і іншыя. Выступае таксама як сатырык і гумарыст, піша нарысы, п'есы, займаецца перакладчыцкай дзейнасцю.**

**З 65-годдзем, шаноўны Даір Фёдаравіч! Доўгіх год Вам жыцця і новых твораў!**

ВІНШУЕМ!

## Таісе МЕЛЬЧАНЦЫ — 50



***Таіса Мельчанка друкуецца са школьных гадоў. Яе верш "Маці" быў апублікаваны ў 1963 годзе на старонках добрушскай раённай газеты "Ленінец". Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, цяпер працуе на педагагічнай ніве. Выдала кнігі паэзіі "Бацькоўскі дом", "Званоку верасень"... Новыя творы друкуюцца ў рэспубліканскай перыёдыцы.***

***Віншуем Таісу Васільеўну з 50-годдзем! Жадаем ёй новых жыццёвых і творчых поспехаў!***

Таіса МЕЛЬЧАНКА

## Хвіліна адкрыцця

•

*Імчыць цягнік мяне дадому,*
*Спяваюць рэйкі ў такт яздзе.*
*Сумуе сэрца па святому —*
*Па маці, бацьку, па куце.*

*Як жаўрука трымае неба*
*Зычлівай песняю вясны,*
*Так і мяне — вось гэта глеба,*
*Дзе радаводу карані.*

*Дымок над вуліцай вясковай*
*Нясе мне роднае цяпло.*
*Зляпаюць з вуснаў тыя словы,*
*Якімі мовіці сяло.*

*Мне люба дожджыка гаворка*
*І перламутр сырой травы.*
*І нат свавольніца-вясёлка,*
*Што вынырнула з-за гары.*

*Яна вады набрала з рэчкі*
*І выплеснула на лугі.*
*Аж прасвятлеў рамонка венчык*
*І — край бясконца дарагі.*

*Так ашчаслівіла прырода,*
*Што бачу зноўку сэнс жыцця.*
*Як добра, што я з вёскі родам,*
*І з ёю — ў хвілі адкрыцця.*

•

*Стамлёны дзень улёгся адпачыць,*
*Распраміўшы натруджаныя плечы.*
*У неба зоркавокае глядзіць,*
*Дзе спраў рахунак падбівае вечар.*

*Чым болей зор,*
*тым болей спраў зямных.*
*Ды кожна зорка свеціцца іначай.*
*І думаецца мне у гэты міг:*
*Што я сама у кожным дні*
*тым значу.*

*Стамлёны дзень даўно ужо заціх,*
*А я гляджу, як зорка даспявае,*
*Як цішу аб'язджае маладзік,*
*Бы зробленае мною правярае.*

### Сцяжына жыцця

*Старэю, дружа, — зрок ужо не той.*
*Гняце хвароба, аж жыццё няміла.*
*Не стала ні славутай, ні святой —*
*Мая душа адкрыта гаварыла.*

*Бо хцівасць, жорсткасць,*
*подласць і падман*
*Найперш лічыла я па-за законам.*
*Таму на сэрцы шмат рубцоў*
*і ран*
*Да тых, каму зрывала я карону.*

*Кружыла варанне над галавой —*
*Уплятаўся іней горычы у косы.*
*О мой народзе, я была з табой,*
*Не плакала ў рукаў над тваім лёсам.*

*Нястрымен час. Жыццё —*
*кароткі міг.*
*Магчыма, хутка кроў*
*супыняць жылы,*
*І разарвецца звязка дзён жывых,*
*І жменька душ збярэцца ля магілы.*

*Мо словам добрым памянуць сябры,*
*І з родных хтосьці*
*тут наўзрыд заплача.*
*А ворагі, няшчасця званары,*
*Успрымуць смерць, як радасць,*
*як удачу.*

*І лёс няўмольнай скрухаю пяра*
*Радзін і смерці выпіша мне дату.*
*"Вясковая паэтка тут жыла", —*
*Таблічка сціпла*
*упрыгожыць хату.*

# КАЛЕЙДАСКОП

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

### НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Ён застаўся ўдаўцом у немаладым ужо веку — пераваліла за семдзесят. Але знайшлася кабета, шмат маладзейшая за яго, якая згадзілася б выйсці за яго замуж. Ды і ён не хацеў на старасці застацца ў адзіноце. Стрымлівала пачуццё несправядлівасці, усё, што яны набылі з жонкаю за жыццё, застанецца чужой жанчыне, якая яшчэ невядома, ці любіць яго...

### НЕ ДАРУЮЦЬ

Цётка склала "Першае чытанне для дзетак-беларусаў", каб яны вучыліся па ім чытаць. Напісала артыкул: "Шануйце роднае слова"!

Якуб Колас склаў "Другое чытанне для дзетак-беларусаў".

Янка Купала ў вершы "Роднае слова" пісаў:

***Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!***
***Ты крыўды, няпраўды змагло,***
***Хоць гналі цябе, накладалі аковы,***
***Дый дарма: жывеш, як жыло!***

Класікі не даруюць нам, калі сёння мы дазволім загубіць нашу мову, калі зглумім усю іхнюю працу, калі сёння анямеем, загінем. Не даруюць!

### ХОР

У бальнічную палату паступіла немаладая, але энергічная, вясёлая кабета. Яна расказвала сваім сяброўкам па няшчасці анекдоты, весяліла іх, а потым угаварыла спяваць. І хворыя жанчыны, лежачы на ложках, спявалі хорам папулярныя песні.

Не падаць духам — прынялі яны рашэнне.

### АДКРЫЦЦЁ

Сярод тысяч моў і дыялектаў, якімі здавён карыстаюцца людзі на нашай планеце, адкрыта яшчэ адна — трасянка. Яе часта можна пачуць па беларускіх радыё і тэлебачанні. І яшчэ дзіва — ні ў адной краіне свету няма таго, каб на пытанне журналіста, зададзенае на роднай мове, суайчыннік адказваў на іншай.

### КАБ ЧОРНЕНЬКІ

У вёсцы ўшаноўвалі мнагадзетную маці. Выйшла яна на сцэну са сваімі пяццю дзеткамі. Яны ўсе, як адзін, рыжанькія. Падзякавала кабета за ўвагу да яе, да яе сямейкі, а потым сказала:

— Я б і яшчэ аднаго нарадзіла, каб ведала, што будзе чорненькі.

### З ЧЫГУНКА

У цяжкі, галодны пасляваенны час дзве студэнткі здымалі ў гаспадыні пакойчык. Гаспадыня бачыла, што дзяўчаткі часам па два дні нічога не елі, і яна прыносіла ім зрэдку па дзве бульбінкі ў шалупінні, з чыгунка, у якім варыла парсюку.

Тыя не ганарыліся, елі.

### ПАДПІСКА

Партыйнае кіраўніцтва прымусіла сціплага бухгалтара падпісацца на поўны збор твораў Карла Маркса. Пачалі прыходзіць тамы, і хоць былі дарагія — ён выкупляў. Але тут падняла голас жонка:

— Начорта табе гэтыя кнігі, столькі грошай каштуюць! Больш не купляй, я забараняю!

Жонка — таксама начальства, хоць і не партыйнае. І муж перастаў выкупляць тамы. А кожны раз, калі паштарка прыносіла абвестку, што ў кнігарню паступіў наступны том, хаваўся ад паштаркі і не браў абвестку, хоць сам калаціўся ад страху, даведаюцца на рабоце альбо яшчэ дзе, што ён не выкупляе Карла Маркса, і будзе яму кепска, чаго добрага, звольняць з работы...

### СВЯТА ВЁСКІ

Рыхтавалася свята вёскі, і ў праграму вечарыны былі ўключаны ўрывак з п'ескі, аўтар якой прысутнічаў на тым свяце. Урывак быў "гваздзём" праграмы. І раптам, перад самым святам, выканаўца адной ролі захварэла, ды так моцна, што выклікалі "хуткую дапамогу".

Арганізатары вечарыны прыйшлі ў адчай. А загадчыца клуба заявіла:

— Работнікі культуры павінны ачуньваць у адну ноч!

І што вы думаеце — ачуняла, і вяла сваю ролю ў той п'есе.

Вось дзе нябачныя героі!

### РАЦЫЯ

Аўтар у рамане пісаў: "Гэты чалавек мае рацыю..."

Рэдактар пытаўся:

— А адкуль у яго рацыя?

Аўтар адказваў:

— Тут рацыя ні пры чым... Проста, чалавек мае рацыю...

— Дык адкуль яна ў яго? — дапытваўся рэдактар.

Яны доўга не маглі паразумецца.

### ЮБІЛЕЙ

Масква спраўляла свой юбілей. Каб гэта некалі, пры савецкай уладзе, то свята ішло б пад савецкімі лозунгамі, вакол зззялі б пяцікутныя зоркі, а дарога вяла б толькі да камунізму.

Гэтае свята ішло пад малітвы, адусюль выплывалі крыжы, крыжы, а дарога вяла да храма...

Не можа рускі народ жыць без накірунку, які паказвае яму "нехта".

Куды б ні вялі, абы вялі...

### НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

Са сталіцы ў родную вёску прыехаў пісьменнік, выступаў перад землякамі. Адна бабулька са скрухаю прамовіла:

— Які Мішка быў, такі і застаўся. Пагарадскому нават гаварыць не навучыўся.

А вы кажаце — нацыянальная ідэя...

# “Гартаючы жыцця свайго старонкі...”

***Калі задумваешся над асаблівасцямі развіцця беларускай паэзіі XX стагоддзя, міжволі прыходзіш да ўсведамлення заканадаўчай місіі ў ёй Максіма Танка. Сёлета споўнілася 85 год з дня нараджэння выдатнага творцы. У апошнія гады і месяцы жыцця народнага паэта мне пашчасціла сустракацца і гутарыць з ім адносна асаблівасцей яго творчага шляху, праблем мінуўшчыны і сучаснасці. Прапаную ўвазе чытачоў “ЛіМа” фрагменты нашай размовы, якая адбылася ў красавіку 1995 года.***

**М. МІКУЛІЧ**

**— Яўген Іванавіч, давайце прыгадаем восень 1939-га года. Як вядома, свята ўз'яднання Беларусі было азмрочана арыштамі многіх заходнебеларускіх дзеячаў. Вы былі сведкам тых падзей...**

— Ведаеце, з імі так было. Як прыйшла Чырвоная армія, яны ўсе пачалі вітаць яе. Хаця многія, асабліва з колаў Радаслава Астроўскага, займалі яўную антысавецкую пазіцыю.

Усе, хто раней выступаў супраць Савецкага Саюза, раптам першымі кінуліся яго вітаць. Вось нават Міхась Машара, цікавы паэт. Потым на Бранскім фронце ён і ў партыю ўступіў. Ён славіў і 25 сакавіка, і ўсіх Станкевічаў праслаўляў, пісаў усякую белiберду, якую я раскрытыкаваў у “Нашай волі”. Былі ў яго, напрыклад, такія словы: “І хоць з іх будзе рэнегатам, і здраднік, пэўна, не адзін, але ў сям'і жыве гарбаты і ў маткі нат ён любы сын...” Апраўдваць здрадніцтва?!. Такога яшчэ сусветная літаратура не ведала. Я на гэта звярнуў увагу, якраз пра тое пісаў, што Машара — адзін са здольнейшых паэтаў, але ў палітычных справах амаль не разбіраецца, з'яўляецца проста анальфабетам... Ён вельмі здольны хлопец быў, валодаў лёгкасцю пяра, у якой яму можна было толькі пазайздросціць. Дарэчы, пра яго нешта амаль не пішуць...

Ну, сапраўды, хіба вы можаце пагадзіцца з вышэйпрыведзенымі яго словамі?

**— Не...**

— Дарэчы, яшчэ пра М. Машару. Ён адзін з першых заходнебеларускіх паэтаў прысвяціў верш Сталіну. Ну, тут ужо ўсё на камедыю змахвала. А гэта было так спадабалася нашым палітрукам, якія прыйшлі. Як жа так, не член партыі, а такі верш напісаў!.. Яны нават хацелі, каб ён выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета ў Маскве. Тады памочнік Панамарэнкі Царук (пра яго вы, пэўна, чулі), Прытыцкі і Пестрак заявілі, што яны гэтага не дапусцяць. “Как вы не допустите?” А Царук заікаўся: “А мы-мы-мы вельмі проста... Мы яго спусцім з лесвіцы...” Што вы хочаце — катаржнікі, якія былі асуджаны амаль на ўсё жыццё. За імі аж да самай сесіі хадзілі і ўсё ўгаворвалі: “Товарищи, только никакого скандала не делайте, потому что выступит тот, кому надо выступить...” Вось якія былі рэчы.

Раптам выступае на плошчы і вітае новую ўладу Антон Луцкевіч... Ну, ён, праўда, у сваіх палітычных ацэнках факту прыходу Савецкай Арміі і вызвалення Заходняй Беларусі за рамкі культуры не выходзіў.

**— Гэта была яркая асоба — Антон Луцкевіч?**

— Яркай асобай ён быў у часы Грамады, а потым разам са сваімі прыхільнікамі неяк сышоў са сцэны. Народу ў іх не было, партыі ніякай не было. Самі па сабе яны, напэўна, з'яўляліся людзьмі вельмі цікавымі, з вялікім жыццёвым вопытам, але, разумееце, людзьмі, якія збіліся з дарогі. З народнай дарогі, па якой ужо пайшоў народ, пакінуўшы іх.

Астроўскага змусілі пакінуць Вільню. Луцкевіч сядзеў у музеі. Часамі які артыкульчык-другі дасць у друк і ўсё. Палітычная дзейнасць перайшла ўжо на іншае пакаленне — маладзейшае ці, можа, і не маладзейшае: Шырму, Паўловіча, Стацкевіча, Кепеля, Марцінчыка... На ТБШ, хаця і ТБШ было забаронена, ну, і часткова на хадэцыю. Трэба сказаць, што самай масавай партыяй з'яўлялася камуністычная партыя, на другім месцы была хрысціянская дэмакратыя. Але хрысціянская дэмакратыя папулярнай з'яўлялася якраз там, дзе пераважала каталіцкае насельніцтва, адкуль паходзілі ўсе гэтыя Станкевічы. А так яна не была такой масавай.

Ну, вось, скажам, былі эсэры, выдавалі часопіс “Золак” і г. д. Я хадзіў да іх, гаварылі мы аб Народным фронце і інш. Сядзелі два браты Буцько і ўсё, вось табе і партыя.

Асноўныя сілы былі ў іх кіраўнічыя, але яны не мелі масаў, не мелі за сабой народу. І ў большасці яны былі за мяжой, у прыватнасці, у Чэхаславакіі. У Чэхаславакіі і ў Каўнасе...

**— Яўген Іванавіч, вашы погляды істотна адрозніваліся ад поглядаў хадэкаў на пытанні нацыянальнага развіцця ці не?**

— Я б вам мог паказаць свой артыкул, у якім гаварылася пра незалежнасць Беларусі, бел-чырвона-белы сцяг і інш. Ён быў напісаны ў часы арганізацыі Народнага фронту, калі ў параўнанні з мінулым большая ўвага была звернута на праблемы нацыянальна-вызваленчага руху. Раней дамінаваў класавы падыход: Бацькаўшчына там, дзе мне добра жыць. А не так аказалася...

У мяне вершы ёсць, якія і цяпер шырока цытуюць, друкуюць.

*На стрэчу сонцу, маладыя*
*Арлы, кіруйце свой палёт.*
*Паўстань, зняволены народ,*
*Пагоні сілы баявыя.*

*Глядзіце ў будучыню смела!*
*Настаў доўгачаканы час,*
*Пад сцягам бел-чырвона-белым*
*Чакае перамога нас...*

Я такіх вершаў дзесяткі напісаў. Ну, але ж гэта заклікі, гэта, я лічу, слабыя вершы. Я пасля напісаў многа іншых вершаў, дзе і пра мову сказана больш заглыблена, а не так, разумееце, што: наша мова — самая прыгожая, наша мова — самая лепшая.

У ацэнцы М. Горкага творчасці Я. Купалы і Я. Коласа таксама ёсць нешта ад паляпвання рукой па плячах: “Нам бы такой простоты!..” Баценька, руская літаратура мела прастаты аж да складанасці! Вялікі дыяпазон быў гэтай літаратуры. “Нам бы такой простоты...” А нашы схапіліся: вось так трэба ўсім пісаць, як пішуць Я. Купала і Я. Колас. І гэта мы за пахвалу лічым. Не ўмеем адрозніць, што ў барына ўпала з-пад вусоў.

Ясна, што калі бы распаясаўся мадэрнізм (а М. Горкі з'яўляўся яго прыхільнікам), то ён на гэта намякаў. Але ж там былі розныя аўтары, там жа і Блок быў, і Маякоўскі, і Ясенін... А Брусаў?.. Была цэлая плеяда дай Божа якіх пісьменнікаў (я ўжо не гавару асобна аб празаіках — сам Горкі, Талстой...), дзе цяжка правесці нейкую мяжу паміж паэзіяй і прозай. Таму што гэта і ёсць літаратура: вершы могуць быць такія, такія і такія...

**— Яўген Іванавіч, вы нічога не сказалі пра Макара Краўцова...**

— Пра Макара Краўцова?.. Мне даводзілася з ім сустрэцца некалькі разоў. Ён быў у групе Астроўскага і гэтым для нас было ўсё сказана. Макар Краўцоў з'яўляўся прыхільнікам Астроўскага. Ён быў перасланы ці не? Не, Аляхновіч быў. Вось гэтая самая сіла — Макар Краўцоў, Францішак Аляхновіч... Ну, добра, іх на пальцах перабярэш, а далей хто? Партыі, як партыі, няма, сілы, як сілы, на якую можна абаперціся, няма...

**— У Краўцова былі літаратурныя задаткі?**

— Ён “Мцыры”, здаецца, пераклаў... У нас, я вам скажу, з літаратурнымі задаткамі ўсе, хто рыфмуе. Зарыфмаваў, дык ты ўжо... Сціраюцца грані паміж сапраўднай паэзіяй і пазіяй. І гэтым мы не падымаем сябе. Такія факты трэба адзначаць у гісторыі, але не рабіць з іх нейкага сцяга: вось гэта недасягальная вышыня! Каго ў нас толькі не залічылі ў паэты... Выдатная паэзія, Божа ты мой!.. Альбо: ай-яй, напісаў, дык аж уся Беларусь загрымела. А ў нас, калі прыходзіла ў маю родную Пількаўшчыну пісьмо, неслі ў суседнюю вёску, каб прачыталі. Вось тут і грымі...

Краўцоў неяк выступіў супраць мяне: значыць, знаем мы такіх рэвалюцыйных пісьменнікаў, вось, напрыклад, Бартуль... Ён спасляўся на Бартуля, маўляў, той быў паэтам рэвалюцыйным, а дзе яго радыкалізм цяпер... Я адказаў яму вершам, які заканчваўся радкамі:

*Памрэ, пахаваюць, засыпаць паможам,*
*Усе вершаплёты прыдзём грамадой*
*І оду, як конскую скабу, паложым,*
*Каб меў ён што грызці і там,*
*пад зямлёй.*

Вось такое было, хаця я потым сустракаўся з ім. Ну, тут ужо таксама мела месца гутарка людзей розных пакаленняў, калі нараджалася і выходзіла на сваю дарогу зусім новае пакаленне.

Тады ў маю абарону Шырма выступіў. Справа ў тым, што да гэтага далучыўся Найдзюк. Ён пісаў, што я вельмі вузка ацэньваю літаратуру, тое, што не належыць да маёй партыі, я лічу нікуды не вартым і г. д. Проста зрабіў намёк дыфензіве: гэта член кампартыі, бярыце яго. Шырма тут і заступіўся.



**— Нядаўна перавыдалі кніжку Я. Найдзюка і І. Касяка. “Беларусь учора і сяння”.**

— Я яе пасля вайны чытаў...

У мяне з Найдзюком было такое. Я быў дэпутатам, калі прыехала яго дачка з Вільні. Кажа, даведайцеся, ці можна было б пераехаць у Вільню бацьку, мы хацелі б разам жыць. Я пайшоў у гэты дом, у Камітэт. Не помню, хто там тады начальнікам быў, але не Цанава. Той націснуў кнопку — дзверы адчыніліся, трое ці чацвёра дзвярэй, і з'явіліся ўсе начальнікі аддзелаў. Ён пытаецца: вы знаеце, дзе знаходзіцца Найдзюк? Кажуць, знаем, у Польшчы, там-та і там-та працуе. Я кажу: я прыйшоў як дэпутат, да мяне ад яго дачкі паступіла пытанне — калі б ён вярнуўся, ці пагражала б яму за яго ранейшыя справы адказнасць? Ён кажа: ну, гэта мы будзем разглядаць тады, калі ён вернецца. Вось такі я атрымаў адказ.

Некалькі разоў мне даводзілася хадзіць у Камітэт. Напрыклад, наконт Міхася Забэйды-Суміцкага. Шырма напісаў цікавы артыкул пра Забэйду і мы ніяк не маглі яго прабіць. Узяў я гэты артыкул, пайшоў ад “Полымя” туды. Кажу: я з Забэйдам-Суміцкім гаварыў, ён той ліст не падпісваў, гэта падробак, падрабілі яго подпіс.

Яны мне не паверылі, сказалі: не, Яўген Іванавіч, подпіс той усё ж такі яго. Ну, што ты будзеш гаварыць? А там было вось што. Калі Гітлер пайшоў на Савецкі Саюз, дык беларуская дыяспара Прагі паслала яму ліст. У ім яна выказвала думку, што будзе падтрымліваць нямецкую армію, выказвала надзею на тое, што адродзіцца Беларусь і г.д.

Так Шырмаў артыкул нам тады надрукаваць і не ўдалося.

**— А Барыс Кіт... Што пра яго можаце сказаць?**

— Барыс Кіт быў выкладчыкам матэматыкі, але я ўжо тады ў беларускай гімназіі не вучыўся. У Кіта вучылася мая жонка (яна памерла на днях) і вучылася яе старэйшая сястра...

**— Яўген Іванавіч, я нядаўна гутарыў з Піменам Панчанкам. Ён прыгадваў сваё сяброўства з вамі.**

— Мы ў гады вайны адным шынялём з ім накрываліся... Перапіска недзе засталася, лістоў з паўсотні, пэўна. Калі ён паехаў у Іран...

Дружылі мы з ім. Я яго ведаю яшчэ па Беластоку, перад самай вайной у нас сустракаліся...

**— Ён пра гэта гаворыць там.**

— Гаворыць?..

Харошы быў чалавек сваімі думкамі, сваім непаўторным талентам. Я інакш гляджу на гэтыя яго агітацыйныя вершы, якія ён раней пісаў. Яны вельмі шумныя былі (шуму, гаму нарабілі), але не ў гэтым яго сіла. Сіла Панчанкі ў глыбокай патрыятычнай, лірычнай паэзіі, яго чалавечнасці. А кляйміць тыя парадкі, якія былі, цяпер усе навучыліся. Праўда, ён адным з першых па іх ударыў. Гэта яго заслуга. У кожным выпадку, я яго ацэньваю па тых вершах і па яго лірыцы — глыбокай, харошай, асаблівай ваенных часоў. Тады пра заграніцу яшчэ мала пісалі. Ён адным з першых даў нам цудоўны зборнік “Іранскі дзённік”:

*На Ардабільскім перавале,*
*Пад дзікім позіркам арлоў,*
*Мяне, як скрыпку, пілавалі*
*Смыкі дванаццаці вятроў...*

Штосьці, па-мойму, так, калі я не зблытаў. “Коні” і іншыя вершы — проста выдатныя ў яго творы.

**— Яўген Іванавіч, а вось заходнебеларускія мастакі — вы з імі кантактаваліся...**

— Іх не так шмат. Я ведаю нямнога. Горыд — надзвычай таленавіты мастак быў. Ён у свой час працаваў у сатырычным часопісе “Маланка”, але пасля розных палітычных пертрасак часопісы распадаліся, не было дзе ні прыкласці свайго таленту, ні нават выступіць. Відаць, гэта заўважылі палякі і яны ім больш заапекаваліся. Дайшло да таго, што Горыд удзельнічаў у выстаўцы польскага аддзялення ў Парыжы (калі наогул не быў там галоўным, адным з яе арганізатараў). Гэта з'явілася для яго ўжо значным поступам. Загінуў ён падчас бамбардзіроўкі.

Больш я ведаю літоўскага мастака Дрэму. Вось пра Дрэму вам варта было б напісаць харошую манаграфію. Ды не манаграфію, хоць успомніць... Ён быў цудоўным графікам. У мяне ёсць яго некаторыя работы. Ён цікавіўся беларускай літаратурай, культурай. Потым, у часе нямецкай акупацыі, працаваў у музеі Луцкевіча і пакінуў, па-мойму, каталог, які цяпер знаходзіцца ў Акадэміі навук. Каталог гэты вельмі арыгінальны, таму што большасць экспанатаў там не толькі названа, але нават і замалявана. Будучы графікам, ён накідаў, як яны выглядаюць, што гэта такое. Недзе ў мяне захаваўся прысвечаны пытанням беларускай культуры нумар часопіса “Сыгналы”, выдадзены нешта за два-тры тыдні ці за месяц перад самай вайной, дзе надрукаваны артыкул Дрэмы пра беларускае мастацтва.

Ён нядаўна памёр. Месяц таму назад я атрымаў пісьмо ад яго сябра, былога міністра культуры Літвы.

Язэпа Драздовіча я ведаў, Пётру Сергіевіча добра ведаў. Вось у тым пакоі яго партрэт маёй жонкі вісіць. У 1938 годзе напісаны. З Сергіевічам мы сябравалі і часта сустракаліся, у тым ліку і ўжо пасля вайны на Нарачы. Ён жыў у Вільні якраз у адным доме і на адным паверсе з Янкам Шутовічам, жонкай якога была літоўская паэтэса Она Міцютэ.

**— З Сеўруком вы яшчэ ведаліся.**

— З Сеўруком мяне пазнаёміў Рыгор Раманавіч, калі выдаваўся мой першы зборнік. Гутарка ішла аб вокладцы, як яе афарміць і г. д. Ідэю афармлення вокладкі я яму сам падаў. Але ён так яе патрафіў ажыццявіць, як мне (каб я быў мастаком) ніколі не ўдалося б. Вы ведаце, я выдаваў у турме часопіс “Краты”. Я помню: сцяна турэмная, вокны і праз усё кінуты штык. І вось ён, адштурхнуўшыся ад гэтага, кінуў штык на пейзаж усёй Беларусі. Атрымалася такая плакатна-агітацыйная вокладка. Надзвычай удалая. Вы бачылі яе?

**— Вядома.**

— Там нават смяяліся, казалі, што і за вершы мой першы зборнік канфіскавалі, і за самую вокладку. Дарэчы, усе пішуць, быццам яго Шырма фінансаваў. Часткова фінансаваў Шырма і то нязначна, таму што кампартыя адпусціла на яго грошы. Пачытаўшы ўступны, вельмі хвалебны артыкул Рыгора Раманавіча, яны параілі яго перапісаць. Але стары ўпёрся і пакінуў яго такім, якім ён быў напісаны раней.

Шырма памагаў выдаваць другі зборнік “Жураўінавы цвет” і апошні “Пад мачтай”. Выдаўцом быў Труцька, паляшук адзін. Жыў ён сярэдне, але яму ўдалося яшчэ з той вайны адваяваць пенсію. Справа ў тым, што Труцьку было разарвала пятку нямецкай куляй. У яго з'явіліся грошы, якія ён, будучы нежанатым, часткова перавёў Шырме на выданне яго “Беларускіх песень” і на выданне майго зборніка. І мой зборнік ужо хаваўся за выдаўца, таму што тут важна, хто выдаў.

**— Гэта каторы зборнік?**

*(Працяг на стар. 14—15)*

## У Палацы шлюбаў

**Мінская некамерцыйная галерэя "Раніца" яшчэ больш года назад выбрала сталічны Палац шлюбаў для правядзення экспазіцый. Цяпер тут можна пазнаёміцца з творамі Алега Аблажэя. Беларус па нацыянальнасці, ён скончыў Літоўскі мастацкі інстытут і жыве ў Вільні. У сферы яго мастакоўскіх інтарэсаў — станковы жывапіс, кніжная графіка, што дазваляе А. Аблажэю супрацоўнічаць не толькі з літоўскімі, але і з беларускімі, расійскімі і польскімі выдавецтвамі. У галерэі "Раніца" на глядацкі суд вынесена графічная серыя "Летуценні", якая ў Палацы шлюбаў як нельга да месца, бо гэтымі творамі А. Аблажэй услаўляе жаночую прыгажосць, каханне, гармонію.**

## Праз выпрабаванні і нягоды

**На лёс Рамана Сабаленкі (нарадзіўся 15 кастрычніка 1907 года, памёр 13 мая 1975-га) выпала нямала жыццёвых выпрабаванняў і нягод. Сын селяніна з вёскі Сабалі цяперашняга Брагінскага раёна, Р. Сабаленка скончыў Гомельскі педагагічны тэхнікум, вучыўся ў Гомельскім педагагічным інстытуце, працаваў у газеце "Звязда", служыў у Чырвонай Арміі. Але ў 1933 годзе яго нечакана арыштавалі. На шчасце, хутка адпусцілі. Другі раз ён быў арыштаваны ў 1937-ым, але зноў справу закрылі. Успомнілі пра тыя арышты ў гады вайны і асудзілі Ваенным трыбуналам да 10 гадоў пазбаўлення волі. Праўда, і гэты прыгавор быў адменены з-за адсутнасці складу злачынства.**

**Раман Сабаленка ўдзельнічаў у баях на Калінінскім і 2-м Прыбалтыйскім франтах. У пасляваенны час рэдагаваў баранавіцкую абласную газету "Чырвоная звязда", працаваў у рэдакцыях газет "Калгасная праўда", часопісе "Маладосць", а з 1957 па 1966 год з'яўляўся намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва".**

**Пачынаў творчы шлях з вершаў. У 1935 годзе ў часопісе "Полымя" апублікаваў паэму "Брагін". Выдаў зборнікі паэзіі "З родных крыніц" і "Мая эстафета". І ўсё ж большую вядомасць Р. Сабаленку прынесла проза, у першую чаргу аповесці "Юнацтва ў дарозе", "Выпрабаванне сталасці" ("Іду ў жыццё"), "Былое застаецца ў сэрцы", што склалі трылогію "Іду ў жыццё". Выдаў таксама кнігу нарысаў пра дзеячаў культуры і літаратуры "Колерамі вясёлкі".**

## Маладая Беларусь



**Вольга Валента працуе мастаком-афарміцелем Іўеўскай цэнтральнай бібліятэкі і завочна вучыцца ў Дзяржаўным універсітэце культуры ў Мінску.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

ЭСЭ

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Але на сэрцы хораша і светла

### ФУТБОЛ

Тэлефонны званок прагучаў, як сірэна. Званіла сястра:

— Ты глядзіш тэлевізар? Цябе паказваюць... — і паклала трубку.

Я ўспомніў, што сёння сапраўды павінна быць перадача, дзе я даваў інтэрв'ю пра наш нядаўна выпушчаны альманах, пра літаратараў, якія жывуць у правінцыі. Тоўстая, з сiплаватым дыктарскім голасам журналістка ўвесь час хацела чамусьці, каб я сказаў, што галоўная задача альманаха — прынесці літаратуру менавіта ў правінцыю, наблізіць, так бы мовіць, да кожнай фермы, кожнага станка. Я вяла супраціўляўся, стараючыся нешта сказаць, што для сапраўднай творчасці няма межаў і прапіскі. Перадача мне не спадабалася яшчэ ў час запісу, і я не надта рваўся яе глядзець.

Тым не менш, цікаўнасць перамагла, і я націснуў кнопку. І па законе подласці патрапіў якраз на тое самае пытанне. Глядзець па тэлевізары на сябе мне было сапраўды няёмка... Ну, не сказаць, каб зусім не падабалася, бо хто ж не хоча, каб цябе паказалі ў "скрынцы", якую абавязкова нехта ўключае. Але, гледзячы на сябе, такога невысокага, з не надта мужным тварам, з парадзелай прычоскай, заўсёды думаў, што ў сваім уяўленні кожны бачыць сябе лепшым і прыгажэйшым, чым на самай справе.

Рэчаіснасць не раз у маім жыцці ўступала ў супярэчнасць з уяўленнем, здаецца, нават пачынаю з гэтым звыкацца, але заўсёды чамусьці сумна, нібы беззваротна страчваеш нейкую надзею ці летуценную мару.

О, колькі гэтых надзей і спадзяванняў было ў далёкія ўжо дзіцячыя гады!.. Засынаючы ў сваім маленькім пакойчыку, колькі разоў бачыў сябе дужым і спрытным, мужным і высакародным!.. Па тэлевізары тады мяне, натуральна, не паказвалі, а з люстэрка глядзеў доўгі нос, кучаравая чупрына жорсткіх чорных валасоў, пульхныя вусны і ружовыя шчокі. А вочы заўсёды крыху мружыліся, нібы ад яркага сонца.

Дзіўная рэч, кабетам з нашага прыгараднага пасёлка чамусьці я падабаўся. Яны былі тоўстыя, чырвоныя, з агрубелымі пасiвералымі даланямі. І ўсё прыгаворвалі, які я чарнявенькі, чысценькі, прыгожанькі, што не адну дзеўку з розуму звядзе.

А вось хлопцы кпілі. Хто ў адкрытую, хто ўпотай. І з маіх шчочак, і з кудзераў, і з чыстай вопраткі, і з такога, не падобнага на іх аблічча — "нярускага", як казалі ў нас. А яшчэ я добра вучыўся, любіў чытаць кніжкі і сядзець дома, амаль не біўся, не курыў "бычкі" ці танныя цыгарэты "Стрэлка" па 8 капеек пачак.

У суседнім доме жыла Юлька, якая мне вельмі падабалася, за якой я любіў назіраць, калі яна ішла са школы ці калі сядзела на ганку, падстаўляючы тварык сонечным промням, ці калі спяшалася ў горад, у кіно, падцягнутая, у чысценькай выпрасаванай кароткай сукенцы, з заплеценай тоўстай русявай касой. Але яна мяне не тое што не заўважала, яна глядзела на мяне з такой млявай абыякавасцю, што ад прыкрасці ў мяне ўсё нутро трымцела.

Які я тады сабе быў непрыемны!.. Я праклінаў свае кудзеры, на ноч ярасна змочваў іх вадой і надзяваў шапку, каб выпрасталіся да раніцы. Але яны не паддаваліся. Гэтак жа нічога не мог зрабіць са сваімі ружовымі пульхнымі шчочкамі і маленькім ростам.

А яшчэ я не ўмеў гуляць у футбол. Проста мне сумна было траціць час, за які можна было прачытаць цікавую кніжку, на бязладную беганіну за адным мячыкам па выбоістай, збітай дзесяткамі ног паляне, якая гучна называлася школьным стадыёнам.

Сёння, з вышыні сваіх гадоў, я з лёгкаю ўсмешкаю ўзгадваю тыя свае дзіцячыя пакуты, але тады мне было зусім не весела. Я проста хварэў ад сваёй непаўнавартасці, я шукаў выйсце, я хацеў быць такім, як іншыя.

Першым выпрабаваннем і стаў гэты самы футбол. Я здабыў мячык. Кажу "здабыў", бо купіць яго не было грошай, таму давялося панасіць спартовую сумку за Іванам Буцелем, які гуляў у дарослай камандзе нашага горада і які даў мне за гэта на ўсё лета пашарпаны, але сапраўдны футбольны мяч.

Мячык стаў нязменным спадарожнікам майго жыцця. Я бег з ім у блізкі лес, на аблюбаваную палянку, дзе падкідваў, лавіў нагой, біў з лёту і з паваротам, абводзіў уяўнага абаронцу, рабіў "фінты"... Я нават кніжак набраў у бібліятэцы, дзе расказвалася, як правільна праводзіць трэніроўкі, як расстаўляць гульцоў на полі, як трэба захоўваць спартыўную форму... Пасля на свае футбольнае поле я стаў запрашаць малых падшыванцаў, якія бегалі без справы па пасёлку. Я выбіраў сабе ў каманду аднаго-двух, а астатнія шасцёра-сямёра былі маімі сапернікамі.

— Ты што дзяцінішся? — дакорліва гаварыла мама. — Трэба пра будучыню дбаць, вучобу, прафесію, а ты з малымі мячык ганяеш.

Але спыніць мяне было немагчыма. Нават па начах мне сталі сніцца шматхадовыя камбінацыі, гулкія ўдары ў "дзевятку", радасны гул стадыёна.

У верасні наш восьмы "В" сабраўся пасля вакацый у поўным складзе. Паколькі школа наша была гарадская, а вучыліся ў ёй разам з дзецьмі ўскраіны і прыгарадных вёсак, а таксама нашага саўгаснага пасёлка, то за лета мы крыху адвыкалі адзін ад аднаго. І цікава было глядзець, хто падрос ці яшчэ як-небудзь змяніўся.

А ў мяне ў дадатак да ранейшых праблем як на тое над верхняй губой сталі прабівацца чорныя валаскі, якія вельмі ўжо аддалена нагадвалі вусы, хутчэй не вусы, а так — нібыта нехта вугалем мазнуў.

На ўроку фізкультуры наш Валерый Антонавіч, як заўсёды, кінуў нам мячык і, загадаўшы разбіцца на дзве каманды і пагуляць самім, звыкла пакінуў пляцоўку, адправіўшыся займацца гімнастыкай з дзяўчаткамі, што ён вельмі любіў.

Права падбіраць сабе каманды мелі нашы самыя лепшыя спартоўцы Колька па мянушцы Бурма і Юрка Талуноў, які гуляў за зборную школы і нават ездзіў на зборы як кандыдат у юнацкую горада. Такія ж, як я, былі нібы разменная дробная манета, якую і брацъ ніхто не хацеў, але і выкінуць няможна. Пасля доўгіх спрэчак я трапіў да Тапунова.

— У абароне пабудзеш, — незадаволена скрывіўшыся, буркнуў мне ён. Быць у абароне лічылася апошняй справай, бо кожны хацеў гуляць нападаючым і забіваць галы.

Узгадваючы той першы свой трыумф, я і зараз адчуваю каля сэрца нейкае трымценне. А тады я ўвесь быў як напятая струна, я, здаецца, нічога не бачыў і не чуў, акрамя свайго дыхання, акрамя мячыка і поля.

Пра гэты матч я мог бы расказваць гадзінамі! Колькі разоў перад вачамі зноў і зноў паўставалі яго эпізоды, і кожны з іх быў напоўнены маёй прагаю да перамогі, да запаветнай мэты. Скажу толькі, што такога майго спрыту ніхто не чакаў, і гэта па першым часе мне надта спрыяла. І калі хвілін праз пяць пасля пачатку я, атрымаўшы мяч ля ўласных варот, адно за другім абыграўшы на хуткасці сапернікаў, выйшаў на ўдарную пазіцыю і ўдарыў так, што перакладзіна, якраз там, дзе знаходзіцца запаветная "дзевятка", загудзела, ніхто яшчэ нічога не зразумеў. Толькі Тапун, падбегшы ўшчыльную, неяк дзіўна паглядзеў і як роўнаму сказаў:

— Пасаваць трэба! А то ўсё сам хочаш!

Гэта прагучала для мяне, як музыка. Але яшчэ большае здзіўленне чакала ўсіх, калі я за гульню забіў тры галы, зрабіў безліч трапных перадач і выбіў мяч з уласных пустых варот.

Брудны, потны і шчаслівы, я гэтак жа, як і ўсе нашыя ранейшыя "зоркі", пакульгваючы, ішоў з поля, а сэрца спявала адно слова — "перамога". І чамусьці хацелася плакаць, і было крыху шкада нечага, і быццам нешта беззваротна заставалася ззаду, быццам у іншым жыцці.

Займацца футболам я перастаў гэтак жа рэзка, як пачаў. Два гады я гуляў за зборную школы, быў капітанам гарадской каманды, а потым паехаў паступаць на вучобу і — "завязаў". Гуляў для сябе, вучыў сына. Але тую першую перамогу памятаю і сёння.

Наіўны, я тады думаў, што варта толькі падняцца на нейкую прыступку, стаць упоравень з моцнымі, дужымі і спрытнымі, і ўсё будзе добра. Так, сапраўды, хлопцы мяне запаважалі было, але "сваім у дошку" я для іх так і не стаў. Не звярнула на мяне ўвагі і Юлька. Ды і твар мой не стаў мужнейшы, і валасы былі такія ж. Але гэта мяне ўжо так востра не хвалявала.

Адно толькі я зразумеў, што калі вельмі захацець, то можна нечага дасягнуць, можна нечага дабіцца, а галоўнае — перамагчы сябе, знайсці ў сабе нейкую сілу, перад якой знікаюць перашкоды.

...Калі скончылася перадача, зноў зазваніў тэлефон. Гэта ўжо тэлефанаваў сябра-паэт:

— Ну, глядзеў, глядзеў. Зоркай становішся. — У яго голасе гучала прыхаваная зайздрасць і лёгкая іронія.

— Ат, перадача як перадача, — няшчыра адмахнуўся я.

Паклаўшы трубку на рычаг, я падумаў, што болей такіх бязглуздых інтэрв'ю даваць не буду. І ўвогуле, больш сур'ёзна трэба ставіцца да ўсяго, што робіш. Хоць, калі шчыра сказаць, дробнае задавальненне, што перадача была, яшчэ недзе там, у душы, варушылася. Але я прымусіў яго суцішыцца.

### ФАЦІМА

У яе былі зялёныя, крыху раскосыя вочы, доўгія, колеру паўднёвай ночы, валасы, ма-

# "Гартаючы жыцця свайго старонкі..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

— "Пад мачтай". Я лічу, гэта адзін з маіх лепшых, этапных зборнікаў. Ну, этапным з'яўляецца "На этапах", паколькі ён першы. Другі — так, сярэдні. "Нарач" мне перапісаць трэба было б. А найбольш спелым быў якраз гэты, "Пад мачтай". Станкевіч і іншыя сустрэлі яго як упадак таленту аўтара і г. д. Я помню, пра Пушкіна недзе чытаў. Нягледзячы на тое, што Пушкін напісаў свае лепшыя творы, для многіх ён лічыўся песняром "Руслана і Людмілы". Ну, што ты тут будзеш рабіць? Аўтар вырас, а чытач застаўся тым самым — вось як здараецца.

**— Яўген Іванавіч, я ведаю, вам з Янкам Купалам даводзілася выбаўляць са ссылкі Наталлю Арсенневу.**

— Я вам скажу, калі гутарка ідзе пра гэта, то тут, па-мойму, трэба было б называць і Міхася Лынькова. Ён тады вельмі добразычліва аднёсся да гэтага. Як ні дзіўна, супраць вызвалення Арсенневай быў Піліп Пестрак. Адзіны. Ён з'яўляўся тады дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. А сярод савецкіх пісьменнікаў ніхто не выступаў супраць таго, каб яе вызвалілі.

Арсенневу я добра ведаў. Мы працавалі разам у "Вілейскай праўдзе". Мая жонка была там машыністкай, яны сябравалі. Часта мы сустракаліся, нават разам пісалі гэтае пісьмо Сталіну — аб вызваленні Заходняй Беларусі. І яна пісала, прымала актыўны ўдзел. Я, бадай што, і ўгадаў у сваім вершы, прысвечаным ёй:

***Нашы дарогі разходзяцца даўна пад зорамі.***
***На адной чуеш крок, на другой —***
***шум трысця.***
***Не спатkаліся тут між палёў,***
***між разорамі,***
***Не сустрэцца ім на пясчаным***
***парозе жыцця.***

Песні яе чаруючыя. Але як не любіць нам зямлю, якая потам і крывёю нашага народа паліта? Яшчэ больш не любіць?..

**— Калі ласка, яшчэ колькі слоў пра Рыгора Раманавіча Шырму.**

— Вельмі складаныя адносіны ўзніклі тады не паміж асобнымі людзьмі, а паміж партыяй і Таварыствам беларускай школы. Партыйны падыход быў такі, каб усе культурна-прасветныя арганізацыі займалі яўную пазіцыю і ўключаліся ў палітычную барацьбу. Шырма, Стацкевіч, Паўловіч, Кепель і Марцінчык ведалі, што гэта ўключэнне пагражае ліквідацыяй беларускай школы, і засталіся на ранейшых пазіцыях. Гэта выклікала гнеў у Камінтэрне. Спецыяльна была выдадзена адназдёнка (дарэчы, з удзелам Валянціна Таўлая), у якой асуджалася работа кіраўнікоў ТБШ, як работа здрадніцкая.

А тут адразу пасля восьмага ці што з'езда Камінтэрна, калі пачаў арганізоўвацца Народны фронт, з некім жа трэба было дамаўляцца, з некім трэба было працаваць. З яўнымі фашыстамі перагаворы вядзём, а з гэтымі — не. Член ЦК КПЗБ Самуіл Малько паставіў дадзенае пытанне перад польскай партыяй. Кажа, як нам быць: вось выдаём газету "Наша воля", у якой прымаюць удзел і былыя тэбэшоўцы і камуністы. Мы не можам

ленькая радзімка на правай шчацэ. І імя ў яе было незвычайнае, нетутэйшае — Фаціма. У ім чуліся і посвіст стралы, і калыханне стэпавых кавылёў, і яшчэ нешта такое, што мне ніколі не даводзілася бачыць і ад чаго ў душы нараджалася нейкая вабная загадкавая таямніца.

Мой маленькі ціхі горад, знаёмы мне да кожнай выбоіны ў бруку, да кожнага крываватага завулачка, горад, у якім і ўдзень можна было заблукаць, нібы ў лабірынце, — ці памятаеш ты яе, гэтую дзіўнаватую дзяўчынку з ціхім глухаватым смехам і такой загадкавай сур'ёзнасцю ў вузкіх вачах?

Быў крыгаход. Мы стаялі на высокім мосце, а недзе далёка ўнізе віравала маладая вясновая вада. Крыгі рыпелі, стагналі, напаўзалі адна на адну і расколваліся з гучным трэскам. Церусіўся дробны дожджык, і пахла нечым саладкавата-салёным, п'янкім, і гэты пах кружыў галаў і рабіў цёмную дзвінскую ваду зусім блізкай.

Быў крыгаход. І мы глядзелі долу, на ваду і на крыгі. Маўчалі. Я ведаў яе трэці дзень, а здавалася, так было, пакуль помню сябе — і любы мой горад, і гэтая велічная рака, і яна побач...

Дамоў я вяртаўся пад раніцу. Дождж не сціхаў, і я прамок навылёт, але не заўважаў гэтага. Здалёк выплывала з цемры белая свечка цэркаўкі ля майго дому. Хацелася спяваць і плакаць, хацелася раптам загаварыць з незнаёмымі радзімі прахожымі. Невядомае дагэтуль пачуццё перапаўняла мяне, яму было цесна ў душы, яно рвалася насустрач гэтаму ветру, гэтаму ранішняму сутонню, гэтаму веснавому небу.

Назаўтра мы пайшлі гуляць на адно з маіх улюбёных месцаў. Гэта быў старажытны вал, насыпаны яшчэ ў часы Івана Грознага. Я быў усцешаны, што ёй таксама спадабалася тут. Было ціха. Ад зямлі ішла цёплая пара. Недзе палілі вогнішча. Гэты пах старога лісця я чамусьці таксама вельмі люблю. Мы ішлі па вузкай сцежцы, з якой ужо сышоў снег, і я трымаў яе маленькую халаднаватую руку ў сваёй.

І быў май. Нас сабралася чацвёра, мы з ёю і мой сябра са сваёй Наташкай. Згасаў дзень, цёплы і зусім летні, глумны, напоўнены музыкай і дажджом, пахам першай клейкай лістоты. Мы адсталі, і я ўпершыню прытуліў Фаціму да сябе. Не, яна не адхілілася, не адвяла вуснаў. Толькі яны былі чамусьці шорсткімі і сухімі. Яна сказала мне тады словы, якіх я адразу не зразумеў, але чамусьці пабаяўся перапытаць. Потым яшчэ цэлыя два гады я баяўся згадаць тыя словы. Я маніў сабе, што іх не было, і быў шчаслівы ад гэтай маны. Мне было досыць, што я бачыў яе, чуў яе голас...

Прайшлі гады. Былі іншыя сустрэчы і расстанні, былі каханне і роспач. Але кожнай вясной я бываю ў знаёмых мясцінах, блукаю па ціхіх вулках юнацтва, слухаю дождж і рокат крыгаў, гляджу ў цёмную ваду. Вяртаючыся назад, я праязджаю паўз яе дом. Я ведаю, што яна даўно з'ехала адсюль, і ў той кватэры жыве яшчэ не старэнькая сівая мама, якую я калісьці так баяўся сустрэць. Дзіўна, але праз столькі гадоў я памятаю нумар іх тэлефона. І часам, у нейкія незразумелыя мне самому хвіліны, я заходжу ў будку аўтамата і набіраю гэты нумар, потым павольна кладу трубку...

## ПАДАРУНАК

Над Сургутам вісеў туман. Густы, бялёсы, ён рабіў абрысы дамоў, блізкіх сопак, высокай трубы мясцовай ЦЭЦ нейкімі няяснымі, яны нібы гайдаліся ў паветры, у гэтай сівой стыні. За вакном было пяцьдзесят шэсць градусаў марозу пасля ўчарашніх двух, і гэта было нешта. За той кароткі, усяго некалькі сот метраў, шлях ад нашай гасцініцы да бліжэйшай крамы, я, здаецца, нават пачаў звінець знутры, настолькі сырое, азызлае, марознае паветра пранікала ў кожную часцінку маёй істоты. Сюды, у Сургут, мы трапілі самалётам з Ханты-Мансійска. Увогуле, гэта было дзіўнае падарожжа. Модныя тады шэфства творчай інтэлігенцыі над камсамольскімі будоўлямі стварыла цэлую сістэму паездак, у якіх удзельнічалі паэты і музыканты, розныя ВІА, лектары, мастакі. Па неабсяжных сібірскіх прасторах яны пераязджалі са станцыі на станцыю, выступалі ў цёпла напаленых клубах і чырвоных кутках, пілі гарэлку і весяліліся.

Але некаму ў ЦК ВЛКСМ прыйшла думка, што поезд "Маладагвардзеец", які заўсёды служыў надзейным прытулкам для гастралёраў, гэта яшчэ не ўсё, што ёсць пасёлкі і будоўлі, куды не пракладзена чыгунка, і куды, як у песні спявалася, "только самолетом можно долететь". Вось менавіта далясцы самалётам альбо верталётам, а памясцоваму бортам, і была пастаўлена задача так званаму дэсанту з шасці чалавек, які, адпачкаваўшыся ад утульных і палепшаных купэ "Маладагвардзейца", атрымаў на рукі авіябілеты ў пасёлак Ігрым і маршрутную карту новабудоўляў, дзе, як меркавалася, радасна і нецярпліва чакаюць трох паэтаў, мастака, лектара-міжнародніка і інструктара ЦК — прышчапаватага цыбатага хлопца, які яшчэ зусім нядаўна быў сакратаром сельскага райкама недзе ў Чувашыі.

Ды на справе аказалася ўсё крыху інакш, бо, як любяць пісаць у газетах, "жыццё ўносіць карэктывы", і замест рамантычнай прагулкі мы вымушаны былі спазнаць лёс соцень простых пасажыраў-шукальнікаў заробкаў з усімі прыгодамі, якія выпадаюць на іх долю.

Я даўно марыў напісаць пра гэты сібірскі месяц і мару гэтую не пакінуў, але сёння абмяжуюся толькі некалькімі фрагментамі таго незабыўнага падарожжа.

Пачалося з таго, што нас не пусцілі ў самалёт Цюмень—Ігрым. Дакладней, траіх, бо трое перад намі прайшлі без прыгод, а вось перад лектарам, які ішоў чацвёртым, раптам засоўка шчоўкнула, і даўганогая кабета ў аэрафлотаўскім кіцелі раўнадушна сказала:

— Усё, рэгістрацыя закончана.

Нашага ляманту, што мы ляцім разам, што гэта адна дэлегацыя, слухаць было некаму, бо кабета шпарка і ўпэўнена пасунулася на сваіх доўгіх нагах да лётнага поля, а міліцыянер, які стаяў побач, досыць упэўнена і злосна прыгразіў, што калі пачуе яшчэ хоць адно слова, то ляцець нам увогуле ў жыцці болей нікуды не прыйдзецца, а нараў на ўсіх хопіць.

Не буду пераказваць, як мы без рэчаў, якія паляцелі з нашымі сябрамі, шукалі прытулак на ноч, як званілі ва ўсе інстанцыі, як плацілі штраф за спазненне на рэгістрацыю і нанова набывалі білеты на заўтрашні рэйс... Адбылося тое, што да гэтага і потым адбывалася не раз: за адно імгненне з шаноўнага, акружанага ўвагай госця кожны з нас ператвараўся ў звычайнага шарагоўца, зацюканага і мітуслівага, на якога ўсе, пачынаючы з білетнай касіркі, глядзяць як на недастойную казюрку, брудную і агідную.

Так пачалося не задуманае трыумфальнае шэсце з кветкамі і воплескамі, а бясконцы пошук сябroў і ўласных рэчаў, няўлоўнага "Маладагвардзейца", які парушаў усе графікі і не знаходзіўся ў патрэбны час на патрэбным месцы... Мы набылі нямала новых навыкаў: навучыліся, як займаць найлепшыя месцы ў "бічавозах", як угаварыць камандзіра "борта" паляцець у нялётнае надвор'е, як выменяць пляшку гарэлкі на бохан хлеба і строганіну...

І вось Сургут. Мы ўжо, здаецца, "напалі на след" нашых сяброў і чакалі сустрэчы з імі ў аэрапорце.

Ці то ад марозу, ці то ад цемры за вакном, а ў той час на светлую пару ў Заходняй Сібіры прыходзіцца ўсяго гадзіны дзве-тры, на душы было роспачна і балюча. Прыгадваліся родныя мясціны, цёплая ўтульная кватэра, звыклая праца, дзеці, і хацелася кінуць усё і ляцець адсюль як мага хутчэй. Такое пачуццё нясцерпнай роспачы мне знаёмае яшчэ з дзяцінства, калі раптам прачынаўся недзе ў гасцях, сэрца калацілася ў грудзях і хацелася да сваіх, да мамы, да яе мяккіх ласкавых рук...

Не ведаю, як бы я жыў не дома. Колькі ні блукаў па свеце, куды б ні заносіў лёс, хацелася хутчэй на сваю Полаччыну. Нават падчас вучобы ў Мінску, калі начны цягнік падыходзіў да роднага горада, сэрца ахінаў нейкі спакой, з'яўляліся ўпэўненасць і сіла: гэта быў дом.

Сургуцкая раніца мала ў чым адрознівалася ад ночы, але я ўжо супакоіўся і нават падбадзёрваў сяброў. Ды прыгоды працягваліся.

Самалёт на Таркас-Але, які мы чакалі ў аэрапорце, з-за туману ў Сургуце прызямляцца не стаў, і сустрэча, якой мы так чакалі, зноў не адбылася. З Андрэем, які за гэты час нават неяк схуднеў, ледзь не здарылася істэрыка. Мы з Міколам як маглі яго супакойвалі, хоць у саміх на душы было досыць паскудна. Мы сядзелі ў зале чакання і не ведалі: ці то вяртацца назад, у гасцініцу, ці то некуды браць білеты і ляцець... Міма праходзіў лётчык. Нешта ў рысах яго нагата твару падалося мне знаёмым, але хіба мала падобных людзей. І раптам ён павярнуўся і выгукнуў маё імя. Мы кінуліся ў абдымкі. Гэта быў палачанін, былы вучань нашай школы. Я не надта ведаў яго, бо вучыліся мы ў розных класах, жылі ў розных раёнах і зусім не сябравалі. Але ў той момант ён падаўся мне самым блізкім, родным і мілым. Аказалася, што зямляк даўно прыжыўся на Поўначы, завёў сям'ю, дом. Яму падабалася тут, ён з захапленнем распавядаў пра паляванне, рыбалку, пра ўласны дабрабыт.

— Шкада, што зараз лячу ў рэйс, але заўтра вярнуся, запрашаю ў госці, — сказаў на развітанне.

Але назаўтра мы канчаткова рашылі пакінуць Сургут і дагнаць "Маладагвардзейца", які па нашых даведках знаходзіўся ў пасёлку Наябрскі. З-за хвалявання і мітусні, беганіны па білетных касах нечаканая сустрэча пачала забывацца. Ды нагадала пра сябе неспадзявана.

Камандзір "борта", куды мы ўсё ж з цяжкасцю прабіліся, раптам запытаў:

— Гэта вы з Беларусі?

— Так, — адказаў я.

— Вам прывітанне ад земляка. — І ён працягнуў досыць вялікі поліэтыленавы мех. У ім была вэнджаная рыба. Як даведаўся Валодзя-палачанін пра тое, дзе мы, куды ляцім, не ведаю і сёння. Але, трымаючы мех у руках, я расчулена маўчаў. І вінаваціўся ў душы, што свае праблемы зноў заслянілі ад мяне цеплыню і спагаду чалавека, які некалі хадзіў па тых жа вулках, што і я, гуляў у футбол на нашым школьным стадыёне, ганяў галубоў і марыў пра неба.

Гэты мех рыбы быў больш чым падарунак, быў больш чым прывітанне земляка. Я не ведаў, як гэта назваць і расчулмачыць, але гэта быў мой Полацк, які з'яднаў і звёў нас, яго дзяцей так далёка ад дому, каб адчуць, што мы свае, што людзі адной зямлі.

Рыбу мы елі ў "Маладагвардзейцу", які ўрэшце дагналі, а дзве духмяныя тлустыя рыбіны я нават давёз дадому. Пра майго земляка я больш нічога не чуў. Нават думаю зараз: калі б сустрэў яго на вуліцах Полацка, ці пазнаў бы? Але на сэрцы, калі ўспамінаю тую сустрэчу, зноў хораша і светла.

# Таямнічы, арыгінальны, касмічны...

На мінулым тыдні ў Купалаўскім музеі была наладжана вечарына з такой назвай, прымеркаваная да 85-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка. На ёй прысутнічалі сын паэта Максім Яўгенавіч Скурко, пісьменнік Сяргей Панізнік, навучэнцы педагагічнай вучэльні імя Максіма Танка, школьнікі і шчырыя прыхільнікі паэзіі Танка. Зала была перапоўнена, што сведчыць аб папулярнасці паэта, аб захаванасці ў яго Слова. Дзейнічала выстава, на якой былі прадстаўлены выданні Максіма Танка, унікальныя фотаздымкі, выяўленыя ў фондах музея і ў асабістых калекцыях.

Максім Танк... Таямнічы, арыгінальны, кас-мічны. Такім ён паўстае перад намі праз свае творы. Але ёсць яшчэ Танк-чалавек. Пра яго—сціплага, добразычлівага, таварыскага, вясёлага чалавека, добрага сем'яніна, свайго бацьку — гаварыў Максім Яўгенавіч. А пра Максіма Танка — карыфея нацыянальнай літаратуры —падзяліўся ўспамінамі Сяргей Панізнік — творчы хроснік і прадаўжальнік ідэй, якімі жыў і ў якія верыў паэт.

Гучала паэзія Танка — цудоўная, вытанчаная, высока інтэлектуальная. Паэзія, якая заклікае да філасофскіх роздумаў аб жыцці, аб чалавеку.

Шмат згадвалася пра апошні зборнік — "ERRATA". Вершы для Максіма Танка былі і шчасцем, і абавязкам, і мукай. І да апошніх дзён жыцця ён не пакідаў тварыць, пісаць праніклёна, яскрава, з філасофскай глыбінёй. Паэт застаўся верным сабе. А нам засталася яго паэзія, як прыгажосць і праўда.

**Ала ДУБОЎКА**

# 3 кагорты першых

Украіна адзначае 130-годдзе з дня нараджэння археолага, мастацтвазнаўцы Мікалая Беляшэўскага (памёр 21 красавіка 1926 года). Але ёсць нагода ўспомніць яго добрым словам і нам, беларусам, бо М. Беляшэўскі адзін з першых у 1890 годзе пачаў даследаваць паселішчы на Заходнім Бузе і Гомельшчыне, а таксама ў Сярэднім Прыдняпроўі. Тым самым унёс пэўны ўклад і ў развіццё беларускай археалогіі.



абаперціся толькі на свае сілы, але не можам іх прызнаць. Трэба нешта вырашаць у адносінах да Шырмы...

Я тады толькі выйшаў на волю, у мяне яшчэ не было ніякіх адносін з Шырмай, ніякіх засцярог. Я прыйшоў да яго, прынёс нейкі артыкул, некалькі вершаў, прачытаў іх яму. З гэтага і пачалося ў нас сяброўства, з таго часу мы і сябравалі. Я амаль кожны дзень заходзіў да Шырмы, таму што ён жыў на вуліцы Святой Анны каля гатычнага касцёла і фактычна на яго кватэры была рэдакцыя часопіса "Летапіс ТБШ".

У яго тады склаліся цяжкія матэрыяльныя абставіны. Сям'я ж была... Каб сяк-так утрымацца, ён працаваў рэгентам царкоўнага хору, жыў якраз у будынку манастыра. Але самае непрыемнае гэта тое, што і злева, і справа атакавалі. Палякі атакавалі за беларускасць, абмяжоўвалі работу хору, не дапускалі яго выступаць на радыё і інш., і з левага боку не было падтрымкі. Гэта цягнулася да 1935 года. У 1935 годзе Шырма ціхай сапай быў рэабілітаваны. Не, афіцыйна ў друку ніхто не рэабілітоўваў, слоў, якімі асуджалі ранейшую работу кіраўніцтва ТБШ, ніхто не здымаў. Асуджэнне само развеялася як дым перад фактам працы тэлешоўдаў на ніве культуры. А гэта было выданне зборнікаў, хрэстаматыі І. Дварчаніна, лемантара, потым календара, нават сталінскай брашуры "Марксізм і нацыянальнае пытанне". Там прозвішча не пазначалася, а толькі ініцыялы І. С., але ўсё роўна кожны ведаў, што мае справу з работай І. Сталіна. А акцыі барацьбы за беларускую школу, якія праводзіліся на працягу двух гадоў?.. Усё гэта рабілася супрацоўнікамі Таварыства беларускай школы і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, хадзецкай.

Ну, а з хадэцыяй, я казаў, была дамоўленасць аб пэўным супрацоўніцтве, якая дзейнічала амаль да роспуску кампартыі ў 1938 годзе. Дарэчы, на гэтай глебе ў яе радах атрымалася разлад. На пазіцыі, прыбліжанай да народнафронтаўскай, стаялі Адам Станкевіч, Ян Пазьняк, Янка Шутовіч, Адольф Клімовіч, Язэп Найдзюк... Ну, Найдзюк быў другараднаю фігурай, ён больш займаўся друкарскімі справамі.

**— Прабачце, што перабіваю, а Ян Пазьняк таксама быў яркай асобай?**

— Ну, я вам скажу, усё ж такі гэта быў рэдактар газеты, якая адстойвала свае пазіцыі. Выступаць яму асабліва не давалі. Пасля таго, як пачаліся кантакты з падполлем, газета таксама пачала выходзіць з белымі плямамі. Польская цэнзура ўжо не ўсё прапускала. У яе была інфармацыя, што ад іх адкалоліся, пайшлі на правае крыло ксёндз Гадлеўскі, потым Шчорс, Казлоўскі... Яны пачалі выдаваць газету "Беларускі фронт" — фронт супраць фронту. А калі прыйшла Савецкая Армія, дык яны ўсе ўцяклі ў Нямеччыну.

Ну, ксяндзу Станкевічу я ніяк не мог памагчы. Размаўляючы тады са смершаўцамі, я гаварыў іх начальніку, што ў часе нямецкай акупацыі дзякуючы стараннем Станкевіча была выратавана група віленскіх камсамольцаў. Ён ім памог вызваліцца з-пад арышту. Станкевіч аказваў дапамогу таксама ў вызваленні Таўлая. Гэтыя факты былі ў яго карысць, разумееце, такія бясспрэчныя факты.

Пасля гэтых звестак у Маскве, у штабе партызанскага руху, мне неяк прапанавалі напісаць ксяндзу Адаму Станкевічу пісьмо, папрасіць, каб ён прыняў чалавека, які прыйдзе да яго. Але пасля патрэбы такой не стала і пісьма я не пісаў. Відаць, хацелі навязаць з ім цяснейшы кантакт. Ну, ужо які цяснейшы кантакт з ім патрэбна было навязваць, калі ён сам без гэтага кантакту ратаваў многіх людзей? У прыватнасці, паўтараю, Таўлая, групу камсамольцаў, партызанам памагаў.

**Гутарыў Мікола МІКУЛІЧ**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэту Віктару ЯРАЦУ з прычыны непапраўнай страты — смерці бацькі.**

**Сябры і калегі па творчым саюзе шчыра спачуваюць пісьменніку, заслужанаму дзеячу культуры Беларусі Аляксею СЛЕСАРЭНКУ з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці жонкі Валянціны Цімафееўны.**

**Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне старшаму навуковаму супрацоўніку Аксане Аляксееўне СЛЕСАРЭНЦЫ з прычыны вялікага гора — смерці маці.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Леаніду КАЗЫРУ з выпадку трагічнай смерці брата Аляксандра**

ГАСЦЁЎНЯ

# Зінаіда ДУДЗЮК: "Паэту належыць свет"

**— УГАРАДСКОЙ бібліятэцы Брэста ўвесну было адзначана 30-годдзе творчасці Зінаіды Дудзюк. 30 год працы ў літаратуры — неяк вельмі ж салідна гучыць...**

— А што зробіш? Я азірнулася і ўспомніла, што на 1967 год прыпадае мая першая публікацыя. А тут і новая кніжка падаспела — пераклад "Каньска-гарбунка", так што заадно і прэзентацыю наладзілі.

**— Даты такога роду звычайна схіляюць да настальгіі. Што згадвалася найчасцей?**

— Як з Нінай Мацяш — яшчэ незнаёмыя тады — выпадкова сустрэліся на вакзале ў Белаазёрску, абедзве ехалі на літаб'яднанне ў раёнку... Як Уладзімір Калеснік знайшоў мяне на будоўлі, прачытаўшы мае вершы... У свой час я памяняла шмат прафесій. Была тынкоўшчыцай, гарнітуршчыцай, метадыстам бюро экскурсій. Паміж усяго гэтага закончыла вячэрняе аддзяленне Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута.

**— Мусіць жа і творчыя набыткі аглядаеш? Рана ці позна ўсе мы пачынаем "лічыць курант"...**

— У параўнанні з равеснікамі мой творчы "ўраджай", мабыць, не такі значны. Тры кнігі вершаў, з дзесятак п'ес (усе пастаўлены, акрамя трох апошніх, якія трымаю пры сабе). У выдавецкім плане кніга прозы "Палонныкі жыцця" — тры аповесці і апавяданні. Ну, і п'есы для тэатра перакладаю...

**— З Брэсцкім тэатрам драмы і музыкі ў цябе любоў ці "шлюб па разліку"?**

— Я падумаю пра гэта пры выпадку. Увогуле загадчык літаратурнай часткі — работа прыемная. Аднак служба ёсць служба... Нават калі яна ў тэатры.

**— Для творчага чалавека, як я разумею, гэта не горшае месца...**

— Самае дзіўнае, што пісьменнік, як я нядаўна даведалася, не з'яўляецца работнікам культуры. Ва ўсякім разе ягоны літаратарскі стаж не ўлічваецца пры аплаце працы. Гэта стала для мяне малапрыемным адкрыццём.

**— Зіна, мяне заўсёды цікавіла, як пачувае сябе "работнік літаратуры" ў ціхім памежным гарадзе.**

— Паэт заўсёды адасоблены — дзе б ён ні жыў, і адначасова яму належыць свет. Усё залежыць ад таго, як адчувае сябе душа, як адгукаецца яна на падзеі блізкія і далёкія.

**— І што яе, душу, хвалюе сёння?**

— Тое, напрыклад, як суадносяцца дзяржаўныя законы з нормамі чалавечнасці. Калі я назіраю, што дзяржава не абараняе чалавека, а гвалціць яго, стварае невыносныя ўмовы для жыцця, то мне здаецца, што такая дзяржава не мае права на існаванне. Добра, калі побач ёсць сябры, аднадумцы, проста людзі з божай іскрай.

**— Ці можна сказаць пра пісьменнікаў-берасцейцаў, што яны дружныя?**

— Калі шчыра — я нічога не чакаю, не патрабую ад людзей, у тым ліку і ад сваіх калег. Калі мы сустракаемся на літаб'яднаннях, то хораша гутарым. Незалежна ад агульнага ўзроўню мы цікавыя адзін аднаму. У спрыяльным клімаце падрастае шмат творчай моладзі. Да яе з увагай ставяцца старшыня Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Алесь Каско і кіраўнік літаб'яднання "Заранка" Мікалай Станкевіч.

**— Ці ёсць, на твой погляд, настаўніцтва ў літаратуры?**

— Можна памагчы здольнаму маладому аўтару аваладаць пэўнай тэхнікай, прывіць густ, падбадзёрыць, падтрымаць, дапамагчы надрукаваць творы ў перыядычным выданні, але навучыць пісаць — нельга. Калі здольнасці, закладзеныя прыродай, выкарыстоўваюцца, развіваюцца штодзённаю працаю, толькі тады можна дасягнуць пэўнага поспеху. Для прыкладу магу прывесці вопыт бярозаўскай раённай газеты "Маяк", дзе кіраўніцтва ўважліва ставілася да пачаткоўцаў. Менавіта тут першыя свае творы надрукавалі Ніна Мацяш, Алесь Разанаў, Раіса Баравікова, Анатоль Казловіч, іншыя. Цяпер гэта слынныя пісьменнікі, кожны з якіх мае свой шлях, свой адметны голас.

**— Калі ты ўпершыню адчула тое, што называецца натхненнем?**

— Для мяне натхненне — як агонь, як стыхія, якую паэт імкнецца закаваць у гукі, словы, рыфмы. Раптоўная думка, адчуванне могуць узнікнуць у самых звычайных абставінах, і пры гэтым неадольна пацягне занатаваць перажытыя пачуцці. Напісаны твор — гэта ўжо прысак, а часам і проста попел, які непрыкметна развеецца ветрам часу. У гісторыі літаратуры можна згадаць шмат прыкладаў, калі творца пераржыў свае творы, бо напісаны былі яны хутчэй не агнём душы, а хітрым розумам, здатным прыстасоўвацца і служыць не вечнай ісціне, а часовай патрэбе. Першыя свае вершы напісала я пасля пятага класа, былі яны прысвечаны таму, што найбольш любіла, — жытняму полю з васількамі, а потым проста вяла вершаваны дзённік свайго разумення і адчування свету. Канечне, нічога з тых ранніх вершаў у мяне не захавалася.

У кожнага чалавека, асабліва калі ён схільны да творчасці, існуе глыбока асабістае вобразнае адчуванне свету, якое ён і ўкладае ў свае творы. Калі ж чалавек пазбаўлены гэтых здольнасцей, дык ён механічна рыфмуе радкі, але тое рыфмаванне не можа стаць фактам паэзіі.

**— Пры якіх абставінах да цябе прыходзяць самыя светлыя думкі?**

— Светлыя і цёмныя думкі прыходзяць у залежнасці ад таго, што прыносіць мне жыццё. Шмат што мяне не задавальняе ў грамадстве, абурае, выклікае адпаведнае стаўленне, якое я выказваю праз вершы, прозу або драматургію. Я ўпэўнена, што чалавек можа быць высокамаральным сам па сабе, без нейкай асаблівай рэлігійнай санкцыі, ён здатны чэрпаць духоўнасць з натуральнага гарманічнага існавання. Дзіця нараджаецца ні злосным, ні добрым, аднак грамадствам і сям'ёю яно выхоўваецца схільным да чаго заўгодна. Чалавек — вытворнае свайго асяроддзя. На жаль, на нашай зямлі ўлады пакуль яшчэ не дасягнулі такой ступені самасвядомасці і самастойнасці, каб думаць пра выхаванне гарманічнай асобы, а больш усурбаваны сённяшнімі цяжкасцямі і праблемамі. Яны не надта зазіраюць у далёкую будучыню, бо востра адчуваюць сваю часовасць. Для палітыкаў заўсёды існуе небяспека, што яны, не жадаючы страціць свой уплыў, пачынаюць саступаць масе, яе кансерватызму і зашоранасці, тады з'яўляюцца на свет божы прымітыўныя сімвалы, надуманыя вехі і этапы гістарычнага шляху. Палітыкамі кіруюць страсці, сутрацьо якіх ісціна бяссільная.

**— А табе самой не даводзілася змагацца са страсцямі?**



— Жывы чалавек заўсёды нечага хоча, адсюль і страсці. Яны, як вядома, розныя бываюць. Горш, калі твае страсці прыносяць няшчасці іншым, а значыць — маюць чорны адбітак. Таких, дзякаваць богу, у мяне не было.

**— Ты ўсім задаволена ў сваім жыцці?**

— На такое пытанне цяжка адказаць. Так ці не — я нічога не магу змяніць, ад мяне мала што залежыць. А вось сабой асабіста сапраўды незадаволена. Часта бачу, што я не такая, якой трэба было б быць. Бо ўсе творцы жывуць і як бы назіраюць самі за сабою. Хто ж можа быць бліжэй для цябе, чым ты сам?

**— У цябе ніколі не ўзнікала дылемы — сям'я ці літаратура?**

— Стараюся з адказнасцю ставіцца да таго, што раблю, і сям'я тут не выключэнне. Цяпер, калі сын дарослы, больш часу трачу на службу, чым на сям'ю. Хаця штодня хаджу на працу, выконваць нудныя, часам прымітыўныя абавязкі бывае вельмі цяжка.

**— А газету ты з-за чаго пакінула? Ты не змагла выявіцца праз журналістыку?**

— Журналістыка дае магчымасць аператыўна рэагаваць на тое, што адбываецца ў краіне, але толькі ў тым выпадку, калі твае думкі супадаюць з афіцыйнай ідэалогіяй. Інакш твае артыкулы паляцяць у рэдактарскі кошык. Я працавала ў газеце, якая па многіх прычынах не магла мець уласнай пазіцыі, таму пайшла з журналістыкі — думаю, назаўсёды. На вялікі жаль, нашы палітыкі аддаюць перавагу прынцыпу сілы, якая часта становіцца вышэй за праўду, а гэта неўзабаве прыводзіць да суцэльнай хлусні і паказухі (што мы назіралі ў савецкі час). Валоданне сродкамі масавай інфармацыі дае магчымасць зацбіраваць насельніцтва і дабівацца жаданых вынікаў на розных рэферэндумах. На такім шляху нічога добрага не пабудуеш. На шчасце, ёсць творчасць, дзе можна заставацца самой сабою.

**— Я заўважыла, што ты ахвотней гаворыш пра грамадскае, чым пра асабістае. Ці не таму, што ты закрыты чалавек?**

— А мне няма чаго асабліва хаваць.

**— А яшчэ ты выглядаеш вельмі спакойнай, цярплівай, ураўнаважанай. Гэта толькі знешняе ўражанне ці ты сапраўды такая?**

— Заўсёды імкнуся зразумець субяседніка, паставіць сябе на яго месца. Па сутнасці ўсе мае празаічныя творы (хачу спадзявацца, калі сёлета выйдзе) напісаны ў выніку сустрэч з чужымі людзьмі — у дарозе, на вакзале і г.д. Але калі здараецца гутарыць з асобамі, якія займаюцца фальсіфікацыяй беларускай гісторыі, зневажаюць нашу культуру і мову, прыніжаюць народ, тады бываю катэгарычнай і непрадказальнай.

**— А вершы прыходзяць часта?**

— Яны прыходзяць, калі ім трэба, — у транспарце, на вуліцы, ноччу, калі не спіцца... І вельмі розныя — то рыфмаваныя, то не.

*За што нас, грэшных,*
*Бог карае?*
*Не толькі памяць адбірае,*
*Але душу, сумленне нават!*
*Згубілі добрых*
*продкаў славу,*
*Як жабракі,*
*глядзім на свет.*
*Пазыч нам розуму, сусед!*

**— Наконт суседа ты усур'ёз ці жартам?**

— Мне імпануе заглыбленая ў пачуццё і філасофію паэзія, аднак я не адмаўляю іронію, сатыру. Бо важна не толькі тое, пра што пішуць, але і як! Калі сустракаю ў газетах, часопісах, кнігах нечыя адметныя радкі — шчыра радуюся і ганаруся, што беларуская літаратура мае вялікі патэнцыял.

Гутарыла
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Што такое камерцыя (паводле Амброза Бірса): А адбірае ў Б тое, што належала В, гэны ў парадку кампенсацыі вытрасае кішэні ў Г, грошы якога здабыты падманам у Д... — і так далей па алфавіце, калі ты сам мазгавіты і не жывеш па інерцыі, няхай яе чэрці.

●

Грыміць наверсе, хоць ідзе зіма, відаць, і там канцэнсусу няма. Зіхціць маланкі ў сто тысяч ват, няўжо ў іх такі электарат? Наўрад!

●

— Не знае нот, а дырыгуе — чуў пра бязглуздзіцу такую? — Ды як не чуць, а што благога, вось я з нарады ў самога, дык там ніводная істота не знала ні адзінай ноты, а гаварылі пра культуру, пра музыку замест сумбуру.

●

Сябру-раманісту. Што мая фігура ў літаратуры, колькі гэтай масы ў мініяцюры? Колькі гэтых думак на адзінку масы, колькі іх у суме, калі точыш лясы? Толькі што пракудай часам абзываюць, ат! — няхай смяюцца, лепш, чым пазяхаюць.

●

Самае дзіўнае, што мог уявіць сабе чалавек, — крывізну прастор‌ы, ён убачыў у люстэрку смеху.

●

"Саюз нерушимый", выцягнуты з нафталіну, рэкамендаваны нам як сумесны гімн. Дзве краіны пры адной кавацiне — такога не ведаў нават Гінес. Задыхаючыся, у братніх абдымках, цвердзім на матыў адзінага гімна: "Союз нерушимый", хворы "неизлечимо"...

●

І Мінск, і Брэст, і Хатынь у космасе не фантомы, малыя беларускія планеты астраномам добра знаёмы. Родныя нашы найменні, заезджы француз нагадаў яшчэ адно: "Канкурэнты фірмы, — сказаў, — пацярпелі поўнае Беразіно".

●

"Ворагі народа"... "Генеральная лінія"... "Страціле пільнасць"... Выразы савецкага часу, статкавай нашай дэбільнасці. Іван Якаўлевіч Лепешаў, слынны беларускі мовавед, выпусціце сатырычны даведнік "Фразеалагічнаму слоўніку" ўслед. Раскладзіце саветызмы па паліцах, абазначце па катэгорыях, можа, гэта дапаможа нам не паўтарыцца ў гісторыі.

●

Энгельс не меў рацыі: малпа параўналася з чалавекам не тады, як пайшла на задніх лапках, а тады, як пачала пляваць у столь.

●

— Чаго табе не стае ў калектыве, гаротны? — Самоты. — Што ты — супроць гармоніі? — Не — супроць калоніі.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5647
Нумар падпісаны ў друк 2.10.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 5960/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12